тэлевізар. Дзякуем за ўклад працы і жадаем далейшых поспехаў.

У 1962 годзе эстрада «Лявоніха» дала 268 канцэртаў. Да верасня 1963 года — 125 канцэртаў. На працягу амаль 3-х гадоў свайго існавання «Лявоніха» дала 780 канцэртаў.



Фесты́н у Грабняку

## ЭКСКУРСІІ

БГКТ арганізуе экскурсіі для членаў Таварыства і ўстаноў супрацоўнічаючых з намі, выкарыстоўваючы свой транспарт. У справаздачным перыядзе адбылося 112 экскурсій, з якіх скарыстала звыш 6000 асоб. У асноўным былі гэта мастацкія гурткі, гурткі БГКТ і школы. Сарганізавана некалькі далёкіх экскурсій бясплатна, у тым ліку для членаў праўленняў аддзелаў, як узнагароду за грамадскую працу.



Вучні з Лукі і Тарнопаля ў Белавежы. Экскурсія арганізавана Беларускім таварыствам

## СУПРАЦОЎНІЦТВА З ІНШЫМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ

Супрацоўнічаем мы з Польскім радыё ў Беластоку і радыёвузламі ў паветах, з інспектаратамі асветы, кураторыум, Міністэрствам асветы і настаўнікамі, аб чым ужо ўспаміналася раней. Супрацоўнічаем таксама з бібліятэкамі. Мы вельмі задаволены з супрацоўніцтва з рэфератамі культуры павятовых рад нарадовых і аддзелам культуры ВРН у Беластоку, з Міністэрствам культуры. Утрымоўваем кантакты з ВДК. Многа дапамагаюць нам грамадскія арганізацыі ТППР, ЗМВ, ЛЖ, некаторыя ПЗГ-сы.

Усім гэтым арганізацыям Галоўнае праўленне БГКТ выражае шчырую падзяку за супрацоўніцтва і дапамогу ў рэалізацыі статутовых заданняў.

З прыемнасцю сцвярджаем, што добра ўкладаецца супрацоўніцтва з партыйнымі ўладамі і падзаручным над намі органам — Міністэрствам унутраных спраў і яму падпарадкаванымі органамі. Словы шчырай падзякі кіруем таварышам з Ваяводскага камітэта ПАРП, усім членам камісіі па нацыянальных справах, якая дзейнічае пры Ваяводскім камітэце, для павятовых камітэтаў у Гайнаўцы, Бельску, Саколцы, Дуброве, Сямяцічах.

Нельга без хвалявання гаварыць аб нашым супрацоўніцтве з таварыствамі іншых нацыянальных меншасцей. Велымі добра ўкладваецца супрацоўніцтва з Літоўскім таварыствам. Кожны год ЛТСК запрашае эстраду «Лявоніха» на двухтыднёвыя гастролі. Некалькі разоў наведваў літоўскае асяроддзе наш Калектыў песні і танца. БГКТ аказала сваім суседзям нават невялікую фінансавую дапамогу на выпуск першага нумара газеты «Аўшра». Зараз будынак нашага таварыства будзе месцам працы новасарганізаванага гуртка ЛТСК у Беластоку.

Жывыя кантакты ўтрымоўвае БГКТ з Белоксам у Мінску. Ужо ўпаміналася, што Беларускае Таварыства культурнай сувязі з заграніцай прысылае нам бясплатна вельмі цікавыя фотавыстаўкі, кніжкі, часопісы, магнітафонныя плёнкі і г.д.

Супрацоўнічаем мы і з аддзелам Украінскага таварыства ў Банях Мазурскіх. Актыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку і «Лявоніха» наведалі ўкраінскае асяроддзе, а актыў УТСК са



У Беластоку адбыўся канцэрт калектыва Украінскага таварыства ў Польшчы

сваім калектывам зладжыў рэвізіт і даў вялікі канцэрт на Беласточчыне. Калектывы галоўных праўленняў супольна далі 2 канцэрты ў Беластоку.

Развіваецца супрацоўніцтва з аддзелам Рускага асветнага таварыства ў Беластоку.

## АРГАНІЗАЦЫЙНЫЯ СПРАВЫ

На працягу мінулай трэцяй каленцыі наша арганізацыя ўзрасла амаль у 2 разы.

Арганізацыйны ўзрост у паасобных гадах і аддзелах паказвае наступная табліца:

| Назва Аддзела | 1960 | | 1961 | | 1962 | | 1963 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | гурт. | член. | гурт. | член. | гурт. | член. | гурт. | член. |
| 1. Беластоцкі | 5 | 95 | 10 | 175 | 12 | 194 | 14 | 217 |
| 2. Беласток горад | 1 | 380 | 1 | 458 | 1 | 574 | 2 | 621 |
| 3. Бельскі | 39 | 964 | 40 | 1014 | 40 | 1128 | 41 | 1288 |
| 4. Варшаўскі | 1 | 90 | 1 | 116 | 1 | 135 | 1 | 173 |
| 5. Дуброўскі | — | — | — | — | 4 | 115 | 4 | 120 |
| 6. Гайнаўскі | 37 | 627 | 42 | 678 | 46 | 976 | 47 | 1257 |
| 7. Сямяціцкі | 10 | 149 | 15 | 210 | 17 | 293 | 17 | 283 |
| 8. Сакольскі | 15 | 300 | 23 | 436 | 25 | 488 | 25 | 518 |
| 9. Гурток Шчэцін | 1 | 30 | — | — | — | — | — | — |
| Разам | 109 | 2635 | 132 | 3087 | 146 | 3903 | 151 | 4477 |



Удзельнікі канферэнцыі ў Беластоку

Беручы пад увагу нашыя сучасныя магчымасці трэба лічыць, што арганізацыйная сетка БГКТ ёсць разбудаваная дастаткова, неабходна яе ўмацаваць. Але разам з узростам ролі БГКТ і павелічэннем ліку актыву існуюць патрэбы далейшай арганізацыйнай разбудовы Таварыства на Беласточчыне і ў іншых ваяводствах Польшчы.

Вялікім недахопам у арганізацыйнай працы ГП ёсць слабое аплачванне членскіх складчын.

У 1960 годзе ўплыло 10063 злотых гэта азначае, што 840 членаў поўнасцю аплаціла складчыны. А вось як выглядала справа ў наступных гадах:

| Паветы | 1961 г. у % | 1962 г. у % |
|---|---|---|
| 1. Беластоцкі | 55 | 25 |
| 2. Беласток горад | 54 | 50 |
| 3. Бельскі | 2 | 6,5 |
| 4. Варшаўскі | 50 | 40 |
| 5. Гайнаўскі | 10 | 10 |
| 6. Сакольскі | 9 | 9 |
| 7. Сямяціцкі | 50 | 33 |



Канферэнцыя ў Гарадку

Параўноўваючы даныя бачым, што ўзрост ліку членаў не ідзе ў пары з аплачваннем складчын. Дагэтуль складчыны збіраў у асноўным інструктар ГП. Неабходна, каб гэтай справай заняліся скарбнікі гурткоў і скарбнікі аддзелаў, а іх рэвізійныя камісіі звярнулі на гэта ўвагу.



Канферэнцыя ў Бельску

## ПРАЦА КАМІСІЙ

Пры нашым Таварыстве працуе тры грамадскія камісіі і два творчыя аб'яднанні. Камісіі адбываюць па 3—4 пасяджэнні ў год, на якіх выпрацоўваюць напрамкі дзейнасці БГКТ і прадстаўляюць Прэзідыум дзеля зацвярджэння і рэалізацыі.

І так Камісія прапаганды адбыла 10 пасяджэнняў. Абсуджаліся тут выдавецкія справы, праца лектарскай групы, гутаркі праз радыёвузлы, ацэньваласея «Ніва», «Зорка» і г.д.

Камісія асветы адбыла 7 пасяджэнняў, на якіх абсуджаліся напрамкі асветнай працы ў ГП, пытанні актуалізацыі праграмы навучання і падручнікаў, выдавецтва ГП для дзяцей, спосабы рэалізацыі пастаноў V пленум ГП і інш.

Камісія культуры адбыла 6 пасяджэнняў. Былі абмеркаваныя справы рэпертуару Калектыва песні і танца, эстрады «Лявоніха», ацэньвалася клубная праца ў Беластоку.

## ЛІТАРАТУРНАЕ АБ'ЯДНАННЕ

Добрай працай выказалася літаратурнае аб'яднанне «Белавежа». Налічвае яно каля 20 асоб паэтаў і празаікаў, якія пражываюць ва ўсіх ваяводствах Польшчы. Працамі літаб'яднання кіруе 3-аса-

бова: прэзідыум на чале з Алесем Барскім. Кожны год адбываецца 2-дзённы семінар. З мэтай азнаямлення вучняў сярэдніх школ з творчасцю паасобных паэтаў ва ўсіх ліцэях, дзе навучаецца беларуская мова праводзіліся выязныя семінары і сустрэчы. Трыбунай літаб'яднання з'яўляецца літаратурная старонка «Белавежа» ў «Ніве». Незалежна ад гэтага творы аўтараў друкуюцца ў «Зорцы» і ўсіх выдавецтвах ГП. Некаторыя члены літаб'яднання ўжо дачакаліся сваіх выданняў. Напрыклад выдадзена зборнік вершаў Алеся Барскага «Белавежскія матывы».



Старшыня літаратурнага аб'яднання А. Барскі

## НАВУКОВЫ ГУРТОК

Навуковы гурток зараз налічвае звыш 30 членаў. Пасяджэнні гуртка адбываюцца пры кожнай патрэбе абмеркавання публікацый і паасобных прац. Асноўным напрамкам дзейнасці гуртка з'яўляецца апрацоўка гістарычных даведак з нашага мінулага. Гурток адбыў 11 пасяджэнняў, на якіх падрыхтаваў першы зборнік навуковых прац выдадзены ў 1961 годзе, а зараз падрыхтоўвае наступны зборнік тэматычна звязаны з родам Беластоцкай Зямлі. Пры гурток утрымоўвае кантакты вядомыя навукоўцы з Лодзі, Познаня, Варшавы, з Беласточчыны.

## ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ

**Беларускага грамадска - культурнага таварыства**

1. Азябла Янка
2. Альшэўскі Язэп
3. Андрэюк Лідзія
4. Антанюк Уладзімір

5. Баршчэўскі Аляксандр
6. Бялецкая Лідзія
7. Валкавыцкі Георгі
8. Вішэнка Янка
9. Врублеўскі Яўген
10. Глэмбоцкая Яўгенія
11. Дзун Васіль
12. Другавец Лявон
13. Дэмяновіч Макар
14. Карпюк Мікола
15. Кастыцэвіч Яраслаў
16. Кіндзюк Янка
17. Красоўскі Мікола
18. Крэйза Сяргей
19. Ластаўка Пётр
20. Лебядзінскі Мікола
21. Ляшчынскі Кастусь
22. Майсеня Кастусь
23. Макаль Аляксандр
24. Міруць Мікола
25. Пікцюк Барыс
26. Рафаловіч Аляксандр
27. Рудчык Максім
28. Самоцік Мікола
29. Санюковіч Пётр
30. Семянюк Рыгор
31. Тропак Анастасія
32. Туронак Юры
33. Харкевіч Аляксандр
34. Хмялеўскі Міхась
35. Храноўскі Аляксандр
36. Швед Віктар
37. Шыманюк Сымон
33. Юзвюк Уладзімір

**Прэзідыум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства**

1. Хмялеўскі Міхась - старшыня
2. Самоцік Мікола — намеснік
3. Юзвюк Уладзімір - сакратар
4. Бялецкая Лідзія — член
5. Валкавыцкі Георгі — „
6. Ластаўка Пётр — „
7. Майсеня Кастусь — „
8. Рафаловіч Аляксандр — „

**Рэвізійная камісія**

1. Галёнка Хведар - старшыня
2. Грэсь Янка - намеснік
3. Кунах Аляксандр - сакратар
4. Гайдук Мікола - член
5. Кізевіч Піліп „

# У кругу выхаваўчых спраў

Памыляецца той, хто надта верыць словам беларускай прыказкі: «Якім ягня нарадзілася, такім яго і воўк з'есць». Значыць, калі Мікола злодзей — такі вылаць лёс дадзены яму ўжо пры нараджэнні, а калі ён нарадзіўся добрым — застанецца добрым назаўсёды, хаця б невядома якіх брыдот людзі яго вучылі.



Справы беларускіх школ заўсёды хвалявалі Яраслава Кастыцэвіча, дырэктара Беларускага ліцэя ў Бельску

Усё гэта няпраўда. На характар чалавека вялікі ўплыў мае выхаванне г. зн. тое, чаго навучаць яго бацькі, школа і само жыццё.

У гэтым артыкуле пастараемся разгледзіць вузкі круг выхаваўчых спраў, якія вынікаюць з факту, што выхаванак наш нарадзіўся пад страхою беларускага селяніна, што ён па нацыянальнасці — беларус. Магчыма дзед яго сядзеў у турме за беларускую шко-

лу. і магчыма, што зараз маці яго пытае са здзіўленнем: «Навошта гэтая беларуская мова ў школе? Што яна дае?»

Зразумела, што змаганне за беларускую школу ў час санацыі абазначала змаганне за роўныя правы беларускага народа, за належнае месца беларусаў у тагачаснай дзяржаве. Зараз жа беларусы атрымалі гэтыя правы ад Народнай улады і магчымасць свабоднага навучання дзяцей па роднай мове. У сувязі з гэтым, аднак сустракаюцца выпадкі, калі бацькі не разумеючы патрэбы навучання беларускай мовы лічаць, што навучанне яе ў школах не мае ніякага сэнсу. Аб гэтым пагутарым далей. Зараз жа паспрабуем адказаць на закід, які часта чуецца ў нашых вёсках:

«Навучанне беларускай мовы ў школе перашкаджае навучанню іншых прадметаў, у прыватнасці, польскай мовы» — гавораць некаторыя.

Закід гэты адтуль, што дзеці, якія на штодзень карыстаюцца выключна беларускім дыялектам, маюць большыя цяжкасці ў засваенні польскай мовы, чым дзеці з гарадскога асяроддзя.

Неабходна зразумець, што навучанне беларускай мовы ні ў чым тут аднак не перашкаджае, наадварот — дапамагае яно ў пераадольванні гэтых цяжкасцей.

Дзіцяці, якое ўпершыню сустракаецца са школай, значна лягчэй пераадолець нясмеласць, сарамяжлівасць, увайсці ў рытм жыцця школы, калі настаўнік звяртаецца да яго на роднай мове. Настаўнік хутчэй у такіх выпадках зможа наблізіцца да дзіцяці, знайсці адпаведныя сродкі ўздзеяння на яго. Адсюль і агульныя вынікі навучання могуць быць лепшымі.

Дзеці, якія добра ведаюць правілы беларускай мовы, могуць іх параўнаць з правіламі польскай мовы. Такім чынам ствараюцца магчымасці ўбачыць свае памылкі і больш інтэнсіўна весці барацьбу з беларусізмамі на ўроках польскай мовы.

Сцвярджаюць гэта многія настаўнікі, якія працуюць у нашым асяроддзі.

— Я вучыла тады, калі беларускую мову вывучалі дзеці ў школе ад першага класа і вучу цяпер, калі вывучаюць толькі ў старэйшых класах. Прыходжу да вываду, што ў першым выпадку былі многа лепшыя вынікі і ў выхаванні, і ў навучанні дзяцей — гаварыла Мар'я Дамброўская — настаўніца пачатковай школы ў Плёсках на настаўніцкай канферэнцыі, якая адбылася ў Цялушках.

— Шмат гадоў з'яўляюся настаўніцай польскай мовы ў нашых школах і трэба сказаць, што навучанне беларускай мовы многа мне дапамагае ў навучанні польскай мовы — гаварыла Ірына Буслоўская на гэтай жа канферэнцыі.

Нельга недацэньваць выхаваўчых і дыдактычных вартасцей навучання роднай мовы, паўтарае часта Мар'ян Філановіч, загадчык школы ў Паўночным Востраве.

Неабходна зразумець, што паміж школай і асяроддзем існуе цесная, дыялектычная сувязь, што школа і асяроддзе гэта два асноўныя фактары, якія маюць раішаючы ўплыў на выхаванне чалавека. Нельга забываць, што дзіця вырастае на канкрэтнай глебе канкрэтнага асяроддзя, што з гэтым асяроддзем яно неразрыўна звязана, выносіць яно з яго акрэсленыя пачуцці, погляды, жыццёвыя звычкі і г.д.

Зразумела тады, што кожнае асяроддзе патрабуе спецыфічных форм і метадаў працы школы. Канкрэтызуючы вышэй сказанае трэба ведаць, што школа павінна ўлічваць элементы асяроддзя ў наступным плане:

1) Выкарыстоўваць усё, што ў ім станоўчае, прагрэсіўнае (прагрэсіўныя моманты ў гісторыі, нарастанне новага сацыялістычнага зместу, прыклады станоўчых людзей).

2) Перамагаць яго адмоўныя бакі (адсталыя погляды, забабоны, недахопы культуры жыцця).

3) Улічваць у працы школы характэрныя для акрэсленага асяроддзя элементы этнічнага характару (мова, фальклор, абрады і г.д.)

Не лічыцца з рысамі характэрнымі для дадзенага асяроддзя можа толькі школа, якая адарвалася ад жыцця, навучанне ў якой праводзіцца дагматычным спосабам. Такое навучанне — простае перачанне нашым педагагічным ідэям.



Мар'ян Фіjановіч кіраўнік школы ў Вострава

Не спыняемся тут над канкрэтнымі формамі, якія гэтая сувязь школы і асяроддзя прыме. Гэта ўжо зусім іншая праблема. Коратка разгледзім неабходнасць такога ўзаемадзеяння таму, што вынікаюць з гэтага важныя для навучання ў нашым асяроддзі вывады.

Вось вытрымка з добра знанай нам усім працы «Zarys pedagogiki», дзе выдатны педагог Богдан Сухадольскі так гаворыць аб цікавячых нас справах:

„Jeżeli przy nauczaniu werbalnym można opierać się na fikcji uniwersalnego środowiska to już w nauczaniu poglądowym niezbędny jest kontakt dziecka ze środowiskiem, a w nauczaniu opartym na samodzielności myślenia i działania muszą być różne składniki środowiska.

Tak więc nauczanie języka ojczystego nawiązuje do gwary miejscowej, do bajek, podań i pieśni, nauczanie historii — do pamiątek historycznych



Беларускае слова

regionu, nauczanie rysunku — do sztuki regionalnej, wychowanie fizyczne — do gier i zabaw ludowych.

**Ta treść rodzinna powinna nadawać każdej szkole początkowej odrębne oblicze".**

У нашых умовах гаворка і фальклор, аб якіх гаворыць аўтар вытрымкі — гэта гаворка і фальклор беларускага люду, гісторыя рэгіёну, гэта гісторыя змагання беларускага народа за нацыянальную і сацыяльную справядлівасць, а мясцовае мастацтва і культура — нішто іншае як беларускае мастацтва і культура.

Прыведзеная вытрымка адносіцца да этнічных раёнаў. Нашае асяроддзе аднак гэта не толькі «рэгіён», гэта нацыянальная меншасць. Стварыла яна не толькі багатую народную культуру і літаратуру але і сваё сапраўднае мастацтва багатае каштоўнымі прагрэсіўнымі момантамі, якія паспяхова можна выкарыстоўваць у працэсе навучання і выхавання.

Не ўлічванне гэтых момантаў можа толькі адмоўна адбіцца ня працэсе выхавання. Без гэтага немагчыма нармальная праца школы, немагчыма рэалізацыя асноўных яе прынцыпаў, а перш за ўсё прынцыпа сувязі школы з жыццём.

Але вось і другі бок праблемы. У нашых сучасных умовах немагчыма з'яўляецца эфектыўнае выхаванне без прывівання дзіцяці любві да ўсяго, што найбольш яму блізкае, што звязана з яго дзяцінствам, любві да прыроды, да блізкіх людзей, да сваёй вёскі, сваёй аколіцы, да стопоўчага ў яе мінулым і новага лепшага ў яе будучым. Без гэтага элементарнага пачуцця прывязанасці да роднага нельга потым сфарміраваць вышэйшых пачуццяў патрыятызму, любві да радзімы, прывязанасці да людзей і г.д.

Гэта зусім зразумелае і згоднае з асноўнымі прынцыпамі педагогікі: «пераход ад таго, што найбольш блізкае і простае да таго, што складанае і далёкае».

Наша школа дае маладому чалавеку ўсе магчымасці знайсці ўласцівую дарогу ў жыцці, здабыць уласцівыя жыццёвыя ідэалы. Аднак асновай, грунтам гэтых ідэалаў будзе дзіцячае пачуццё любві да роднага. Без гэтага грунту выхаванне не дасць вынікаў.

Не ўсе настаўнікі ўласціва гэта разумеюць. І так, напрыклад, на адной з настаўніцкіх канферэнцый у час дыскусіі над гэтай праблемай адна з настаўніц Бельскага павета гаварыла:

— «Я не ведаю чаго я ўласціва маю вучыць дзяцей, любві да беларускага люду ці любві да нашай айчыны — Польшчы?».

На нашу думку дылема гэта — штучная. Любоў да нашай айчыны Польшчы ў нашых дзяцей немагчыма без любві да беларускага люду.

Патрыятычнае пачуццё мусіць мець пункт апоры ў нейкай канкрэтнай мясцовасці сваёй краіны. Немагчыма абстрактна «любіць» Францыю, Іспанію. Можна быць толькі сімпатыкам гэтых краін.

З пачуццем прывязанасці да роднага цесна звязана пачуццё гордасці з усяго роднага, а пачуцці гэтыя немагчымы без шырэйшых ведаў аб сучаснасці і мінулым асяроддзя, з якога чалавек выводзіцца, аб яго жыцці і культуры.



Урачыстае адкрыццё новай школы ў Лупляніцы, Беластоцкі павет

Школа робіць вялікую крыўду дзецям, калі не дае гэтых ведаў і гэтага пачуцця гордасці. Ды не толькі дзецям, але ўсяму грамадству. Вырошчваецца такім чынам маладыя душы акалечаныя, з касмапалітычным ці наогул абыякавым падыходам да жыцця.

Зараз на жаль, нашае выхаванне выпускае многа такіх грамадскіх калек. Гаворачы «выхаванне» маю на думцы цэлы комплекс стымулаў выхаваўчага, ідэйнага, ці сацыялагічнага характару, якія маюць свой уплыў на фармаванне асабовасці маладога чалавека.

Назіраецца, менавіта, амаль паўсюдна такую адмоўную, на нашу думку, з'яву. Беларусы, асабліва моладзь, знайшоўшыся ў іншым асяроддзі стараюцца ўсімі даступнымі ім сродкамі скрыць свае паходжанне (ад змены імя, прозвішча і вераывызнання ўключна). Называюць гэта часта «працэсам натуральнай асіміляцыі». У сапраўднасці аднак даная з'ява мала мае супольнага з так званай «натуральнай асіміляцыяй».

Асіміляваным у польскай культуры быў вялікі паэт Юліян Тувім, якому аднак не перашкаджала з сімпатыяй расказваючы аб блізкіх яго сэрцу спакойных, працавітых яўрэях сцвердзіць:

„Jestem Polakiem, a jednocześnie również jestem Żydem".

Абсалютна асіміляваным з'яўляецца сябра Мойсёр, загадчык школы ў Малінніках, натомак пасяліўшагася тут француза з 1812 года, аднак пры кожным зручным выпадку з годнасцю сцвярджае: «Я — француз».

Асіміляваліся ў пэўным сэнсе ўсе мы. Усім нам Польшча адзінай айчынай, усе мы неразрыўна зрасліся з яе духовым, грамадскім і матэрыяльным бытам.

Справа ў тым, што беларусы, якія панічна скрываюць сваё паходжанне звычайна найменш асіміляваны ў асяроддзі ў якім яны пражываюць, а часта зусім не асіміляваны польскай культурай. Яна ім наогул чужая і няведама. Няведама ім часта і беларуская культура. Яны знаюць толькі прымітыў жыцця сваёй вёскі, які бачаць у маштабе свайго вузкага кругагляду.

Адыход беларусаў ад усяго беларускага мае характар нейкага хваравлівага комплекса, што з'яўляецца шкодным з пункту гледжання адзінкі як і грамадства. Шкоднае яно, бо путае пачуцці, інтэлект і свабоду дзеяння чалавека путамі непатрэбнага страху перад «разаблачэннем», бо выклікае неапраўданую абіду да людзей, да бацькоў, да асяроддзя, бо акалечвае асабовасць, сілаю вырываючы натуральную чалавечую прывязаннасць да свайго «гнязда».

Чалавек непатрэбна траціць свае сілы, сваю жыццёвую энергію растрачвае на тое, каб скрыцца ў паспалітасці, дапасавацца да акружаючага, нягледзячы на тое, чым з'яўляецца гэтае акружаючае і якія яго вартасці.

Прычынай гэтай з'явы з'яўляюцца недахопы нашага выхавання і пэўныя закаранелыя ў грамадстве стэрэатыпы ідэйна-культурнага характару.

На гэты комплекс хварэюць не толькі многія беларусы, але і многія палякі. З роўнай заўзятасцю скрываюць яны сваё вясковае, ці «крэсавае» паходжанне, так як «вёска» ці «крэсы» на думку закаранелых стэрэатыпаў — нешта надта паніжаючае.

Школа, як галоўны філар выхавання, мае шырокія магчымасці супрацьдзеяння гэтай з'яве. Не заўсёды, аднак, магчымасці гэтыя выкарыстоўвае. Бо ці ж можна інакш акрэсліць хаця б наступны выпадак.

Экскурсія дзяцей адной са школ Сакольшчыны набліжалася да Варшавы. У сувязі з тым настаўніца заявіла:

«Дзеці, зразумейце, што набліжаемся да Варшавы і пара каб вы перасталі гаварыць па-беларуску».

Ва ўяўленні настаўніцы — Варшава і беларуская мова рэчы несумяшчальныя.

У выхаванні дзяцей і моладзі з асяроддзя беларускай меншасці важную ролю можа адыграць уласціва арганізаваны працэс навучання беларускай мовы. Аднак урокі беларускай мовы ў ня-

кім выпадку справы не вырашаюць. Навучанне беларускай мовы з'яўляецца толькі адным з элементаў спецыфічнага працэса выхавання ў асяроддзі беларускай меншасці. Уласцівае становішча беларускай мовы з'яўляецца функцыяй уласцівай арганізацыі цэлага выхаваўчага працэса школы.

Там, дзе ўласцівая атмасфера школы, дзе настаўнікі разумеюць тую вялікую ролю, якую ў жыцці кожнага чалавека адыгрывае яго «родны кут», там патрэба навучання роднай мовы ўзнікае сама па сабе.

Школа, аднак, хаця вельмі важны выхаваўчы фактар, усё ж такі — не адзіны. Апрача школы чалавека выхоўвае асяроддзе арганізацыя.

Розныя тыпы грамадскіх і маладзёжных арганізацый стараюцца ўздзейнічаць на асяроддзе, выхаваць ці перавыхаваць яго. Праца паасобных арганізацый сярод моладзі — гэта ў асноўным выхаваўчая праца. Такой, між іншым, з'яўляецца і дзейнасць БГКТ, мэтай якога з'яўляецца мабілізаванне беларускага насельніцтва да ўсеагульнага будаўніцтва сацыялізма ў Польшчы і ўмацаванне вузаў брацкага сужыцця беларускага насельніцтва з польскім насельніцтвам.

УЛ. ПАЎЛЮЧУК

# Каб мова не раздзяляла

Неяк летам 1961 года давялося мне ўдзельнічаць у арганізацыі фестыну прысвечанага пяцігоддзю БГКТ, які вырашана наладзіць каля Нараўкі, над рэчкаю. Патрэбна было намаляваць вялікую колькасць абʼяваў і я прыняўся за работу. Ды раптам пачуў за плячыма голас светліцовага.

— Чаму вы робіце аб'явы па беларускай мове? — сказаў ён, але па яго вачах цяжка было зразумець, ці ён пытаецца, ці ён баіцца нечага. Толькі пасля, калі ён буркнуў штосьці пра «польскую мову, бо яна дзяржаўная», я зразумеў, што мой Валодзя крыху здзіўлены, і крыху перапалоханы гэткай маёю «смеласцю».

Такія, напалавіну здзіўленыя і напалавіну перапалоханыя вочы сустракаў я часта падчас сваіх службовых вандровак ад сяла да сяла.

Будучы інструктарам ГП БГКТ часта выступаў у вёсках з прамовамі і гутаркамі на роднай мове. І заўсёды адчуваў тое непрыемнае ўражанне, што людзі менш задумоўваюцца над сэнсам маіх слоў, а на іх тварах, пераважна, адмалёўвасцца нейкая асалода ды дабротная ўсмешка, быццам бы хочуць сказаць мне: «Вось дык маладзец! Па-нашаму гаворыць!..»

На заканчэнне такога сходу ўстае іхні сусед, солтыс, і падае да ведама жыхароў, што ў чацвер прыедзе ветэрынар. Стары намагаецца гаварыць па-польску. Вінавата паглядае ў мой бок, як бы апраўдоўваючыся: «Ты з Беларускага таварыства і табе можна па-свойму расказваць але я, браце, з'яўляюся на дзяржаўнай службе!..»

Некаторыя даслоўна тлумачыліся гэтак перада мною, хаця я іх не прасіў пра гэта. Прытым велічалі мяне, як нейкага паўлегальнага героя, які нібы падымае дух у народзе. Ясна, што ў такой атмасферы цяжка гаварыць пра ўзаемны давер і шчырую дружбу паміж людзьмі. Перашкаджае гэтаму, між іншым, міф аб польскай мове, як дзяржаўнай і абавязваючай нат' солтыса ў сваім агароддзі, які паведамляе сваіх суседзяў, усялякіх Іваноў, Сцяпанаў і Рыгораў аб тым, што прыедзе ветэрынар.

Неразуменне законаў народнай улады вынікае не са злой волі паасобных людзей, але проста таму, што справе інтэрнацыянальнага выхавання мас удзяляецца ў нас надта мала ўвагі. Поўную характарыстыку нашых недахопаў даў прадстаўнік Міністэрства культуры і мастацтва, дырэктар Чэслаў Калужны, кажучы, што падтрымоўваем барацьбу народаў Афрыкі за сваю незалежнасць і свабоду, але не бачым у сябе таго, што беларус ці украінец нярэдка тоіць нават сваё нацыянальнае паходжанне.

У культурным развіцці нашай вёскі асабліва важнай з'яўляецца справа беларуска - польскага сужыцця.

Фармаванне сяброўскіх адносін і ўзаемнага даверу паміж людзьмі розных нацый не з'яўляецца лёгкай задачай. Давер чалавека чалавеку нараджаецца ў супольнай працы, супольных перажываннях.

Настаўніца — полька прыехала ў Сакольскую вёску, дзе шчыра пасябравала са сваёй супрацоўніцай, беларускай настаўніцай.

«З гэтай пары я стала цікавіцца беларускай мовай, я палюбіла гэтую мову» — пісала яна пазней у «Ніве». Колькі ж глыбокай пашаны крыецца ў гэтых словах!

Жыццё дае нам шмат такіх прыгожых прыкладаў. Вось Мар'ян Філановіч, кіраўнік школы ў Паўночным Востраве на Сакольшчыне арганізуе вечаровы курс беларускай мовы і літаратуры, а яго калега па службе, Генрых Гаузе ў Лeўках Бельскага павета, стварыў адзін з лепшых беларускіх мастацкіх гурткоў. Журналіст «Газеты Беластоцкай» ганарыцца зборнікам «Рунь», як агульнаваяводскім дасягненнем, а не толькі беларусаў, пішучы:

«Сёлета Дні асветы, кніжкі і друку Беласточчына вітае п е р ш ы м у сваёй гісторыі ў л а с н ы м паэтычным зборнікам». («Газета Беластоцка» № 111 1959 год.) Зноў кіраўнік ПДК у Міхалове, Здзіслаў Глушэк, ініцыяваў дзень беларускай культуры.

Гэтыя і ім падобныя актывісты — палякі бачаць патрэбы свайго, беларускага асяроддзя і ідуць насустрач гэтых патрэб.

Апрача школы, у вясковым асяроддзі дзейнічае многа другіх арганізацый і ўстаноў культурна - асветнага тыпу, у тым ліку і БГКТ. У сувязі з гэтым узнікаюць неразумныя дыскусіі аб тым, што беларускую праграму можа меці толькі той мастацкі гурток, якім апякуецца БГКТ. Некаторыя людзі не могуць зразумець той простай ісціны, што мастацкі гурток павінен адпавядаць патрэбам данага асяроддзя — у гэтым выпадку, беларускага асяроддзя. І хто б яго не арганізаваў — ці гэта ЛОК, ЗМВ, ЛК — ён можа і павінен быць беларускім гуртком, і ніякім іншым «а ля падляшскім». Ад неразбярыхі ў галіне культурнай дзейнасці простая дарога да яшчэ больш шкоднай у нашым жыцці блытаніцы. Напрыклад, інструктарка ЗМВ, Вера, прыязджае абслужыць свой любімы гурток ЗМВ у вёсцы К. на Бельшчыне. Перад сходам вядзе ажыўленую размову з сяброўкамі. Гаворыць па-беларуску, ну, бо ўсе тут гэтак гавораць. Але, калі прыйшлося пачынаць афіцыяльны сход, тады пераключае ўсіх на польскую мову. Яна не ўяўляе сабе, што пра ЗМВ можна гаварыць і па-свойму, па-беларуску. Значыць ЗМВ не «наша» арганізацыя але толькі БГКТ «наша» арганізацыя. Значыць, — ЗМВ «польская» арганізацыя. Неўзаметку расце і мацнее нацыяналізм.

Забіраючы голас у дыскусіі адзін з удзельнікаў пленума ГП БГКТ сказаў:

«Калі б аграномы, лекары, інжынеры, партыйныя і дзяржаўныя дзеячы беларускага паходжання гаварылі з беларусамі па-беларуску, гэта ў вялікай ступені пазволіла б ім устанавіць цяснейшую сувязь з вясковымі масамі».

Ва ўмовах адсутнасці нацыянальнага прыгнёту гэта абазначае, стварыць уласцівы клімат для фармавання духоўнага аблічча нашай вёскі, што мае першараднае ідэйнае значэнне.

Беларуская мова павінна стацца сродкам грамадзянскага выхавання мас нароўні з польскай мовай, што адпавядае асноўным палажэнням народнай улады. Імкнуцца да гэтага павінны ўсе актыўныя сілы без розніцы іх нацыянальнай прыналежнасці, як палякі так і беларусы.

САКРАТ ЯНОВІЧ

# ПРАБЛЕМЫ ГАСПАДАРЧАГА РАЗВІЦЦЯ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Беластоцкае ваяводства займае паўночна-ўсходнюю частку Польшчы. Паверхня яго выносіць 23.145 км$^2$, што становіць 7,4% паверхні ўсёй краіны. Па велічыні ваяводства займае чацвертае месца ў краіне.

На тэрыторыі ваяводства выступаюць наступныя мінеральныя багацці: керамічная гліна, жвір, крэйда, дарнавая руда, бітумічныя лупнякі, каменне. Наогул Беластоцкае ваяводства мае характар сельскагаспадарчы, дзе развіваецца харчовая і апрацоўчая прамысловасць.

У састаў ваяводства ўваходзіць [illegible] паветаў і 326 грамад. У ваяводстве маем 33 гарады. Паводле статыстыкі з 1961 г. у ваяводстве пражывала 1.115 тысяч насельніцтва.

У час II сусветнай вайны гаспадарка ваяводства ў пaважнай ступені была разбурана. Асабліва пацярпелі гарады такія як: Заблудаў, Голдап, Гоняндз, Драгічын, Беласток, Сямяцічы, Алецка, Кнышын і інш. У іншых мястэчках таксама страты ў жылых дамах выносілі каля 50%. Пасля вайны наступіў хуткі рост жыллёвага будаўніцтва. Гарады Беласточчыны змянілі сваё аблічча. Асабліва гэта відавочна на прыкладзе Беластока. Знікаюць руіны і бясплянава забудаваныя вуліцы. Паўстаюць новыя ўпарадкаваныя кварталы, новаабсталяваныя магазіны, шэраг паркаў і сквераў.

Толькі на працягу 1955—1960 гадоў аддадзена да агульнага ўжытку 34.015 жылых кватэр. Высокімі тэмпамі развіваецца прамысловасць Беласточчыны. У 1950 — 1956 гадах пабудавана тут тэкстыльныя камбінаты ў Фастах, Замбраве, прадпрыемства пасмантэрыйнай прамысловасці, фабрыку шпыжондаў і ўхвытаў у Беластоку, рашарню ільну ў Беластоку, Бельску-Падляшскім і Элку, лесапільню ў Чорнай Беластоцкай і Аўгустове, фермен-

тоўню тытуню ў Аўгустове і шмат іншых. У 1956—61 гадах паўсталі новыя прадпрыемствы між іншым такія як: пасмантарыйнае прадпрыемства ў Граеве, фабрыка абутку ў Аўгустове, прадпрыемства апрацоўкі фруктаў і агародніны ў Высокім - Мазавецкім, прадпрыемства харчовай прамысловасці ў Элку і інш.

Паводле дадзеных з 1961 года ў ваяводстве налічвасцца 15.342 прамысловыя прадпрыемствы, з чаго ў Беластоцкі павет прыпадае 123, Бельскі — 81, Гайнаўскі — 58, Сямяціцкі — 79.

У сувязі з развіццём прамысловасці наступіў адплыў насельніцтва да гарадоў, зменшылася колькасць насельніцтва, якое працавала ў сельскай гаспадарцы, усё гэта аздаравіла сельскую гаспадарку, зліквідавана, так характэрнае міжваеннай Польшчы, беспрацоўе.

Дзякуючы павышэнню вытворчасці ў сельскай гаспадарцы, у 1961 годзе ў Беластоцкім ваяводстве сабрана наступны ўраджай: 15,4 ц чатырох збожжавых культур, 14,7 ц/га пшаніцы, 15,6 ц/га жыта, 14,8 ц/га ячменю, 276 ц/га кармавых буракоў і 169 ц/га бульбы.

Шмат увагі прысвячаецца меліярацыі палш і сенажацей сярод якіх неабходна ўлічыць багна Кувасы (паверхня 7000 га), даліна ракі Нурэц — 7600 га, багна Сямецке ў Граеўскім павеце (3140 га).

5-гадовы план на гады 1961 — 1965 прадбачвае на меліярацыю 22% агульных сум прызначаных на мясцовыя патрэбы.

Найбольшым меліярацыйным аб'ектам у бягучай 5-годцы з'яўляецца «Багна Візна» паверхня якога выносіць 9.700 га.

Вялікае значэнне для развіцця гаспадаркі Беласточчыны мае электрыфікацыя, якой ахоплена цэлае ваяводства. У міжваенным перыядзе на Беласточчыне было толькі 18 вёсак, якія мелі электрычнае святло. Да канца 1963 года электрыфікавана на Беласточчыне амаль палову ўсіх гаспадарак.

Паважныя змены адбыліся ў галіне механізацыі сельскай гаспадаркі. Паводле дадзеных з 1961 г. у ваяводстве налічвалася 1.801 трактараў, 32.042 малацілкі, 7.967 сеўнікаў і 1.430 снапавязалак.

Узрасла колькасць сельскагаспадарчых гурткоў, якія займаюцца папулярызацыяй перадавых метадаў агратэхнікі і заатэхнікі і вядуць барацьбу з устарэлым спосабам гаспадарання, якім з'яўляецца трохпалёўка. У паўднёва - ўсходняй частцы ваяводства колькасць сельскагаспадарчых гурткоў выглядала наступна: Бельскі павет — 112 сельгасгурткоў, Беластоцкі — 117, Сямяціцкі — 99, Сакольскі — 116, Дуброўскі — 52, Гайнаўскі — 62.

Вялікае значэнне для развіцця гаспадаркі мае разбудова новых камунікацыйных шляхоў. Вялікую ролю на Беласточчыне

спаўняюць грамадскія чыны, дзякуючы якім у гадах 1956 — 1960 пабудавана 494,4 км новых дарог. У сучасны момант Беласточчына займае адно з вядучых месц у краіне ў распаўсюджанні такой формы пабудовы дарог. Сярод паветаў паўднёва - ўсходняй Беласточчыны на асаблівую ўвагу заслугоўвае Гайнаўскі павет.

Гаспадарка Беласточчыны патрабуе высокакваліфікаваных кадраў. Адсюль падрыхтоўка спецыялістаў з'яўляецца пільнай неабходнасцю.

Паводле пастановы ўраду з 1950 года ў Беластоку паклікана да жыцця медінстытут (Акадэмія Мэдычна), муры якой апусціла ў 1962 годзе 800 лекараў медыцыны. Акадэмія з'яўляецца сур'ёзным навукова-даследчым пунктам.

Паводле дадзеных з 1961 года на 10.000 жыхароў ваяводства прыпадае 7 лекараў. З агульнага ліку лекараў, якіх у 1961 годзе налічвалася ў ваяводстве 713, у Беластоку працавала 388, тлумачыцца гэта тым, што ў Беластоку сканцэнтраваны клінікі рознай спецыяльнасці.

А вось як выглядае агульны лік лекараў у паасобных паветах паўднёва-ўсходняй Беласточчыны.

| Паветы | Агульная колькасць лекараў медыцыны | Лік лекараў на 10.000 асоб |
|---|---|---|
| Сямяціцкі | 16 | 2,3 |
| Гайнаўскі | 17 | 2,9 |
| Бельскі | 17 | 2,4 |
| Беластоцкі | 45 | 5,0 |
| Сакольскі | 24 | 3,6 |
| Дуброўскі | 7 | 2,5 |

У Беластоку таксама паклікэна да жыцця вышэйшая тэхнічная ўстанова, якой з'яўляецца Вячэрняя інжынерская школа. Гэтая ўстанова на 3-ох аддзяленнях: механічным, будаўнічым і электрычным рыхтуе кадры спецыялістаў для будаўніцтва і прамысловасці.

Паклікание да жыцця 2-х вышэйшых устаноў з'яўляецца вялікім дасягненнем у гісторыі Беласточчыны.

Пасля вайны паўстала на Беласточчыне шырокая сетка сярэдніх школ завадовых і тэхнікаў лік якіх выносіць 53, а засадгічых школ завадовых — 40.

Пасля другой сусветнай вайны ліквідавана аналфабетызм. У папулярызацыі культуры на вёсцы шмат зрабілі кіно, дамы

культуры, вясковыя святліцы. Лік святліц узрос з 38 у 1947 годзе да 295 у 1960 годзе. Лік радыёпрыёмнікаў у 1960 годзе выносіў 66.611 штук. У апошні час жыхары Беласточчыны маюць магчымасць карыстаць з тэлебачання.

Нягледзячы на сельскагаспадарчы характар ваяводства на Беласточчыне ў апошні час адбываюцца вялікія змены. У далейшым на Беласточчыне прадугледжваецца развіццё прамысловасці. Асаблівая ўвага будзе звернута на раўнамерную лакалізацыю прамысловых прадпрыемстваў. Побач Беластока ўзрасце значэнне такіх гарадоў як: Элк, Ломжа, Гайнаўка.

Галоўным заданием у галіне сельскай гаспадаркі з'яўляецца поўнае загаспадаранне зялёных угоддзяў, развіццё жывёлагадоўлі, а таксама ўзрост вытворчасці караняплодаў.

Дзякуючы развіццю паасобных галін вытворчасці ўзрасце ўдзел Беласточчыны ва ўзросце дзяржаўных даходаў.

мгр А. Барвіюк

—

# ДЗВЕ ГАСПАДАРКІ

Часта суседзі і аднавяскоўцы называюць аднаго гаспадара добрым, а другога дрэнным. Як асноўную прычыну кантрасту бачаць іх адносіны да фізічнай працы. Несумненна, што ў нашых умовах, калі большасць сельскагаспадарчых работ выконваецца ўручную, працаздольнасць мае вялікае значэнне. Аднак, вопыт паказвае, што на гаспадарцы трэба не толькі рабіць, але ўмець працаваць разумна, пастаянна самаадукавацца і крыху больш калькуляваць.

Вось дзве гаспадаркі ў вёсцы Міневічы, Беластоцкага павета (прозвішчы сялян не падаем). Знаходзяцца яны ў аднолькавых прыродна-эканамічных умовах, маюць па 8 гектараў зямельных угоддзяў, у тым ліку — палову агульнай плошчы складаеворыва, чацвертую частку — сенажаці і апошнія гектары прызначаюцца пад пашу і лес. Аднак гэтыя гаспадары зусім інакш гаспадараць, у сувязі з тым умовы іх жыцця розныя. Перш за ўсё звернем увагу на велічыню плошчы, якая прызначаецца на пасеў паасобных культур у I і II гаспадарках.

| Назва культур | I гаспадарка ў га | II гаспадарка ў га |
|---|---|---|
| жыта | 0,60 | 1,00 |
| пшаніца | 0,10 | 0,30 |
| авёс | 0,30 | 1,00 |
| ячмень | 0,10 | — |
| іншыя зерневыя | — | 0,10 |
| бульба | 0,60 | 1,00 |
| валакністыя расліны | — | 0,10 |
| кармавыя травы | 1,50 | 0,30 |
| гародніна | 0,60 | 0,10 |
| сад | 0,20 | 0,10 |
| Разам | 4,00 | 4,00 |

Гадоўля дамашняй жывёлы ў гэтых гаспадароў выглядае так

| | | |
|---|---|---|
| каровы | 3 | 2 |
| свінні | 2 | 6 |
| коні | 1 | 1 |
| авечкі | — | — |
| дам. птушка | 40 | 15 |

З вышэй прыведзенай таблічкі бачым, што зерневыя культуры ў І-ай гаспадарцы займаюць малую плошчу — усяго яе чацвертую частку, у ІІ-ой — звыш паловы. Нягледзячы на розніцу ў засеянай паверхні, аднак зборы зерневых у абедзвюх гаспадарках амаль аднолькавыя. У першай гаспадарцы высокі ўраджай дасягаецца дзякуючы правільнаму пладазмену, селекцыі насення, прымяненню штучных угнаенняў і г.д. Калі ўважліва прыглядзецца, то заўважым, што ў другім выпадку пасля пасеваў бульбы пасяўной плошчы не астаецца многа. Усё тут накіравана на самавыстарчальнасць. Такая гаспадарка была добрай сто год таму назад, калі не было «хлонных» рынкаў, транспарту і г. д. Зараз яна дае ўтрыманне для сям'і, але грашавы даход з яе вельмі малы. У год можна прадаць некалькі цэнтнераў збожжавых культур, або бульбы, крыху ільну, гародніны, фруктаў, аднаго — два вяпрукі, яйкі, малако. Агульная сума даходаў не перавысіць 15 тысяч злотых.

Інакш выглядаюць справы ў І-ай гаспадарцы. Тут маларэнтоўныя зерневыя культуры займаюць мінімальную плошчу, дзеля забеспячэння ўласных патрэб. Асноўны даход плыве з пасеву палявых траў і з гародніны. Пад гэтыя культуры прызначаецца

палова ворыва. А даход? Каля 70 тысяч злотых у год (толькі малако і трускалкі даюць 60 тысяч злотых).

Гэты «добры» гаспадар не мае надзвычайнай сельскагаспадарчай адукацыі. Мае радыё і любіць слухаць «Розмаітосці рольнічэ», выпісвае 2 газеты, мае ўласную багатую бібліятэку, утрымоўвае кантакт з адміністрацыйнымі ўладамі павета, з аграномам. Кантрактуе расліны для паасобных устаноў і такую сувязь думае разгортваць шырэй. Даходы з гаспадаркі далі яму магчымасць набыць сельскагаспадарчыя машыны, як электраматор, малатарню, сячкарню, сеўнік, розныя машыны да праполкі, матацыкл, пральку і г. д. Другі гаспадар не мае ніякіх сельскагаспадарчых машын, не цікавіцца прэсай. На пытанне, чаму сее такія культуры адказаў, што зямля яго няўраджайная і што культуры гэтыя сеяліся заўсёды.

Сеяліся то яны даўно, але аднаго называюць гаспадаром добрым, а другога дрэнным. (У. Ю.)

---

# Натуральнае ўгнаенне

Да натуральнага ўгнаення залічваем: гной, гнаявую жыжку (gnojówka), кампосты. Асноўным відам угнаення з'яўляецца гной, у склад якога ўваходзіць: азот, фосфар, калій (potas), кальцый (wapń) і мікраэлементы.

Хімічны састаў гною ў многім залежыць ад подсцілу, веку і гатунку жывёлы. Калі, напрыклад, гаспадар да подсцілу дадае торф, тады ў гноі павялічваецца састаў азоту. Павялічваецца ён таксама і тады, калі жывёла атрымоўвае высакаякасны, багаты ў бялок, корм.

Склад гною маладняка значна бяднейшы ў сувязі з тым, што малады арганізм для свайго росту патрабуе больш пажыўных рэчываў.

Конскі і авечы гной пераважна сухі, мае шмат пажыўных рэчываў, якія лёгка засвойваюцца раслінамі. Свіны і каровы гной мае шмат вады, пажыўныя рэчывы засвойваюцца раслінамі значна цяжэй.

У сярэднім састаў гною пры 75% вады выглядае так:

| | |
|---|---|
| азот | — 0,5% |
| фосфар | — 0,25% |
| калій (potas) | — 0,6% |

Апрача таго ў яго састаў уваходзіць шмат іншых рэчываў.

Адсюль вывад, што натуральны гной з'яўляецца найбольш

высакавартасным, у яго састаў уваходзяць усе неабходныя для жыцця раслін пажыўныя рэчывы.

Напэўна кожнага селяніна цікавіць, колькі пажыўных рэчываў будзе ў 300 цэнтнерах гною, якія даем на адзін гектар.

У дозе 300 цэнтнераў гною маем напрыклад:

| | |
|---|---|
| 150 кг | азоту |
| 75 кг | фосфару |
| 180 кг | калія (potas) |

На першы погляд здаецца, што даная доза дае нам вялікую колькасць пажыўных рэчываў. Аднак не з'яўляецца яна дастатковай, каб асягнуць з гектара 350 цэнтнераў буракоў.

Неабходна ўлічваць такі факт, што ў першым годзе пасля ўгнойвання расліны толькі часткова выкарыстоўваюць састаў гною. Азоту, напрыклад, выкарыстоўваюць каля 45 кг, фосфару менш, бо толькі 15 кг, а калія 120 кг. (з дозы 300 ц гною).



Механізацыя ў Градалях

Дзеля таго, каб атрымаць добры збор буракоў, неабходна даваць мінеральныя ўгнаенні, з якіх расліна ў першым годзе пасля ўгнаення набірае: да 90% азоту, 30% фосфару і 70% калія.

Усім вядома, што гной на Беласточчыне перахоўваецца ў хлявах. Такі спосаб перахоўвання даволі добра ўплывае на якасць гною, але шкодна ўздзейнічае на здароўе жывёлы. У такіх хлявах неабходна ўвесці вентыляцыю. Аманяк, які выдзяляецца з гною можна да некаторай ступені нетралізаваць, дадаючы да подсцілу 1/3 частку торфу.

Гной можна перахоўваць не ў хлявах, а ў спецыяльна падрыхтаваных месцах. Гнаявую жыжку, у такім выпадку, трэба перахоўваць у спецыяльных бетонных умяшчальнях.

Маем два спосабы перахоўвання гною.

1-шы Вітанберскі засноўваецца на тым, што гной пасля зляжэння яго ў гнаёўні мошна ўтоптваецца. Пры другім спосабе, які носіць назву Кранца гной скідаюць свабодна, а пасля, калі ён утварае тэмпературу каля 60°С тады яго ўтоптваюць.

Доследы паказваюць, што першы спосаб перахоўвання гною значна лепшы. У ім захоўваецца больш азоту і дзякуючы ферментацыі атрымоўваем больш гною.

Такі гной значна лепш падносіць ураджайнасць глебы.

У вёсцы Навасады, Беластоцкага павета, былі праведзены доследы, у выніку якіх сяляне пераканаліся, што гной, які даўжэйшы час перахоўваўся на гнаёўні даў значна лепшы ўраджай, бо 372 цэнтнеры цукровых буракоў з аднаго гектара, калі выкарыстоўваючы свежы гной атрымана толькі 332 цэнтнеры цукровых буракоў з аднаго гектара.

Найлепш гной на поле вывозіць у пахмурныя дні. Трэба памятаць, што вывезены гной неабходна як найхутчэй прыараць. У іншым выпадку, калі ён паляжыць 2 дні ў невялікіх кучах, то ўтраціць 30% азоту, а пасля 14 дзён, гной утрачвае 45% азоту.

Растрэсены гной прыворваем адразу, у іншым выпадку атрымаем паважныя страты ўраджаю.

Калі, напрыклад, не прыараць гной на працягу ■ гадзін, тады атрымоўваем ураджай на 10% ніжэйшы, апазненне на адзін дзень прыносіць страты ўраджаю на 30%, а пасля 4-х дзён атрымоўваем ураджай на 40% ніжэйшы.

Доследы паказваюць, што ўраджай бульбы на гноі завораным непасрэдна быў значна большы ў параўнанні з тым, які атрымана на гноі завораным пасля 2-х дзён.

Гаспадары, якія маюць вялікую колькасць саломы, а мала жывога інвентара могуць выраблядь гной штучна. Дзеля гэтага салому трэба парэзаць на кароткія (10 см) кавалкі. Налажыць пласт саломы, паліць вадой, і пасыпаць штучнымі азотнымі ўгнаеннямі. Такім спосабам укладаем кучу прыкладна 2 м вышыні. На 1000 кг саломы даем 4000 літраў вады і 30 кг 20,5% азатняку.

Да арганічнага ўгнаення залічваем таксама кампосты. Можам вырабляць розныя кампосты ў залежнасці ад іх складу. Гной можам спалучаць з торфам у розных колькасцях, напрыклад, адну частку гною з дзвюма або і больш часткамі торфу. Чым больш даем гною, тым лепшы атрымоўваем кампост. Кампаставанне адбываецца наступным спосабам.

На роўнай паверхні зямлі спачатку ўкладаем 30—50 см слой

торфу, затым слой гною, які прысыпаем зямлёй. Такім спосабам укладваем кучу, 2 м вышыні і 2 м шырыні ў асновы. Даўжыня кучы можа быць розная ў залежнасці ад колькасці гною і торфу.

Кампастовую кучу прысыпаюць зямлёй таўшчынёй 15—20 см. Час ад часу кучу можна паліваць вадой, або гнаявой жыжкай.

Кампост з'яўляецца гатовым тады, калі састаўляе маналітную чорную масу. Кампаставанне працягваецца 3 — 4 месяцы.

Кампаставанне торфу з гнаявой жыжкай адбываецца падобна. Торф залівaецца гнаявой жыжкай. На адну тону нізкага торфу даем 2 тоны гнаявой жыжкі, а на тону высокага торфу даем 3—4 тоны гнаявой жыжкі. Кампаставанне працягваецца 1—2 месяцы.

Да кампосту торфу можам таксама ўжываць мінеральныя рэчывы, як вапну і (annofos). Вапны даем 25—50 кг на 1 тону торфу з мэтай змяншэння кіслаты торфу. Найчасцей вапну ўжываем, калі кампастуем торф высокі.

Да кампостаў можам таксама ўпатрабляць розныя адпады, напрыклад, бульбоўнік, лісце, смецце, попел з дроў і інш. З гэтых адпадаў атрымоўваем гаспадарчыя кампосты.

Калі да кампостаў ужываем пустазелле і іншыя адпады занячышчаныя пустазеллем, тады неабходна іх паліць гарачай вадой, або змяшаць з гашанай вапнай.

Кампастовую кучу робім у зацененым месцы. На падклад бярэм слой торфу або зямлі, на які ўкладваем адпадкі. Адпадкі прыкрываем зямлёй і такім спосабам укладваем кучу ў 1,5 м вышыні, пасля чаго ўсё прыкрываем зямлёй. Кучу паліваем звычайнай вадой або вадой з гною. Праз некалькі месяцаў кучу трэба перарабіць адварочваючы паасобныя пласты. Гатовы кампост атрымоўваем пасля 6—12 месяцаў або і даўжэй, у залежнасці ад матэрыялаў, якія былі ўзяты да прадукцыі кампосту.

# Штучнае ўгнаенне

Штучнае ўгнаенне падзяляецца на 3 групы:

а) азотнае ўгнаенне
б) фосфарнае ўгнаенне
в) каліінае ўгнаенне (потасовэ)

### Азотнае ўгнаенне

Састаўной і галоўнай часткай азотнага ўгнаення з'яўляецца азот. Азотнае ўгнаенне падзяляецца на 4 групы: угнаенне амоновэ, салетшанэ, салетшано-амоновэ і амідовэ.

Да аманавага ўгнаення залічваем сярчан амону, хлёрэк амону, вапнь амону. У састаў сярчану амону ўваходзіць 20,5% чыстага азоту і 75% квасу сярковага. Адзначаецца кіслатой, у сувязі з тым яго не можам ужываць на кіслых глебах. Падобныя ўласцівасці і застасаванне мае хлёрэк амону ў састаў якога ўваходзіць 26% азоту.

Вапнь амону ўжываем на глебах кіслых. У састаў яго ўваходзіць 20,5% азоту.

Усе ўгнаенні лёгка распускаюцца ў вадзе.

### Салетранае ўгнаенне

Да салетранага ўгнаення залічваем: вапнёвую, садовую і патасовую салетру. Уласцівасці ўгнаенняў падобныя. Ужываюцца на кіслых глебах, хаця могуць мець застасаванне і на іншых глебах.

Салетра вапнёва і салетра садова змяшчаюць па 15,5% азоту. У састаў салетры патасовай уваходзіць 14% азоту і 46% потасу. Усе ўгнаенні хутка пранікаюць да глыбокіх слаёў зямлі, у сувязі з гэтым не трэба іх ужываць «на запас».

### Угнаенне салетрана-амонавэ

Тут неабходна адрозніць салетру амонову і салетшак. Салетра аманова змяшчае 34% азоту. Добра ўбірае вільгаць, у сувязі з



Механізацыя палявых работ у спулдзельні прадукцыйнай у Вульцы Нурэцкай

тым неабходна яе перахоўваць у сухім месцы, не можна змешваць яе з іншымі арганічнымі рэчывамі, напрыклад з вуглем, можа быць прычынай пажару.

Салетрак з'яўляецца ўгнаеннем у састаў якога ўваходзіць 20,5% азоту. Ёсць таксама салетрак, які мае 25% азоту. Ужываем на кіслыя глебы, але можам ім угнойваць і іншыя глебы.

### Угнаенне амідовэ

Да гэтай групы ўгнаення залічваем: азатняк і мочнік. Азатняк змяшчае 20,5% азоту. З'яўляецца добрым угнаеннем на кіслыя глебы, апрача рухомых пяскоў і тарфавіска. У састаў азатняку ўваходзіць атрута ў сувязі з тым неабходна стасаваць правілы асцярогі.

На лёгкіх глебах яго неабходна высяваць на 14 дзён перад севам раслін, а на пяжкіх глебах прыкладна 10 дзён перад пасевам раслін, у іншым выпадку можам знішчыць расліны.

У састаў мочніка ўваходзіць 46% азоту і з'яўляецца ён значна практычнейшы пры сяўбе і прыносіць лепшы ўраджай.

### Фосфарныя ўгнаенні

Да іх залічваем суперфасфат, супертамасыну, тамасыну і інш. Усе яны спрыяюць умацаванню сцябла расліны. Пабольшваюць накапленне цукру ў цукровых бураках, павялічваюць накапленне крухмалу ў бульбе, да некаторых ступені забяспечваюць расліны перад марозам. У пылістым суперфасфаце маем 17,5% фосфару, ужываецца ён на някіслых глебах. На кіслых глебах высяваем суперфасфат у гранулянаванай форме, які мае 19% фосфару. Можам яго высяваць разам з насеннем.

Добрым угнаеннем на кіслыя глебы з'яўляецца супертамасына, у састаў якой уваходзіць 27% фосфару і 40% вапны. Гэта ўніверсальнае ўгнаенне, якое можам ужываць на ўсіх глебах. Тамасына з'яўляецца добрым угнаеннем пад расліны, якія доўга вегетуюць. Доўга распускаецца ў вадзе. У яе састаў уваходзіць 15—17% фосфару.

### Калійнае ўгнаенне (потасовэ)

Да калійнага ўгнаення залічваем патасовую соль, каініт і сярчан патасу.

Гэтыя ўгнаенні забяспечваюць расліны перад выляганнем, павялічваюць колькасць крухмалу ў бульбе і цукру ў цукровых бураках.

Соль патасова бывае 40% і 20%. У большасці ўжываецца 40% соль.

Каініт з'яўляецца ўгнаеннем нізкапрацэнтным. Высяваецца на поле восенню, або ранняй вясной.

Сярчан патасу змяшчае каля 50% калія (патасу), з'яўляецца добрым угнаеннем пад тытунь і бульбу.

На кіслых глебах не хапае вапны, у сувязі з тым немагчыма тут ужываць угнаенняў кіслых, а між іншым такіх як: суперфасфат і сярчан амону, якія даюць дасканалыя рэзультаты на някіслых глебах. На глебах, дзе выступае вапна, калі ўжываем амонавыя ўгнаенні такія як: салетра амонова, салетрак, сярчан амону, хлёрак амону і вапнь амону неабходна прыкрыць іх культыватарам або бараной, у іншым выпадку азот улятняецца ў выглядзе аманяку.

Калі хочам атрымаць добры ўраджай неабходна даць усе тры сарты ўгнаенняў: азотнае, фосфарнае, калійнае (потасовэ), бо права мінімум гаворыць, што ўраджай збожжа залежыць ад элемента, які выступае ў глебе ў мінімальнай колькасці.

Напрыклад, маем у глебе такую колькасць азоту, што можам атрымаць ураджай 25 цэнтнераў збожжа з гектара, а фосфару маем толькі, што можам атрымаць 20 цэнтнераў збожжа з гектара, а калія (потас) толькі, што дасць нам 10 цэнтнераў збожжа. У гэтым выпадку, калі далей будзем угнойваць азотам, то атрымаем ураджай 10 цэнтнераў з гектара. Аб гэтым трэба памятаць і прымяняць усе тры сарты ўгнаенняў.

Пры ўгнойванні глебы сяляне павінны шырока выкарыстоўваць карты кіслаты і багацця глебы, якія былі апрацаваны на аснове аналізы глеб і перададзены вясковым салтысам, або для старшынь сельскагаспадарчых гурткоў.

На карце абазначаецца кіслата і багацце глебы ў фосфар і потас.

Кіслата прадугледжваецца ў 5-ці класах. Глебы моцна кіслыя абазначаюцца карычневым квадрацікам, кіслыя — чырвоным, мала кіслыя — жоўтым, някіслыя — зялёным, засадовыя — галубым.

Глебы моцна кіслыя і кіслыя неабходна ўгнойваць вапнай.

На гэтых глебах даем 10—15 цэнтнераў вапны на 1 гектар поля ў выглядзе тленку вапня на глебах цяжкіх, а на глебах лёгкіх такую ж колькасць у выглядзе вэнгляну вапня. Іншыя глебы не вымагаюць вапнавання. Да раслін, якія добра родзяць на вапнаванай глебе залічваем: люцэрну, канюшыну, рапак, буракі, пшаніцу і ячмень. На лёгка кіслых глебах удаюцца: бульба, жыта, сырадэля і авёс.

Найлепш вапнаваць поле пасля збору збожжа. На іржышча высяваем вапну і заворваем або культывуем.

мгр інж. Мірон Віталіс

---

# Аб некаторых мешаных севах

Слабыя землі Беласточчыны найбольш падходзяць да вырошчвання аўса і жоўтага лубіну. Пры вырошчванні кожнай расліны ставім пытанне: З якой мэтай гэта робім і што хочам атрымаць? — Пашу, зерно, направіць структуру глебы, атрымаць зялёнае ўгнаенне, пазбегнуць небяспекі, няўдачы пры пасеве адной культуры і г.д. Беручы пад увагу гэтыя агульныя мэты пры вырошчванні карысных раслін, Заклад Пашавых раслін ІУНГ правадзіў на гэтаму пытанню доследы, вынікі якіх бачым у ніжэй пададзеным састаўленні:

| Назва культуры | насення | ураджай з/га лубін | збожжа | разам |
|---|---|---|---|---|
| 1. Лубін жоўты папулярны 100% | 140 | 15,4 | — | 15,4 |
| 2. Авёс Аншанімскі позні 100% | 160 | — | 23,7 | 23,7 |
| 3. Лубін жоўты 100% + авёс 20% | 140+62 | 8,2 | 14,7 | 22,9 |
| 4. Лубін жоўты 50% + авёс 50% | 70+18 | 5,5 | 22,7 | 28,2 |
| 5. Жыта ярае 100% | 160 | — | 18,1 | 18,1 |
| 6. Лубін жоўты 100% + жыта ярае 20% | 140+32 | 6,8 | 9,4 | 16,2 |
| 7. Лубін жоўты 50% + жыта ярае 50% | 70+80 | 5,9 | 17,8 | 23,7 |
| 8. Ячмень яры 100% | 150 | — | 21,8 | 21,8 |
| 9. Лубін жоўты 100% + ячмень яры 20% | 140+30 | 8,0 | 13,7 | 21,7 |
| 10. Лубін жоўты 50% + ячмень 50% | 70+75 | 6,3 | 18,9 | 25,2 |

На аснове доследаў бачым, што вырошчваючы жоўты лубін у сумесі з другімі збожжавымі культурамі 50% — 50% атрымоўваем найлепшыя вынікі з гектара.

З гэтага вынікае і тое, што ў некаторых раёнах нашага ваяводства можна паменшыць колькасць гектараў пасяўных плошчаў без шкоды для гаспадаркі, беручы пад увагу колькасць атрыманага зерня. Каб даказаць гэта разгледзім ураджай: у чыстым севе з 1 га лубіну і аўса. Лубіну атрымоўваем 15,4 ц, а аўса 23,7 ц. Зводзім гэтыя цыфры да сярэдняй арыфметычнай (15,4 + 23,7 = 39,1; 39,1:2 = 19,5). Атрымоўваем 19,5 ц з 1 гектара. У мешаным севе (50% аўса і 50% лубіну) збярэм 28,2 ц з га. Калі ад 28,2 аднімем 19,5 (28,2 — 19,5 = 8,7) атрымаем 8,7. Бачым, што колькасць зерня атрыманая з аднаго гектара пры мешаным севе большая на 8,7 ц.

Пры севе 100% лубіну і 20% аўса атрымоўваем (глядзі састаўленне) 22,9 ц зерня, што пры падобных аблічэннях (22,9 — 19,5 = 3,4) дае 3,4 ц з га больш, чым пры севе адной культуры. Вырошчванне лубіну са збожжам не патрабуе амаль зусім дадатко-



Меліярацыя палёў у Чыжах

вых агратэхнічных затрат, трэба толькі падабраць позні сорт эбожжа, а пасля ўборкі і малацьбы аддзяліць насенне, з чым няма клопату.

Пры аналізе коштаў прадукцыі 1 кг насення оказваецца, што ён ніжэйшы чым пры паасобным вырошчванні таму, што сумесны ўраджай насення больцы.

Пры гэтым няма рызыка няўдачы адной з культур на лёгкіх глебах. Магчымасць шырокага выкарыстання механізацыі адыгрывае вельмі важную ролю ў перыяд навалу палявых работ.

Варта падумаць усім гаспадарам, якія вырошчваюць паасобна авёс і лубін каб паправіць гаспадарку ў гэтай галіне. Спосабу гэтага не варта прымяняць пры вырошчванні лубіну кваліфікаванага на продаж таму, што гэта абніжае ўраджай лубіну, а як вядома, цана лубіну кваліфікаванага даволі высокая і гэта не аплачваецца.

інж. М. Дэмяновіч

# Народная гаспадарка Савецкай Беларусі

У пасляваенны перыяд наступілі вялікія змены ва ўсіх галінах жыцця Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У выніку самаадданай стваральнай працы, абапіраючыся на ўзаемнае супрацоўніцтва ўсіх народаў Савецкага Саюза, беларускі народ у кароткі час не толькі ліквідаваў ваенныя разбурэнні, але і дабіўся новых, вялікіх поспехаў у развіцці ўсіх галін гаспадаркі.

Сёння Беларуская ССР — адзін з буйнейшых эканамічных раёнаў Савецкага Саюза. Па колькасці насельніцтва, якое ў 1963 г. складала 8,4 мільёна чалавек уступае яна толькі Расійскай Федэрацыі, Украіне, Казахстану і Узбекістану. Беларусь займае таксама значнае месца ў агульнасаюзнай прамысловай вытворчасці. Так, напрыклад, займаючы каля 4% насельніцтва СССР,



Плошча імя Якуба Коласа ў Мінску

Беларусь выпускае звыш 11% усіх металарэзных станкоў у СССР, 5% грузавых аўтамабіляў, каля 13% трактароў, 14% веласіпедаў, 17% матацыклаў, 10% ільняных тканін і г.д. Вырабы з маркамі беларускіх фабрык сустракаюцца ўжо не толькі ва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюза, але і экспартуюцца ў многія краіны Еўропы, Азіі і іншыя.

## Багацці зямлі беларускай

**У выніку** сістэматычных і планамерных геалагічных пошукаў, **якія** праводзіліся ў Беларусі савецкімі вучонымі, былі адкрыты новыя мінеральныя багацці, якія маюць важнае прамысловае значэнне.

**Найбольш важным** сярод разведаных энергетычных сыравін у Беларусі з'яўляецца **торф**, якога велізарныя запасы складаюць каля 5 мільярдаў тон (у пераліку на паветрана - сухі). Гэта значыць, што пры цяперашніх размерах эксплуатацыі паліва гэтага хопіць прыкладна на 500 год. Торф мае таксама вялікае значэнне, як мясцовае арганічнае ўгнаенне, а ў будучыні стане магчыма каштоўнай сыравінай для хімічнай прамысловасці.

У апошнія гады былі ўстаноўлены на Палессі месанараджэнні **нафты і каменнага вугалю**. Зараз вядуцца ў гэтым раёне далейшыя даследванні, якія магчыма пазволяць вырашыць справу эксплуатацыі гэтых відаў паліва. Пэўнае значэнне для Беларусі мае таксама гідраэнергія, так званы «белы вугаль» — энергія такіх рэк як Дзвіна, Нёман, Днепр і іншыя.

Асабліва важнае значэнне для перспектыў развіцця беларускай хіміі маюць адкрытыя на Палессі грамадныя рэсурсы **каменнай солі**, і таксама **калійных солей**. Як паказваюць падлікі запасы калійных солей у Беларусі займаюць другое месца на свеце і перавышаюць іх у такіх краінах як Злучаныя Штаты Амерыкі, Францыя, Нямеччына, Іспанія.

У Беларускай ССР разведаны вялікія рэсурсы разнастайных **мінеральных** сыравін для прамысловасці будаўнічых матэрыялаў **як** даламіты, вапнякі, крэйда, мергель, гліна, сілікатныя і кварцавыя пяскі, гравій, валуны і іншыя. Гэтыя мінералы пазваляюць развіваць вытворчасць амаль усіх будаўнічых матэрыялаў, між іншым, цэменту, сценавых блокаў і г.д.

Багатая Беларусь **лясамі**. Плошча пакрытая лесам займае тут 31,2% тэрыторыі рэспублікі, што стварае спрыяльныя ўмовы для развіцця дрэваапрацоўчай і папяровай прамысловасці.

Трэба таксама звярнуць увагу на вялікае значэнне мясцовых **сельскагаспадарчых сыравін**, як ільнавалакно і каноплі — для тэкстыльнай прамысловасці, і іншыя прадукты — для харчовай прамысловасці.

Разведка багаццяў беларускай зямлі працягваецца далей. Можна спадзявацца, што прынясе яна далейшыя поспехі ў выглядзе новых відаў мінералаў для прамысловасці.

## Развіццё прамысловасці

Асаблівая ўвага ў пасляваенным развіцці народнай гаспадаркі Беларускай ССР была звернута на хуткі рост прамысловасці, якая сёння з'яўляецца вядучай галіной эканомікі рэспублікі. На развіццё прамысловасці была накіравана пераважаючая частка капіталаўкладанняў у народную гаспадарку Беларусі. Валавая прадукцыя прамысловасці БССР у 1962 годзе ў 5,2 раза перавышала даваенны ўзровень. Асабліва хуткі рост прамысловай вытворчасці назіраецца ў Беларусі ў ажыццяўляемай зараз сямігодцы (1959—65). Так, напрыклад, у гадах 1959—1962 валавая прадукцыя прамысловасці ўзрасла на 58% замест 37% па плану. Чакаецца, што ў 1965 годзе перавысіць яна ў 2,1 раза ўзровень 1958 года.

Адначасова з хуткім ростам прамысловай прадукцыі наступаюць важныя змены ў структуры беларускай прамысловасці.

**Энергетыка і паліўная прамысловасць.** У выніку адбудовы існаваўшых перад вайной і пабудовы новых электрастанцый, вытворчасць электраэнергіі ў Беларусі дасягнула ў 1962 годзе 4,6 мільярдаў кілаватгадзін, што амаль у дзесяць разоў перавышае даваенны ўзровень. Цікава адзначыць, што сёння адна толькі Беларуская ССР прадукуе электраэнергіі ў два разы больш, чым уся дарэвалюцыйная Расія. У бліжэйшыя гады значна павялічацца магутнасці беларускіх электрастанцый, у выніку чаго вытворчасць электраэнергіі перавысіць у 1965 годзе 7 мільярдаў кілаватгадзін.

Яшчэ некалькі год таму назад асноўным відам паліва ў Беларусі быў торф. Прадукцыя гэтага паліва складала ў апошнія гады каля 9 млн тон. За гады бягучай сямігодкі будуць пабудаваны ў БССР новыя торфапрадпрыемствы, а агульная яго прадукцыя павялічыцца амаль да 15 млн. тон. Акрамя таго разгортваецца ў рэспубліцы вытворчасць тарфяных брыкетаў і паўбрыкетаў, якіх прадукцыя ў 1965 годзе перавысіць 1,5 млн тон.

Важныя змены наступяць у гады сямігодкі ў паліўным балансе Беларусі ў сувязі з пабудовай раду газаправодаў і нафтаправодаў, якімі будзе паступаць з іншых рэспублік СССР прыродны газ і нафта. Апэньваецца, што да 1965 года спажыванне газу ў Беларусі дасягне 2 млрд куб. м. у год, што раўняецца прыкладна 7 млн тон торфу. Агулам у 1965 годзе ўдзельная вага нафты і газу ў паліўным балансе Беларусі складзе каля 41% замест 4,3% у 1958 годзе, а торфу — адпаведна зменшыцца з 44,5% да 35,4%.

**Машынабудаўнічая прамысловасць** з'яўляецца найбольш раз-

вітай галінай прамысловасці Беларусі. У 1962 годзе выпускала яна вялікі асартымент металарэзных станкоў (20 тыс. штук), аўтамабіляў (22,4 тыс. штук), трактароў (45,1 тыс. штук), камбайнаў (35 тыс. штук), дзесяткі тысяч розных сельскагаспадарчых машын, электраматоры, трансфарматары і іншыя.

Беларускія машынабудаўнічыя заводы выпускаюць акрамя машын і абсталявання для прамысловасці, сельскай гаспадаркі і транспарту, таксама вялікія колькасці вырабаў шырокага ўжытку. Так, напрыклад, Мінскі мотавеласіпедны завод выпусціў у 1962 годзе 106 тысяч матацыклаў і 410 тысяч веласіпедаў, а Мінскі радыёзавод — 160 тысяч тэлевізараў і 243 тысячы радыёпрыёмнікаў і радыёл. Беларускія заводы выпусцілі ў 1962 годзе таксама 1,2 мільёна гадзіннікаў, 242 тысячы швейных машын, піяніна і цэлы рад іншых вырабаў.

У гады бягучай сямігодкі прадукцыя машынабудаўнічай прамысловасці ў Беларускай ССР павялічыцца ў 2,2 раза.

**Хімічная прамысловасць** Беларусі яшчэ некалькі год таму на-



Будова фабрыкі азотнага ўгнаення ў Гродне

зад праяўляла сур'ёзнае адставанне. Вытворчасць гэтай прамысловасці абмяжоўвалася ў асноўным вырабамі лесахіміі. У гады сямігодкі ў Беларусі ствараецца новая галіна прамысловасці — вытворчасць мінеральных угнаенняў. На базе палескіх калійных солей у 1958 годзе пачалося будаўніцтва аднаго з найбольшых у СССР Салігорскага калійнага камбіната, які дасць першую прадукцыю ў 1963 годзе. Згодна з задачамі сямігадовага плана, да 1965 года Беларуская ССР будзе выпускаць больш 20% агульнасаюзнай прадукцыі калійных угнаенняў, забяспечыць не толькі патрэбы сельскай гаспадаркі Беларусі, але будзе вывозіцца ў суседнія рэспублікі СССР а таксама ў іншыя краіны, між іншым у Польшчу. Намечана таксама будаўніцтва двух заводаў фосфарных угнаенняў у Бабруйску і Гомелі і аднаго завода азотных угнаенняў у Гродна, працягваецца будаўніцтва другога калійнага камбіната ў Салігорску.

За гады сямігодкі ў Беларусі ў 3,5 раза павялічыцца прадукцыя штучнага валакна. Будзе наладжана таксама вытворчасць вырабаў з пластмас, штучнай скуры, фарбаў, лакаў і іншых хімічных вырабаў. У Полацку будзе пабудаваны першы нафтаперапрацоўчы завод, які будзе выпускаць, між іншым, рад хімічных вырабаў атрымоўваемых на базе нафты.

**Прамысловасць будаўнічых матэрыялаў** выпускае шырокі асартымент найбольш сучасных відаў матэрыялаў неабходных для прамысловага і жыллёвага будаўніцтва. Вытворчасць цэменту павялічылася за гады 1940—1962 у пяць разоў і дасягнула 1 млн. тон, а прадукцыя аконнага шкла ўзрасла за гэты час больш чым у 6 разоў і дасягнула 12,3 млн. кв. м. У вялікіх колькасцях выпускаецца цэгла (1,4 млрд. штук), чарапіца, вапна, шыфер, гіпс і іншыя. У апошнія гады хуткі рост праяўляе вытворчасць зборных жалезабетонных канструкцый, дэталей і іншых сучасных відаў будаўнічых матэрыялаў, што спрыяе індустрыялізацыі будаўніцтва.

**Дрэваапрацоўчая прамысловасць** — адна з найбольш развітых і традыцыйных галін прамысловасці Беларусі. Нягледзячы на намечанае ў сямігодцы змяншэнне размеру рубкі лесу вытворчасць дрэваапрацоўчай і папяровай прамысловасці значна павялічыцца. Вытворчасць мэблі ўзрасце на 71% у параўнанні да 1958 года, дэталей для стандартных і тыповых дамоў на 41%, будзе арганізавана вытворчасць драўляна - стружкавых пліт і драўляна - валакністых пліт на аснове выкарыстання драўнінных адходаў. Прадукцыя паперы ў гадах 1958—62 павялічылася з 67,3 тыс. — да 77,2 тыс. тон.

**Лёгкая прамысловасць.** Валавая прадукцыя лёгкай прамысловасці Беларусі за сямігоддзе 1959—65 павялічыцца прыкладна на 70%. Вытворчасць важнейшых відаў прадукцыі гэтай прамысловасці ўзрасце ў наступным аб'ёме.

Лёткая прамысловасць Беларусі.

| Від прадукцыі | Адзінка вымярэння | 1940 | 1958 | 1965 |
|---|---|---|---|---|
| Тканіны | | | | |
| баваўняныя | млн. м. | 9,1 | 3,5 | 65,0 |
| шарсцяныя | „ „ | 0,3 | 4,4 | 19,5 |
| ільняныя | „ „ | 15,8 | 46,6 | 50,2 |
| шаўковыя | „ „ | 0,0 | 0,8 | 10,9 |
| Панчошна-шкарпеткавыя вырабы | млн. пар | 81,0 | 77,6 | 81,3 |
| Бялізнавы трыкатаж | млн. штук | 17,4 | 26,1 | 31,6 |
| Верхні трыкатаж | млн. штук | 1,2 | 3,6 | 5,8 |
| Скураны абутак | млн. пар | 9,8 | 16,1 | 24,3 |

За сямігодку будуць пабудаваны і ўведзены ў дзеянне баваўняны камбінат у Баранавічах, новы буйны ільнокамбінат у Маладзечне і другая чарга Аршанскага ільнокамбіната, ільнопрадзільная фабрыка, другі дывановы камбінат у Брэсце і многія іншыя прадпрыемствы лёгкай прамысловасці. У выніку прадукцыя баваўняных тканін узрасце за сямігоддзе ў 18 разоў, шарсцяных — у 4,4 раза, і шаўковых — у 14 разоў. Значна ўзрасце вытворчасць трыкатажнай прамысловасці і абутку.

На аснове росту сельскагаспадарчай сыравіны, прадукцыя **харчовай прамысловасці** павялічыцца за сямігоддзе на 60%, значна павялічыцца таксама прадукцыя кансерваў, якая ўжо ў 1962 годзе дасягнула 215 млн. умоўных банак. За сямігоддзе прадугледжваецца пабудаваць у Беларускай ССР чатыры новыя цукровыя заводы, што пазволіць павялічыць вытворчасць цукру прыкладна ў 6 разоў у параўнанні да 1958 года. У бліжэйшыя гады закончыцца будова новых мясакамбінатаў, малочных заводаў, малочнакансервавых, піваварных і многіх іншых прадпрыемстваў харчовай прамысловасці.

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

Уся зямля ў Беларускай ССР становіць уласнасць дзяржавы і знаходзіцца ў карыстанні калгаснага сялянства, саўгасаў і іншых дзяржаўных гаспадарак. Паводле даных на 1 лістапада 1961 года, ворная зямля ў рэспубліцы складала агулам 6,1 млн. га, з чаго 5,8 млн. га або 95% знаходзілася ў грамадскім карыстанні калгасаў, саўгасаў і іншых дзяржаўных гаспадарак, і толькі 0,3 млн. га, або 5% складала прысядзібныя ўчасткі калгасаў.

Паспяховае ажыццяўленне сацыялістычнай індустрыялізацыі

ў СССР стварыла магчымасць шырокай **механізацыі сельскай гаспадаркі.** Сёння на палях Беларусі працуюць дзесяткі тысяч трактараў, камбайнаў і іншых сельскагаспадарчых машын. Аб хуткім росце механізацыі сельскай гаспадаркі Беларусі сведчыць, між іншым, факт, што за перыяд 1940—62 колькасць трактараў павялічылася амаль у пяць з лішнім раза, а зерневых камбайнаў больш як у сем разоў.



Гадоўля рагатай жывёлы ў саўхозе «Рось»

За пасляваенны перыяд пашырана таксама пасяўная плошча ў Беларусі, галоўным чынам у выніку асушэння забалочаных зямель.

За гады 1953—1961 валовая прадукцыя сельскай гаспадаркі Беларускай ССР павялічылася на 61% і дасягнула 2.558 млн. рублёў, з чаго большую частку (57%) складала вытворчасць земляробства і меншую (43%) — жывёлагадоўлі.

Наступныя даныя характарызуюць дынаміку вытворчасці земляробства Беларусі за пасляваенныя гады.

**Вытворчасць важнейшых прадуктаў у БССР**
(тыс. тон)

| | 1940 | 1953 | 1961 | 1962 |
|---|---|---|---|---|
| Збожжавыя культуры — усе | 2,727 | 1,572 | 2,264 | 1,766 |
| Ільноваланкно | 36 | 20 | 82 | 68 |
| Цукровыя буракі | — | 91 | 391 | 367 |
| Вульба | 11,879 | 8,040 | 10,925 | 7,016 |

Вытворчасць збожжавых культур у Беларусі развівалася ў пасляваенны перыяд нездавальняюча. У той самы час прадукцыя ільновалакна павялічылася амаль у 2,5 раза. Хуткі рост праяўляла таксама вытворчасць цукровых буракоў (фабрычных) у сувязі з узрастаючым запатрабаваннем беларускіх цукровых заводаў на сыравіну. Вытворчасць бульбы складала ў 1961 годзе 10,9 млн. тон, гэта значыць амаль дасягнула даваеннага ўзроўню.



Механізацыя працаёмкіх работ

Вялікія задачы пастаўлены перад сельскай гаспадаркай Беларусі бягучым сямігадовым планам. Згодна з планам ураджайнасць збожжавых культур у Беларусі павінна ўзрасці да 1965 года да 15 цэнтнераў з га. У 1965 годзе ўраджайнасць ільну павінна скласці 4,0 ц з га, а вытворчасць ільновалакна — 110,8 тыс. тон. Да канца сямігодкі вытворчасць цукровых буракоў павінна ўзрасці да 800—900 тыс. тон, а іх ураджайнасць — да 180 ц з га. Яшчэ хутчэй мае ўзрасці вытворчасць бульбы і дасягнуць у 1965 годзе 17,1 млн. тон, пры сярэдняй ураджайнасці 160 ц з га.

Вялікія змены наступілі таксама ў жывёлагадоўлі Беларусі. За пасляваенны перыяд значна павялічылася пагалоўе і ўзрасла прадуктыўнасць гэтай галіны сельскай гаспадаркі.

**Жывёлагадоўля ў Беларусі [1])**

(тыс. тон)

| | 1941 | 1954 | 1962 | 1963 |
|---|---|---|---|---|
| Буйная рагатая жывёла | 2,844 | 2,678 | 4,056 | 4,122 |
| у тым ліку | | | | |
| Каровы | 1,956 | 1,553 | 2,130 | 2,192 |
| Свінні | 2,520 | 1,764 | 3,682 | 3,211 |
| Авечкі і козы | 2,578 | 1,632 | 1,307 | 1,125 |

[1]) стан на 1 студзеня.

Як паказваюць гэтыя даныя, стан пагалоўя ўсіх відаў жывёлы (акрамя авечак і коз) на пачатку 1963 года значна перавышаў даваенны ўзровень. Пры гэтым трэба адзначыць, што за гэты час яшчэ хутчэй павялічыўся лік жывёлы, якая знаходзіцца ў грамадскім статку калгасаў і саўгасаў. Так, напрыклад, на пачатку 1963 года ўдзел грамадскага статку калгасаў і саўгасаў у агульным пагалоўі і буйнай рагатай жывёлы складаў у Беларусі 62%, кароў — 45%, свіней — 47%, а авечак і коз — 55%. Апошняя частка жывёлы складала асабістую ўласнасць калгаснікаў, рабочых і служачых.

Адначасова з ростам пагалоўя жывёлы наглядаўся ў Беларусі рост жывёлагадоўчай вытворчасці, а ў першую чаргу — мяса і малака. Агульная вытворчасць мяса (па ўсім катэгорыям гаспадарак) дасягнула ў 1962 годзе 453 тыс. тон у забойнай вазе, супраць 275 тыс. тон у 1940 годзе. Вытворчасць малака ў рэспубліцы павялічылася за гэты перыяд з 2,0 млн. — да 3,5 млн. тон.

Згодна з задачамі сямігадовага плана, вытворчасць мяса ў Беларусі павінна дасягнуць у 1965 годзе 825 тыс. тон, малака — 5,2 — 5,4 млн. тон і яек 1,2 млрд штук супраць 0,9 млрд штук у 1962 годзе.

У бліжэйшыя гады значэнне жывёлагадоўлі ў Беларусі значна павялічыцца згодна з ажыццяўляемай спецыялізацыяй сельскай гаспадаркі рэспублікі ў напрамку жывёлагадоўлі. Пастанова V пленума ЦК КПБ сцвярджае, што Беларусь павінна быць раёнам інтэнсіўнай малочна — мясной жывёлагадоўлі, свінагадоўлі і птушкагадоўлі. Мае яна спрыяльныя прыродныя і эканамічныя ўмовы для вытворчасці таннага мяса, малака, яек і іншых прадуктаў жывёлагадоўлі.

Ю. Туронак

# БЕЛАРУСКАЕ ПЫТАННЕ У ПАЧАТКУ ІСНАВАННЯ ПОЛЬСКАЙ БУРЖУАЗНАЙ ДЗЯРЖАВЫ

За дваццаць год існавання народнай Польшчы адбыліся ў краіне велізарныя змены ў грамадскім жыцці і поглядах людзей. Сацыялістычная Польшча назаўсёды пакончыла са згубнай антысавецкай палітыкай і нацыянальнай дыскрымінацыяй.

Усё ж і сёння не толькі тэарэтычнае, але і практычнае значэнне мае правільнае асвятленне нацыянальнай палітыкі і яе класавай сутнасці буржуазна-памешчыцкай Рэчы Паспалітай, асабліва ў першых гадах існавання дзяржавы.

Задачу паказання гэтай палітыкі паставіў перад сабой Язэп Левандоўскі ў сваёй кніжцы: «Федэралізм, Літва і Беларусь у палітыцы бэльвэдэрскага абозу» — і трэба прызнаць — выразшыў яе вельмі добра.

## 1. Сацыялістычная рэвалюцыя і нацыянальнае пытанне

Кастрычніцкая рэвалюцыя разбіла царскі імперыялізм, ускалыхнула фундаментамі нямецкай імперыі і выклікала распад Аўстравенгрыі.

Атрымаліся выключна карысныя ўмовы да адбудавання польскай дзяржавы. Рэвалюцыя перакрэсліла планы дзвюх найбольш уплывовых буржуазных палітычных груп іровак: ППС — фракцыі, настаўленай на аб'яднанне польскіх зямель пад гербам аўстравянгерскага манарха і Народнай дэмакратыі, якая апіралася на царызм, ствараючы магчымасць узнікнення поўнасцю незалежнай Польшчы.

Карысная абстаноўка ўзбудзіла надзеі іншых народаў: беларусаў, літоўцаў, латышоў, украінцаў.

Бальшавікі выраш ылі нацыянальную праблему даючы поўную свабоду на самаакрэсленне.

10 снежня 1918 г. Чырвоная Армія вызваліла ад немцаў Мінск. У Мінску творыцца «Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад Беларусі», які 1 студзеня 1919 г. апублікаваў маніфест аб стварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Пасля вызвалення Вільні на пачатку 1919 г. узнікае Літоўская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. 27 лютага 1919 года гэтыя рэспублікі аб'ядноўваюцца ў адну Літоўска-Беларускую ССР.

Інтэрнацыянальная дружба народаў — гэта асноўны лозунг, які высунуў урад ЛБССР у адносінах да сваіх суседзяў. Лозунг гэты выражаў і сам склад ураду, у склад якога ўваходзіла нямала выдатных польскіх камуністычных дзеячоў; як вайсковы камісар Уншліхт, камісар справядлівасці Казлоўскі, камісар зямельных спраў Бельскі.

Польскія камуністы разлічвалі на хуткую рэвалюцыю на сваёй бацькаўшчыне і сваю дзейнасць накіроўвалі на яе падрыхтоўку ў прыгранічных раёнах. Яны станавілі частку той арміі, якая вяла бай на вуліцах Варшавы, Лодзі і Дамброўскага басейна. Многа палякаў уваходзіла таксама ў склад заходняй арміі, асабліва — заходняй дывізіі, палкі якой несілі назвы польскіх гарадоў.

Адным з першых пачынаў урада ЛБССР была нота, скіраваная да польскага ўрада з прапановай мірнага ўрэгулявання справы граніц і іншых спорных пытанняў.

## 2. Імперыялізм польскай буржуазіі

У выніку слабасці і разрозненасці пралетарыяту ў Польшчы ўладу захапілі буржуазія і памешчыкі. Нацыянальная палітыка гэтай дзяржавы пайшла па лініі інтарэсаў эксплуататарскіх класаў.

У адказ на мірныя прапановы ўрада ЛБССР урад Пілсудскага заключыў паразуменне з кіраўнікамі нямецкіх войск. Паводле ўмовы, заключанай у Беластоку, немцы забавязаліся прапусціць польскія войскі на Літву і Беларусь праз акупаваныя немцамі Беласток, Гродна, Ваўкавыск, перадаць палякам гэтыя гарады пасля адыходу нямецкіх войск, а таксама ўтрымліваць занятыя немцамі тэрыторыі да моманту пераходу іх пад уладу польскага войска.

Так буржуазія і памешчыкі змовіліся са смяротным ворагам свайго народа супроць урада рабочых і сялян.

Што ляжала ў аснове палітыкі польскіх эксплуататарскіх класаў, скіраванай на апанаванне літоўскіх, беларускіх і украінскіх зямель?

Палякі ў граніцах былога Вялікага Літоўскага Княства складалі нязначную меншасць. Паводле аблічэння польскага вучонага Малішэўскага, які ў склад палякаў залічыў 50% каталікаў-беларусаў, пражывала там 22,5 мільёнаў палякаў. Гэтага было страшэнна мала, каб лічыць гэтыя землі польскімі. Аднак гэта станавіла важны фактар, які можна было выкарыстаць для апраўдання імперыялістычных імкненняў.

Асноўным аднак было іншае. Большая частка памешчыцкага землеўладання, а таксама значная частка большых сялянскіх гаспадарак належала да палякаў. Даходзіла да гэтага тое, што дзяржаўцамі значнай часткі зямель рускіх памешчыкаў былі палякі. Гэтым пясняецца і той факт, што 52% інтэлігенцыі на Беларусі складалі палякі.

Наяўнасць польскай меншасці і згуртаванне ў іх руках значнай часткі маёмасці, уплывы польскай інтэлігенцыі, прыналеж-

насць беларускіх зямель да былой Рэчы Паспалітай служыла апраўданнем класавых інтарэсаў т. зв. «крэсавага абшарніцтва»

### 3. Нацыянальная праграма

Выражэннем палітыкі абароны памешчыцкага землеўладання на Беларусі было дзве асноўныя канцэпцыі ўсходняй палітыкі:

а) Прынцып інкарпарацыі, які ўваходзіў у праграму найбольш рэакцыйных нацыяналістычных колаў польскіх памешчыкаў і буржуазіі, якую прадстаўляла партыя «Народная дэмакратыя».

б) Прынцып федэрацыі, прызначаны так званым «Бэльвэдэрскім обозам» на чале з Пілсудскім, які падтрымоўвала ППС і сялянская партыя.

Прыхільнікі інкарпарцыянізма выказаліся за тое, каб загарнуць столькі беларускіх зямель, колькі на іх думку, можна на працягу 20—25 год скаланізаваць так, каб польскае насельніцтва станавіла большасць. Граніца Польшчы, паводле іх, мела праходзіць каля Віцебска, Магілёва і вусця Бярэзіны.

Федэралісты дамагаліся аб'яднання літоўскага, беларускага і украінскага народаў з Польшчай у форме федэратыўнай дзяржавы. Гэту канцэпцыю падтрымоўвалі прагрэсіўныя пралетарскія кругі польскага грамадства. Яна давала прывід справядлівага выражэння адносін польскага народа да ўсходніх суседзяў.

У сапраўднасці федэрацыя мела служыць тым самым мэтам, што інкарпарацыянізм: экспансіі польскага імперыялізма і ахове польскай памешчыцкай уласнасці.

«Бэльвэдэрскі абоз» разлічваў, што іншыя народы будуць у федэрацыі надпарадкаваны Польшчы і што федэрацыя створыць карысныя ўмовы для экспансіі польскага капіталу. Пры гэтым большасць з іх сур'ёзна аб федэрацыі не думала, а адносілася да гэтага пытання як да прапагандавага лозунга.

Сам правадыр «Бэльвэдэрскага абозу». Пілсудскі пасля прызнаўся, што канцэпцыяй федэрацыі паслугоўваўся толькі для ўспылення апініі заходніх дзяржаў, якія былі настаўлены да Польшчы непрыхільна. Яны верылі ў магчымасць адбудовы «адзінай і непадзельнай» белай Расіі і таму падтрымоўвалі белагвардзейшчыну, якая непрыхільным вокам глядзела на празмерныя апетыты польскага імперыялізму. З гэтай мэтай была вызначана лінія Керзона, якая агранічвала Польшчу да тэрыторыі этнічна польскай. Патрэбна была выдуманая прычына, каб уніккуць закіду заборчасці.

Таму ўласцівай буржуазным палітыкам аблудай з'яўляецца адозва Пілсудскага да насельніцтва б. Вялікага Літоўскага Княства пасля акупацыі Вільні ў красавіку 1919 г. у якой гаварылася:

...«хачу даць Вам магчымасць выражэння ўнутраных нацыя-

нальных і рэлігійных спраў так, як самі гэтага захочаце, без гвалту і націску з боку палякаў».

У сапраўднасці для федэралістаў былі абыякавымі думкі і імкненні літоўскага, беларускага і украінскага народаў. Яны не рабілі больш сур'ёзных спробаў паразумення нават з прыхільнымі гэтай канцэпцыі коламі мясцовай нацыянальнай буржуазіі, якая ў страху перад рэвалюцыяй гатова была прадаць інтарэсы сваіх народаў. Па сутнасці погляды Пілсудскага на нацыянальнае пытанне не розніліся ад поглядаў Народнай дэмакратыі. Іх супольным узорам была праграма нямецкіх гакатыстаў, якія ставілі сваёй мэтай поўнае знішчэнне палякаў, пражываючых пад нямецкім панаваннем.

Ужо ў 1904 г., будучы правадыром ППС, Пілсудскі для апраўдання імкнення да зняволення народаў у след за нямецкімі нацыяналістамі дзяліў народы на «гістарычныя» г.зн. здольныя да самастойнай барацьбы, і «негістарычныя», да якіх залічваў літоўцаў, беларусаў, латышоў, а асабліва ўкраінцаў. Гэтыя народы, па думцы Пілсудскага, маглі змагацца толькі пад кіраўніцтвам народаў «гістарычных», асабліва польскага, які займае вядучае месца нават сярод народаў «гістарычных. У выніку гэтых поглядаў была прапанавана палітыка, якая станавіла копію праграмы нямецкіх шавіністаў.

### 4. Федэралізм у практыцы і беларускія нацыяналісты

Левандоўскі правільна прадставіў класавую сутнасць нацыянальнай палітыкі польскай буржуазіі, якая ў пазнейшым развіцці польскай дзяржавы станавіла адну з прычын яе слабасці.

Ён даў трапную характарыстыку паліцыі беларускіх нацыяналістаў, згуртаваных вакол т.зв. Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі, якія, ідучы на паяску нямецкага імперыялізму, не змаглі згуртаваць вакол сябе масавага грамадскага руху.

Таму пасля паражэння Германіі яны змушаны былі шукаць падтрымкі з боку іншых дзяржаў і, калі на тэрыторыю Беларусі прыйшлі польскія войскі, выразілі гатоўнасць супрацоўнічаць з Пілсудскім.

А ў гэты час войскі Пілсудскага пад маркай «ліквідацыі бальшавізма» люта распраўляліся з мірным насельніцтвам. Бальшавіком быў кожны свядомы парабак, які не дагадзіў пану, кожны свядомы селянін, кожны, хто ўваходзіў у склад уладаў, створаных бальшавікамі, кожны непаслухмяны ксяндзу. Войскі Пілсудскага прадаўжалі ганебныя традыцыі Лаўбур-Мусніцкага.

Нават буржуазныя дзеячы, як Касакоўскі, Сікорскі і іншыя, прызнавалі, што замест караць вінаватых, забіваюць бедна апранутых.

Аб варожай палітыцы да іншых народаў сведчыць факт, што

навал у Мінску ўлады адмаўлялі прыняць прашэнні пісаныя пабеларуску.

* * *

Буржуазна-памешчыцкая Польшча замест абяцанай вольнасці несла заваяваным народам нацыянальны і сацыяльны прыгнёт, карныя экспедыцыі і грабяжы.

Кніжка Левандоўскага, якая чытаецца з няслабнучым зацікаўленнем, канчаецца трапным падсумаваннем:

У 1919 г. на землях былога Вялікага Літоўскага Княства вялася барацьба двух федэралізмаў — польскага і савецкага. Польскі федэралізм пацярпеў паражэнне. Прайграў у польскім грамадстве, прайграў на беларускіх і літоўскіх землях, на якіх з'явіўся без мандату польскага насельніцтва.

У барацьбе за душу селяніна перамог савецкі федэралізм, які нёс з сабой не толькі права на самаакрэсленне і развіццё нацыянальнай культуры, але і асноўныя змены ў аграрных адносінах.

В. Склубоўскі

# ВАРЭННЕ

Варэнне гатуюць з розных пладоў, якія павінны быць зусім свежыя, здаровыя і спелыя. Усякі плод, у адпаведнасці са сваёй прыродай, патрабуе пэўнай апрацоўкі. Так, напрыклад, калі пры варцы клубнікі і маліны неабходна ачысціць толькі лісце, чашачкі і хвосцікі, злёгку вымыць, то пры варцы чарэшань і кізілу трэба памыць плады і дастаць костачкі; пры варцы сліў, абрыкосаў і персікаў — дастаць костачкі.

Варэнне вараць у неглыбокай шырокай пасудзіне, аб'ёмам прынамсі ўдвая большым, чым аб'ём варэння. Калі пасудзіна меншая, то мы будзем рызыкаваць тым, што варэнне можа выкіпець; і наадварот — пры вельмі вялікай пасудзіне варэнне разліваецца тонкім слоем, таму сіроп можа згусціцца занадта рана, а фрукты або ягады застануцца недаваранымі. Пры гатаванні варэння трэба мець на ўвазе тасама, што чым карацей будзе працэс варкі, тым лепшы будзе колер варэння, тым лепш захаваецца арамат пладоў. Таму не трэба варыць варэнне больш чым з 2-х кілаграмаў пладоў адразу і не трэба варыць на моцным агні, жадаючы такім чынам паскорыць выпарэнне і згушчэнне. Пена ў працэсе варкі збіраецца шумоўкай. Асабліва старанна

трэба збіраць пену з варэння, калі яно гатова і знята з агню. Цукар, што крышталізуецца па сценках таза, у якім варыцца варэнне, трэба збіраць лыжкай або вільготным шматком. Каб пазбегнуць зацукроўвання варэння, за некалькі хвілін да таго, як зняць з агню, трэба даваць на кожны кілаграм цукру па чайнай лыжачцы тоўчанай лімоннай кіслаты. Варэнне гатова, калі кропля сіропу, капнутая на сподачак, або кавалак цукру, не расплываецца, а цалкам захоўвае сваю форму. Калі варэнне знята з агню, яго выліваюць у добра прасушаную пасудзіну — (супнік, эмаліраваную або з вогнетрывалага шкла каструлю), у якой пакідаюць яго на адну ноч, каб плады добра прапіталіся сіропам, пасля чаго разліваюць у слоікі. Варэнне добра захоўваецца ў слоіках умяшчальнасцю ад 1/2 да 1 кг. Слоікі трымаюць у халодным месцы, якое добра праветрываецца.

## Варэнне з чарэшань

Прадукты: 1 кг чарэшань, 1,5 кг цукру, чайная лыжачка кіслаты, 3 шклянкі вады.

Здаровыя і добра паспеўшыя чарэшні, а лепш за ўсё — белыя, вымываюць, адрываюць хвосцікі і дастаюць костачкі. Ягады ўкладваюць у шырокую пасудзіну пластамі, кожны пласт перасыпаюць цукрам. Калі чарэшні прастаяць гадзіну з цукрам, заліваюць іх вадой і вараць на моцным агні. За 4—5 хвілін да гатоўнасці варэння дадаюць кіслату. Затым варэнне выліваюць у зусім сухую пасудзіну для астывання і потым разліваюць у слоікі.

## Варэнне з вішань

Прадукты: 1 кг вішань, 1 кг цукру, 2 шклянкі вады.

Зусім спелыя вішні вымываюць, ачышчаюць ад хвосцікаў і костачак. Асобна вараць сіроп, кладуць у яго вішні і вараць, увесь час здымаючы пену. Гатовае варэнне пакідаюць астыць і затым разліваюць у слоікі.

## Варэнне з клубнікі або малiны

Прадукты: 750 г ягад 1 кг цукру, чайная лыжачка віннай кіслаты, 2 шклянкі вады.

Ягады апускаюць у сырую ваду на 15 хвілін, затым вымываюць і адразаюць хвосцікі. Асобна вараць сіроп з 1 кг цукру і 2 шклянак вады. Калі сіроп астыне, засыпаюць ягады і вараць на моцным агні, збіраючы ўвесь час пену шумоўкай. К канцу варкі дадаюць лыжачку віннай кіслаты. Варэнне выліваюць у глыбокую пасудзіну, пакідаюць астыць і затым разліваюць у слоікі.

### Варэнне з яблык

Прадукты: 1 кг яблык, 1 кг цукру, чайная лыжачка кіслаты, 1 парашок ваніліну.

Бяруць сярэдняй велічыні яблыкі, ачышчаюць ад скуркі, выразаюць насенныя гнёзды і наразаюць кавалачкамі або лустачкамі пажаданай формы; кладуць у амаль гатовы сірон і вараць да згушчэння. Перад тым, як зняць з агню, дадаюць кіслату і ванілін.

## ГРЫБЫ

У чэрвені з'яўляюцца першыя грыбы, але звычайна яны бываюць толькі на працягу тыдня — двух і растуць у бярозавых гаях. Гэта баравікі-каласавікі.

Першыя грыбы вельмі далікатныя, шапачкі іх больш светлыя, чым у асенніх. Яны вельмі смачныя ў любой страве — і смажаныя, і ў соусе, і ў супе.

Можна іх пасмажыць. Для гэтага трэба ўзяць свежыя маладыя баравічкі, вымыць, старанна абварыць крутым варам, абсушыць шапачкі, пасаліць і смажыць на працягу 15 хвілін на патэльні з моцна падагрэтым маслам, часта перамешваючы. Затым здыміце і пастаўце іх у цёплае месца. У разагрэтае масла пакладзіце дробна нашынкаваную цыбулю (20 г на 1 кг грыбоў), пасаліце і тушыце, пакуль не стане мяккай. Пасля дадайце шклянку смятаны, закіпяціце і заліце падсмажаныя грыбы.

Белыя грыбы можна прыгатаваць пад соусам. Старанна прамытыя грыбы адварыце, парэжце на кавалкі, пакладзіце ў каструлю цыбулі з маслам, заліце вяршкамі і дайце пакіпець на працягу гадзіны. Пасля пакладзіце зялёнай цыбулі, гваздзікі, перцу і яшчэ крыху патушыце. Да гатовых грыбоў можна падаць адвараную бульбу.

Добра белыя грыбы патушыць з бульбай. Ачышчаныя і памытыя белыя грыбы адварыце ў невялікай колькасці вады, затым парэжце лустачкамі і абсмажце ў масле на працягу 5—8 хвілін. Ачышчаную і пакрышаную кубікамі бульбу смажце да паўгатаванага стану. Затым грыбы і бульбу складзіце ў каструлю, заліце сметанковым соусам, дадайце лаўровы ліст, перац і тушыце на невялікім агні да стану поўнай гатоўнасці бульбы (10—15 хвілін).

### Суп са свежых грыбоў

600 г свежых грыбоў, 1 цыбуліна, 2/3 шклянкі смятаны, 10 гарошын перцу, 1 лаўровы ліст, 10 бульбін, 1 1 2 лыжкі масла, зяленіва пятрушкі або кропу, 3 літры вады, соль.

Свежыя грыбы перабраць, добра прамыць у некалькіх водах, вялікія нарэзаць, заліць халоднай вадой і варыць. Калі грыбы крыху павараццa, дадаць падсмажаную на масле цыбулю, перац, лаўровы ліст, нарэзаную бульбу і варыць, пакуль бульба не зробіцца мяккай.

У суп са свежых грыбоў з бульбай пры жаданні можна дадаць крыху макарону або мучных клёцак.

Пры падачы на стол дадаць нарэзанае зяленіва пятрушкі і заправіць смятанай.

## РЭВЕНЬ (РАБАРБАР)

Гэта шматгадовая травяністая расліна з вельмі буйным лісцем, якое знешнім выглядам нагадвае лопух. Чаранкі рэвеня тоўстыя — да 4—5 см. Выспявае значна раней за іншую гародніну (канец красавіка — *май*), і ў гэтым яго перавага. Спажыўнай часткай з'яўляюцца чаранкі, якія ўтрымліваюць шмат карысных рэчываў, у тым ліку вітамін С, кіслоты (у асноўным яблычную, якая надае характэрны смак і водар, што нагадвае яблыкі).

З рэвеня можна гатаваць розныя смачныя стравы.

КАМПОТ. Памыйце чаранкі, нарэжце кавалачкамі ў 2—3 см, заліце халоднай вадой і паварыце 5—7 хвілін, дадайце цукру і варыце да таго часу, пакуль чаранкі не стануць мяккімі. Можна дадаць для смаку ваніліну або карыцы.

На 1 кг чаранкоў — 3 літры вады, 1,5 шклянкі цукру.

КІСЕЛЬ гатуецца так. Памытыя і нарэзаныя на кавалачкі чаранкі заліце вадой і гатуйце на працягу 5—10 хвілін. Пасля пратрыце праз друшляк або сіта, дадайце па смаку цукру, пажадана цэдру або ванілін, карыцу. 2 сталовыя лыжкі крухмалу развядзіце ў халоднай вадзе, уліце ў працёртую масу і давядзіце да кіпення.

На 0,5 кг рэвеню — 2 літры вады, цукру — па смак.

ВАРЭННЕ. Малавалакністыя чаранкі ачысціце ад скуркі, нарэжце кавалачкамі па 2 см, старанна прамыйце халоднай вадой, затым праварыце адну хвіліну ў вары, ахаладзіце ў халоднай вадзе, заліце сіропам і варыце ў два прыёмы з выстойкай.

На 1 кг рэвеню — 1,5 кг цукру і 1 літр вады. (Для сіропу можна выкарыстаць ваду, у якой варыўся рэвень).

КАША З РЭВЕНЮ. Звараную з пшана або рысу кашу старанна змяшайце з рэвенем, адвараным у цукровым сіропе. Сумесь

узбіце венчыкам да атрымання лёгкай масы. Падавайце да стала з малаком.

Можна рэвень дадаваць у расольнік замест агуркоў, у боршч — замест таматаў. Адвар або сок яго можна ўжываць у якасці прыправы замест воцату. З рэвеня рыхтуюць квас, віно, як і з ягад.

Гэта асабліва выгадная культура таму, што ў час яе выспявання няма яшчэ ніякіх свежых пладоў і ягад. Стравы ж з рэвеня па смаку нагадваюць яблыкі і вельмі спажыўныя.

## ГЭТА ТРЭБА ВЕДАЦЬ

За стол гаспадыня садзіцца першай, але яна не павінна пачынаць есці, пакуль не пачнуць госці.

Калі гаспадыня скончыла есці, госці думаюць, што і ім час канчаць. Таму гаспадыня не павінна спяшацца з ядой.

Частуйце гасцей настойліва, але не вельміназойліва.

Калі госць разбіў шклянку або зламаў што-небудзь, не падавайце выгляду, што вам шкада: госцю і так непрыемна. Калі сярод вашых гасцей ёсць чалавек, які ў вашым доме ўпершыню, праявіце асаблівую ўвагу да яго.

Менш гаварыце пра сябе. Будзьце ўважлівы да расказу госця.

Калі ў вас дрэнны настрой, пастарайцеся, каб госці гэтага нават не заўважылі.

Ніколі не стаўце іншых у нязручнае становішча. Знаходзячыся ў гасцях, тактычны чалавек не пакажа выгляду, што пададзеная страва нясмачная. Ён не дасць іншаму зразумець, што ён заўважыў яго фізічны недахоп, няўдалы пакрой касцюма або нязручнасць паводзін.

## ХАРЧАВАННЕ Ў ЧАС ЦЯЖАРНАСЦІ

У час цяжарнасці і пры кармленні грудзьмі да арганізма жанчыны прад'яўляюцца дадатковыя патрабаванні: неабходна забяспечыць нармальнае развіццё плода, а пасля родаў — утварэнне дастатковай колькасці паўнацэннага малака. Для гэтага побач з іншымі гігіенічнымі мерапрыемствамі вялікае значэнне мае правільнае харчаванне.

У першыя 4 месяцы цяжарнасці неабходна харчавацца, прытрымліваючыся правіл, якія рэкамендуюцца для здаровага чалавека. Дадатковыя патрабаванні да харчавання ўзнікаюць з другой палавіны цяжарнасці, г.зн. прыкладна з пятага месяца, калі пачынаецца хуткі рост і развіццё плода. У гэты перыяд

трэба павялічыць каларыйнасць ежы і некалькі змяніць яе хімічны састаў, а таксама рэжым харчавання.

У першую чаргу неабходна малако і малочныя прадукты — сыракваша і аднадзённы кефір, якія садзейнічаюць рэгулярнаму апаражненню кішэчніка; карысны таксама тварог і нявостры сыр. Штодзённа можна з'ядаць 1—2 яйкі ў выглядзе амлету з малаком і яешні з зелянінай.

Няма падстаў адмаўляцца ад мяса і рыбы, але рэкамендуецца пазбягаць мясных і рыбных (асабліва моцных) булёнаў і падлівак, каб не ствараць дадатковай нагрузкі для печані, якая напружана працуе ў час цяжарнасці. Лепш варыць супы на гароднінным адвары і малочныя; абмяжоўваць трэба і грыбныя булёны. Лепш за ўсё мяса і рыбу ўжываць у вараным выглядзе. Каб у ежы было дастаткова малочных прадуктаў, трэба есці мясныя і рыбныя стравы не часцей разу ў дзень.

Ужыванне спіртных напіткаў павінна быць цалкам выключана ў час цяжарнасці, таму што алкаголь аказвае неспрыяльны ўплыў не толькі на здароўе маці, але і на нармальны рост і развіццё плода.

Трэба ўжываць галоўным чынам сметанковае масла, але абавязкова дадаваць у ежу штодзённа не менш 15—20 г алею, які неабходны для захавання здароўя маці і нармальнага развіцця плода.

Значна павышаецца ў другую палавіну цяжарнасці патрэба арганізма ў вітамінах. Яны патрэбны плоду, які хутка развіваецца, не толькі для росту, але і для стварэння запасаў, неабходных у будучым нованароджанаму.

Пры недахопе ў ежы мінеральных солей, якія патрэбны для развіцця касцей плода, пачынаюць расходавацца мінеральныя солі з арганізма маці — з касцей і зубоў, чым наносіцца значная шкода яе здароўю. Таму ў час цяжарнасці трэба клапаціцца аб разнастайным харчаванні з дастатковай колькасцю малака, малочных прадуктаў, гародніны і фруктаў, а таксама хлеба з мукі сярэдніх сартоў і грубага памолу. Такое харчаванне забяспечыць арганізм цяжарнай неабходнымі мінеральнымі солямі.

Спажыўную соль у другую палавіну цяжарнасці трэба ўжываць у невялікай колькасці, каб папярэдзіць затрымку лішняй вадкасці ў арганізме. Трэба саліць ежу вельмі ўмерана, а саленні, вэнджаныя прадукты і селядзец амаль не ўжываць. У апошні тыдзень перад родамі лепш зусім не саліць ежу, каб вызваліць арганізм ад лішняй вадкасці і тым самым аблегчыць роды.

У апошні месяц цяжарнасці мэтазгодна абмежаваць сябе і ў пітці: выпіваць за дзень каля 1 л вадкасці — паўталеркі супу, шклянку чаю з малаком, шклянку сыраквашы або кефіру, шклянку кампоту або фруктова-ягаднага соку.

Вельмі важна ў час цяжарнасці, а асабліва ў другую яе палавіну, строга захоўваць правільны рэжым харчавання: есці не радзей 4 разоў у дзень, не з'ядаць адразу вельмі многа, не класціся спаць галоднай. У перыяд перадродавага водпуску пажадана есці 5—6 разоў у дзень.

## ЯК ЗАБІЦЬ І АПРАЦАВАЦЬ ХАТНЮЮ ПТУШКУ

Забіваюць хатнюю птушку наступным чынам: прытрымліваюць яе каленямі, адцягваюць уніз скуру на шыі і вострым нажом перарэзаюць шыю пад галавой да самай касці. Птушку трэба трымаць за ножкі, галавой уніз, каб кроў сцякла як мага хутчэй.

Забітую і абяскроўленую птушку трэба адразу ж абскубці, бо пасля акачанення птушкі вырываць пер'і цяжэй (гэта не датычыць тлустых гусей і качак, якія перад скубаннем трэба астуджваць на працягу пяці гадзін да 25°С. Пры гэтай тэмпературы тлушч застывае і можна скубсці, не баючыся, што ён выцячэ пры вырыванні пер'я). Каб лягчэй было вырваць пер'е з астыўшых тушак курэй, індыкоў, куранят, можна апусціць іх на некалькі хвілін у гарачую ваду (65—75°С). Неабходна, аднак, памятаць, што хатняя птушка пасля апускання ў гарачую ваду хутка псуецца і можа прапітацца пахам пер'я і калу. Скубсці трэба ўсёй далонню, вырываючы пер'е ў напрамку яго росту, нацягваючы пры гэтым скуру, каб не пашкодзіць яе. Пачынаюць скубсці з хваста ў напрамку галавы па спінцы. Пер'е і пух, што засталіся пасля абскубвання, абпальваюць над гарачым газам або над спіртоўкай. Скура пры абпальванні павінна быць сухой, таму яе абціраюць анучкай. Пасля абпальвання трэба выбраць рэшту «пянькоў» — пер'яў і выцерці тушку.

## ВЫСОКІ АБЦАС

Якой вышыні павінен быць абцас у жаночых туфлях?

Гэта залежыць ад моды, скажуць некаторыя. Але ж абцас служыць не толькі патрабаванням моды. Вельмі высокі абцас надае назе ненатуральнае палажэнне, пакарочвае крок і недастаткова змякчае штуршкі і страсенні, якія ўзнікаюць пры хадзе. Пункт апоры пры гэтым пераносіцца ўперад, і цела ўсім сваім цяжарам ціскне на пярэднюю частку ступні.

Наша ступня не дакранаецца ўсёй паверхняй да плоскасці, а падобна да трыножніка мае свае пункты апоры. Такая будова ступні дазваляе ёй вытрымліваць увесь цяжар цела чалавека.

Калі вага цела жанчыны, напрыклад, 48 кілаграмаў, а вышыня абцаса яе туфляў 3—4 сантыметры, увесь цяжар цела размяркоўваецца на абедзве ступні раўнамерна — па 24 кілаграмы; з іх 18 кілаграмаў падае на пятку і толькі 6 — на пярэдні аддзел ступні. А пры абцасе ў 7 сантыметраў пярэдні аддзел ступні перагружаецца амаль у тры разы больш нормы. Пры гэтым папярочны звод ступні робіцца пляскатым і нібы распластваецца.

Ад доўгага нашэння высокіх абцасаў на падэшве можа ўтварыцца балючы мазоль. Пальцы ўпіраюцца ў насок туфля, а гэта часам выклікае іх скрыўленне, асабліва часта — вялікага пальца з разрастаннем «костачкі». Вось чаму ўпартыя модніцы ўрэшце бываюць вымушаны насіць спецыяльны артапедычны абутак, а часам ім нават даводзіцца звяртацца за хірургічнай дапамогай.

Паводле даных вучоных, каля палавіны насельніцтва зямнога шара хварэе рознымі ступенямі пляскатай ступні, прычым часцей сустракаецца ў жанчын. Адна з прычын развіцця пляскатай ступні — нерацыянальны абутак, у прыватнасці абутак з вельмі высокім абцасам.

Эфектыўная мера прадухілення пляскатасці ступні — правільны падбор абутку.

Калі ўвесь час насіць абутак без абцаса, гэта таксама можа садзейнічаць развіццю пляскатасці ступні. Нядобра праводзіць увесь дзень дома або на рабоце ў тапачках: імі трэба карыстацца толькі кароткі час для хатняга ўжытку.

Такім чынам, абутак рабочы і для хадзьбы па вуліцы павінен быць з невялікім устойлівым абцасам вышынёй 3—4 сантыметры. Толькі выхадны абутак, які надзяваецца на непрацяглы час, можа мець высокі абцас.

## КАСМЕТЫЧНЫЯ ПАРАДЫ

Не заўсёды ў жанчын ёсць час наведваць касметычныя кабінеты, але ва ўзросце пасля трыццаці год скура твару ў большасці патрабуе асаблівага догляду, каб папярэдзіць заўчаснае з'яўленне маршчын, захаваць колер твару. Таму кожная жанчына павінна выкраіць сабе 15—30 хвілін у дзень каб заняцца сваім тварам, валасамі, рукамі.

Для захавання свежага колеру твара трэба не толькі ўжываць касметычныя сродкі, але абавязкова сачыць за станам арганізма: добрай работай кішэчніка, органаў стрававання і нервовай сістэмай.

Каб даглядаць твар, трэба ўжываць адпаведныя крэмы, не мя-

няючы іх часта, па першай парадзе, прымяняць час ад часу масаж і спажыўныя маскі.

Калі вы ідзеце на двор у халоднае надвор'е на доўгі час, пакрыйце твар тонкім слоем крэму і прыпудрыце — гэта захавае скуру. Але трэба ўлічваць асаблівасці скуры — калі яна тлустая, крэму можна не ўжываць, дастаткова пудры.

Увечары добра змазаць спажыўным крэмам скуру вакол вачэй. Але ніколі не пакідайце крэм на ноч, гэта выклікае вяласць скуры.

Каб пазбавіцца вяласці скуры, вельмі добра ўжываць кампрэсы і паравыя ванны. Для гэтага ўвечары старанна ачысціце твар і падрыхтуйце два посуды — з халоднай вадой і адварам рамашкі або ліпавага цвету. Вазьміце дзве насовачкі. Спачатку змачыце адну ў гарачым адвары і, адціснуўшы, пакладзіце на твар. Праз 2—3 хвіліны замяніце гэтую хусцінку другой, змочаной у халоднай вадзе. Такое чаргаванне прарабіце 4 разы. Апошні раз пакіньце халодную хусцінку на твары на 5 хвілін. Гэткія кампрэсы вяртаюць скуры пругкасць, праўда, на некалькі дзён.

Яшчэ лепш паравыя ванны. Іх уздзеянне больш працяглае. Вазьміце 10 г рамашкі або ліпавага цвету з мятай, заліце 2 літрамі вару і, закрыўшы галаву ручніком, нахіліце твар над парам. Пастарайцеся вытрымаць 15 хвілін. Потым спаласніце твар халоднай вадой і, калі скура сухая, пад вачыма і на шчокі накладзіце крыху крэму, асцярожна ўбіваючы яго пальцамі.

Такія ванны трэба рабіць не часцей разу на тыдзень.

## НАШАТЫРНЫ СПІРТ У ГАСПАДАРЦЫ

Калі вы маеце фарбаваную падлогу, дзверы, аконныя рамы, дадавайце ў ваду нашатырны спірт з разліку 2—3 сталовыя лыжкі на вядро вады. Бруд вельмі лёгка адстае, а падлога, дзверы набываюць бляск.

*

Дадаецца ў ваду пры мыцці фарфоравага, фаянсавага і шкляного посуду. Добра адмываюцца ўсе плямы, рэчы набываюць выгляд новых.

*

Мыючы шарсцяныя і шаўковыя вырабы, дадавайце ў ваду нашатырны спірт (1 сталовую лыжку на вядро вады). Гэта не толькі паляпшае выдаленне бруду, але і паляпшае якасць мыцця: шарсцяныя рэчы не звальваюцца, белыя — не жаўцеюць.

*

У сумесі са спажыўнай соллю гэта добры сродак для чысткі зашмальцаваных каўняроў, рукавоў і г.д. На 5 частак нашатыр-

нага спірту бярэцца 1 частка спажыўной солі. Чыстая анучка змачваецца ў растворы, і праціраюцца зашмальцаваныя месцы. Пасля рэч трэба адпрасаваць праз вільготную анучку.

*

Нашатырны спірт добра выдаляе плямы ад тлушчу і масляныя з шарсцяных тканін. Для гэтага яго разводзяць з мыльнай вадой або моцным чаем (1 частка спірту на 2 вадкасці), анучку (пажадана таго ж колеру, што і тканіна) змачваюць у растворы і праціраюць плямы. Пасля адпрасоўваюць праз мокрую анучку.

*

Афарбаваныя тканіны неабходна чысціць асцярожна, бо спірт можа змяніць іх колер. Калі афарбоўка тканіны змянілася, яе можна аднавіць, змачыўшы слабым растворам воцату.

*

Для мыцця тлустай скуры добра дадаваць у ваду нашатырны спірт (5,5 чайнай лыжкі на шклянку вады). 1—2-працэнтныя растворы рэкамендуюцца для абцірання твару пры тлустай скуры і вуграх.

*

Нашатырным спіртам добра чысціць замшавыя пальчаткі, абутак.

*

Замочваючы перад мыццём брудную бялізну, у ваду не блага дадаць нашатырны спірт (1 сталовую лыжку на вядро вады).

*

Калі выварваеце бялізну, дадайце ў ваду нашатырны спірт, — адмыюцца плямы ад віна, малака, супу, кофе, какавы, цвілі, чарніла. Бялізна атрымаецца бялейшай.

*

Ужываецца для адбельвання бялізны разам з перакісам вадароду. 2 сталовыя лыжкі 2-працэнтнага перакісу вадароду і 1 сталовая лыжка нашатырнага спірту ўліваюцца ў вядро гарачай вады. Вымытая бялізна апускаецца ў раствор на 15—30 хвілін і на працягу гэтага часу часта перамешваецца. Пасля бялізну трэба прамыць два разы ў цёплай і халоднай вадзе.

## ЧЫСТКА АДЗЕЖЫ БЕНЗІНАМ

Бензін — адзін з лепшых сродкаў чысткі верхняга адзення, якое нельга мыць. Найбольш забруджваюцца каўняры, ніжні край рукавоў і прарэзы кішэняў. Калі іх добра ачысціць, то лягчэй праходзіць далейшая чыстка адзежы. Пры змочванні бензінам каля забруджанага месца ўтвараюцца цёмныя кругі. Каб іх

не было, бруднае месца або тлустую пляму труць паніровачнымі сухарамі, змочанымі бензінам. Гэта дапамагае не толькі пры чыстцы шарсцяных, але і каляровых баваўняных і шаўковых тканін.

Пры чыстцы светлага адзення, каб на тканіне не засталося слядоў, бензін змешваюць з крухмалам. Густую кашку кладуць на бруднае месца і пакідаюць, пакуль яна не засохне, пасля асцярожна саскрабаюць і выціраюць чыстай хусцінкай — сляды тлушчу зусім прападаюць.

Запэцканыя кацянятка верхняй адзежы чысцяць наступным чынам: змешваюць 5 сталовых лыжак нашатырнага спірту з пяццю сталовымі лыжкамі моцнага віннага спірту. Да сумесі дадаюць яшчэ паўтары лыжкі кухоннай солі і мяшаюць, пакуль соль зусім не растворыцца. У гатовым растворы мочаць шарсцяны шматок і труць ім забруджаныя потам і пылам часткі адзежы. Пасля чысткі добра праціраюць выціснутым мокрым шматком. Мокрыя месцы высушваюць прасам праз сухую анучку, складзеную ў дзве столкі.

## Цікава ведаць

### Як клінаваць сякеру

Дрэнна заклінаваная сякера спадае часта з тапарышча, пры гэтым утрудняе працу і можа быць прычынай няшчаснага выпадку.

Добрае заклінаванне не можа быць зроблена не раўналегла да астрыя але скосна. Так убіты клін не выпадае пры рубцы і сякера не спадае.




### Мяшкі

Мяшкі да збожжа будуць больш трывалыя, калі намочым іх у спецыяльнай заправе, якая робіцца так: 1 кілаграм дубовай кары запарваем у 14 літрах кіпятку. Калі вада зафарбуецца, кла-

дзем у яе мяшкі або палатно, якое хочам узмоцніць і мочым праз 24 гадзіны. Потым вымаем, палошчам у чыстай вадзе і сушым. Адзін кілаграм кары хапае на ўзмацненне 8 метраў палатна.

### Перавозка бульбы зімой

Калі зімой перавозім бульбу, забяспечваем яе каб не памарозіць наступным спосабам. Калі насыплем бульбы на воз, накрываем яе пластом саломы, а на яе кладзем лёгка намочаныя мяшкі. Вільготныя мяшкі замярзаюць і лёд забяспечвае бульбу ад марозу.

### Забяспечванне драўляных слупоў

Каб прадоўжыць трываласць драўляных слупоў, пракручваем ля самай паверхні касыя глыбокія дзіркі. Залiваем іх карболкай і затыкаем дзірку шчыльным коркам. Такім чынам трываласць слупоў значна павялічваецца.

### Як пазбыцца мышэй у гумне

Мышы не пераносяць запаху дзіванны. Расце яна на бедных сухіх пясчаных землях — кветкі жоўтыя. Паспрабуйце нарваць іх і ўлажыць паміж снапамі, а мышы не будуць знішчаць у гумне ўраджаю.

### Чыстыя шыбы ў вокнах

Нават старанна вымытыя і выцертыя шыбы не хочуць блішчэць. Аднак, калі пасля мыцця выцерці іх насуха чыстай сціркай, а потым газетамі будуць яны бліщчэць і прапускаць поўную колькасць святла ў хату.

### Як перасаджваць хатнія кветкі

Хатнія кветкі заўсёды мусім перасаджваць праз нейкі час у большыя вазоны чым тыя, у якіх яны раслі. Для аблягчэння працы падрыхтоўваем драўляную плоскую палачку падобную да ножыка. Гэтай вострай палачкай асцярожна аддзяляем зямлю пры ўнутранай сценцы вазона і такім спосабам адсоўваем ад

сценкі ўсе карэнчыкі, якія да яе прычапіліся. Потым адварочваем асцярожна вазон уверх дном, грымаючы адначасова кветку каб не ўпала, здымаем вазон. Калі не хоча зняцца ўдараем лёгка ў дно. Зямлю з карэннямі вынятую з вазона ачышчаем далікатна нашай палачкай. Такім спосабам пазбаўляемся астаткаў цвілых і гнілых карэнчыкаў. Новы вазон ставім на некалькі хвілін у ваду, каб сценкі нацягнулі крыху вільгаці. На дно кладзем кусочак шкарлупіны або паперы, якая закрые дзірачку і забяспечыць ад высыпання зямлі. Потым сыплем у вазон крыху добрай кампастовай зямлі і ўкладаем кветку. З верху прысыпаем зямлёю і лёгка ўбіваем палачкай або пальцам. Пакідаем крыху месца на воду. Пасля перасадкі падліваем кветку і ставім у паўцень, пакуль яна не прымецца.

### Як забяспечыць хатнія кветкі

Калі выязджаем на некалькі дзён трэба забяспечыць кветкі, каб яны не засохлі.

І спосаб: Вазоны з кветкамі ставім у вузкую драўляную або кардонную скрыначку. Вакол вазонаў убіваем старанна мох. Перад выездам мох і зямлю ў вазонах моцна кропім. Так забяспечаныя кветкі можна спакойна пакінуць на некалькі дзён без падлівання.

ІІ спосаб: Кветкі ў вазонах ставім на падлозе адну каля другой. Побач ставім вядро з вадой. Рэжам доўгія і вузкія паскі з фланелі, якія ўкладваем у вядро прымацоўваючы іх да дна каменем, і спалучаем з вазонамі. Вада будзе даходзіць да вазонаў так доўга, пакуль будзе ў вядры.

### Душ дома або ў агародзе

Душ дома або ў агародзе можам зрабіць лёгка самі. Патрэбнае да гэтага вядро, кусок гумовай трубкі і балея. Гумовая трубка павінна быць даўжынёй каля 2 метраў. Дыяметр 1—2 сантыметраў. Адзін канец шчыльна затыкаем коркам і звіваем яго ў малое кола з тым, каб можна было свабодна пераладжыць праз галаву. Кола гэтае звязваем моцна і дротам выпальваем на яго ўнутранай старане шэраг дзірачак у адлегласці некалькі сантыметраў адна ад другой. Калі хочам памыцца набіраем вядро вады і вешаем яго крыху вышэй свайго росту. На зямлі ставім балею. Калі раздзенемся хутка набіраем ваду ў трубу, кола кладзем на шыю, а канец трубы ў вядро з вадой. Праз дзірачкі пачне выцякаць вада. Не будзе пырскаць, толькі роўна будзе сплываць па целе.

У памяшканні такі душ не залье падлогі.

Можна таксама зрабіць душ, выкарыстоўваючы гародкюю паліватку. (Гл. рыс. 2). Летам кожны з гэтых душаў можна зрабіць на двары, пад дрэвамі.



✲

Брудную адзежную шчотку неабходна пакласці ў гарачую ваду, у якой растворана сода, шчацінай уніз і затым высушыць яе ў такім жа становішчы.

✲

Каб у пакоі быў прыемны пах, трэба некалькі кропель духоў або адэкалону выліць на незапаленую электрычную лямпачку. А калі лямпачка будзе ўключана, па пакоі распаўсюдзіцца пах духоў.

✲

Плямы ад кавы і шакаладу на адзенні, калі яны яшчэ свежыя, можна зняць пры дапамозе цёплай вады. Калі гэта старыя плямы, іх трэба на працяглы час замачыць у гліцэрыне, а затым адмыць у цёплай вадзе.

✲

Для паляпшэння смаку тушанага мяса выкарыстоўваюць цыбулю, моркву, пятрушку, сельдэрэй, парэй. Агульная колькасць гэтай гародніны павінна складаць 100 г на 1 кг мяса.

✲

Каб лупіны бульбы, якая варыцца «ў мундзірах», не лопаліся, дадайце ў ваду некалькі кропель воцату. Адвараная бульба будзе смачней, калі пры варцы пакласці ў каструлю крыху кропу, загарнуўшы яго ў кавалачак марлі.

Мікалай ГАЙДУК

# Беларускае вяселле на Беласточчыне

«Прыдзе тая підзеля і ў нас будзе вяселле».
(Прыказка з в. Пянькі, Беластоцкага павета.)

Каму з нас не мілы родны і знаёмы да драбніц малюнак з жыцця нашых вёсак і мястэчак — вяселле?

Вось разгоністыя, умаеныя зеленню, кветкамі, істужкамі коні імчаць засланыя, па-святочнаму дыванамі, вазы з шумнымі вясельнікамі. Плывуць вясёлыя песні, заліваецца ў маланкавых пераборах гармонік і звонкім рэхам па ўсіх панадворках сяла нясецца кліч: «Вяселле едзе!». Хто дуж выхіляецца на вуліцу, каб хоць адным вокам зірнуць на вясельны карагод, маладую пару, палічыць фурманкі, ацэньваць багацце вясельнікаў. Бо колькасць фурманак, іх убор, гучнасць язды спакон вякоў сведчыць у беларусаў аб заможнасці бацькоў маладых і самой маладой пары, прарочыць іх будучае жыццё. Маладзіцы і дзяўчаты выходзяць на вуліцу з прыпеўкай:

«Вяселле едзе, капуста кісне,
Малады маладую за ручку ціске...»

І маладая ўстае на фурманцы, каб гойнай далонню сыпнуць у натоўп сабраўшыхся цукеркамі і апошні раз пакланіцца сваім быўшым суседкам, знаёмым, блізкім, з якімі правяла сваю маладосць. Яна едзе праз усё сяло стоячы, каб дзяўчаты тут не засядзеліся ў дзеўках, каб неўзабаве следам за ёю выходзілі замуж. І дабразычлівае сяло не дапускае, каб хто-небудзь незнарок перабег дарогу вясельнаму карагоду, што мела б значыць

пажаданне дрэннага будучага сужыцця маладой пары. А ўсе ім жадаюць толькі шчасця...

Улёгся ўжо пыл на дарозе, заглохла за вёскай вясёлая музыка і песні гучнага вясельнага карагоду і нам час заняцца вясельнай песеннай народнай творчасцю беларусаў Беласточчыны паводле парадку, у якім адбываецца, на склаўшайся вякамі традыцыі, абрад вяселля.

Вясельны абрад і звязаная з ім народная песенная творчасць усіх славянскіх народаў наогул належыць да ліку найбольш старажытных. Аб гэтым сведчыць хаця б Гусцінскі летапіс, складзены ў 1670 годзе Міхаілам Ласіцкім на матэрыяле старэйшых рускіх, украінскіх, польскіх і беларускіх летапісаў і хронік. І так, М. Ласіцкі ў сваім летапісе пад 988 годам змясціў абшырны артыкул, прысвечаны язычаскім багам, у якіх верылі ўсходнеславянскія плямёны да прыняцця хрысціянства. Побач з указаннем назваў багоў, летапісец падае апісанне дахрысціянскіх абрадаў усходніх славян і ўпамінае аб песнях, якія спяваліся ў тыя часы. Аб багу Ладо чытаем наступнае: «Чацвёрты (бог) Ладо. У яго верылі, як у бога жаніцьбы, весялосці, уцяшэння і ўсякага дабрабыту. Яму ахвяры прыносілі тыя, хто хацеў жаніцца, каб пры яго дапамозе шлюб удаы і любоўны быў. Гэтага Ладо (на) ў некаторых краінах і да сённяшняга дня на хрысцінах і на вяселлях велічаюць, спяваючы свае нейкія песні, і рукамі аб рукі або аб стол плешчуць — Ладо, Ладо, пераплятаючы свае песні, многа раз упамінаюць».[1])

Як бачым, вясельны абрад у славян мае даўнюю, звыш тысячагадовую гісторыю. З гэтай агульнаўсходнеславянскай першакрыніцы выводзіцца і беларускі вясельны абрад і вясельная песенная творчасць.

Акрамя таго, што вясельны абрад належыць да ліку найбольш старажытных, беларускі вясельны абрад на Беласточчыне з'яўляецца найбольш жывым, вясёлым, трываючым часам некалькі дзён абрадам, у параўнанні з іншымі абрадамі нашага насельніцтва. Гэта абрад, які мае даволі дакладны падзел на чарговыя часткі і на паасобныя ролі, што выконваюць у ім удзельнікі. Кожная яго частка і амаль кожная асоба або група асоб мае свае песні.

Увесь вясельны абрад распачынаецца момантам сватання. Малады са сватам — чалавекам размоўным і ўмеючым падхваліць — кіруецца ў дом дзяўчыны, якую сабе раней запрыкмеціў, і тут адбываецца першая размова наконт згоды маладой і неўзаметку аб колькасці пасагу. Імення пасаг часта з'яўляецца прычынай разыходжанняў паміж сям'ёй хлапца і сям'ёй дзяўчыны. Гэта

[1])Полное собрание русских летописей, т. II, ч. 3, Ипатиевская летопись, СПб, 1843, стор. 257

знайшло адлюстраванне ў жартоўнай песні, якую часам пры сватанні пяюць:

1.

Сынку-Іванку, бэры мою дочку.
Дам тобі посагу — сіена вязочку,
А шчэ прыдатку — бобу лопатку,
Корову Жучку — рабую сучку.

Хаця актыўная роля ў сватанні належыць да хлопца і яго свата, але, калі справа не ладзіцца па іх прычыне, сямейнікі маладой не супраць ім падспяваць:

2.

Ой, чые то тэля
По полі бегае?
— А то того гультая,
Што жуонкі нэ мае.
Зажэніте тэля —
Нэхай нэ бігае
Ожэніетэ гультая,
Што жуонкі нэ мае.

У нашым выпадку і маладыя і іх бацькі дайшлі да згоды. Пачынаецца падрыхтоўка да вяселля. І тут асаблівая роля адводзіцца маладой і яе сям'і. Вяселле пачынае прымаць калектыўны характар. У ім ужо ўдзельнічае не толькі сям'я маладой, але і найбольш спрактыкаваныя гаспадыні вёскі. Іменна яны запаўняюць хату маладой, каб нарыхтаваць багаты вясельны пачастунак. Ім народная традыцыя прыдала пачэснае званне **«каравайніц»**. Амаль кожны рух «каравайніц» суправаджаецца каларытнай песняй:

3.

Ой, дэ ж тая господыня,
Шчо й в хаты?
Ой, ныхай ідэ коровай
Росчыняты.

Ой, дэ ж тая господыня,
Шчо й в шубы?
Ныхай шукае до коровая
Котюбы.

Ой, дэ ж тые господыні
Богаты?
Ныхай шукають до коровая
Лопаты.

Часам гэты зварот да гаспадыні пераплятаецца сумнымі ўстаўкамі аб развітанні маці з дачкою:

4.

Выгортай, маті, жар, жар,
Будэ тобе дочкі жаль, жаль.
Кідай у пэч дрова —
Бывай, маті, здорова.
Бывай, маті, здорова.

Не забываюць «каравайніцы» і аб сабе. Пасля песні:

5.

Ідэмо до саду-вінограду
Од короная ручэнькі помылі.
Ідэмо до саду-вінограду
Коб ручэнькі одпочылі.

ім належыцца пачастунак, кілішак віна і добры музыкант. Толькі пасля паўночы вяртаюцца «каравайніцы» са свайго балю. А іх вясёлыя песні яшчэ доўга гучаць у заснуўшым сяле.

Вось і настаў апошні вечар перад вяселлем. Яго наша насельніцтва цалкам прысвяціла маладой, назваўшы «паненскім вечарам». У карагодзе сваіх сяброўак — дзяўчат маладая рыхтуе ўсё патрэбнае да шлюбу. Сяброўкі плятуць вянок — сімвал дзявоцтва і чысціні, каб заўтра апошні раз ускласці яго на галаву маладой. Надзвычай сумны гэты вечар. Дух непазбежнага развітання з маладосцю, з сяброўкамі, са сваёй дзявочай свободаю блукае па хаце, льецца з кожнага радка песень:

6.

Вышла (Манечка) за вороточка,
Россыпала жар, жар, —
Чы тобе (Манечко) дівоцтва не жаль?
Вышла (Манечка) за вороточка,
Россыпала бульбы, —
Ужэ кончаюцца, ужэ мінаюцца
Дівоцкіе гульбы.
Вышла (Манечка) за вароточка,
Россыпала орышкі, —
Ужэ кончаюцца, ужэ мінаюцца
Дівоцкіе смішкі.
Вышла (Манечка) за вороточка
Россыпала карты, —
Ужэ кончаюцца, ужэ мінаюцца
Дівоцкіе жарты.

Маладая не спявае... Сляза, як кропля чэрвеньскай расы, коціцца з яе поўнага суму вока.

Вобразы жыцця пасля замужаства, адзін другога сумнейшыя і беспрасветныя паўстаюць з песень. І постаць роднай матулькі — вечнага апекуна і найбліжэйшай сэрцу істоты — займаюць у іх цэнтральнае месца:

7.

Ой, матуленько-вішня,
Чы я ў цебе лішня?
Оддала ж міне тай, матуленько,
Дзе я жыць не прывыкша.
Ой, прывыкшая, не прывыкшая —
Прывыкаці я мушу,
І маленькаму, і старэнькаму
Дагадзіці я мушу.

І гэты матыў немінучай, цяжкой разлукі з роднымі і перад усім з маці будзе гучаць амаль ва ўсіх песнях праз усё вяселле.

Пасля сумнага «паненскага вечара», настае ранак першага дня вяселля — апошні ранак маладой у сваёй, роднай і вядомай да дробязей хаты. Дзяўчаты, дружкі маладой, адкрываюць вяселле спевам:

«Розвіваецце, россыпаецце зіеле,
Зачынаецце, начынаецце ў Марысі вэсіеле.

Побач з рознымі абрадамі гэтага дня ў песнях, якія ім спадарожнічаюць, цэнтральнае месца займае матыў расплеценай («раскутай») касы маладой.

Дзявочая каса спрад веку была сімвалам дзявоцтва і незалежнасці. Таму так цяжка маладой раніцца на яе расчасанне:

9.

Трава-мурава, трава-мурава,
Павонькі походылі,
Павонькі походылі.
Чы ны жаль тобі, млода Манечко,
Шчой косу роспустылі,
Шчой косу роспустылі?
— Ой, нэ жаль жэ мні мэі косонькі,
Шчой еі роспустылі,
Шчой еі роспустылі.
Оно жаль жэ мні мэі матулькі,
Шчой еі розжалілі,
Шчой еі розжалілі.
— Намотаещця твоя косонька,
Той до шлюбу ідучы,
Той до шлюбу ідучы.
Ой, наплачэцця твоя матунька,

По слідочках ходячы,
По слідочках ходячы.

Але не толькі сум па страчаным дзявоцтве гучыць у гэты дзень у вясельнай хаце. Госці ўжо за сталом і дружна дапамінаюцца пачастунку:

10.

Ой, дбайтэ, дбайтэ,
Горыэлкі дайтэ.
Слёзонькі котятсе — 2 разы
Горыэлкі хочэтсе.

Сумная і працяжная гэтая мелодыя цягнецца да тае пары, пакуль на стале не паявіцца «зелено-віно.

11.

Ой, ты батьку наш,
Горыэлкі нэмаш, —
Продай жыта мірку, 2 разы
Йыэдь нам по горыэлку

Матулю наша,
Нэ поўна фляша,
Хто нам доліые, 2 разы
Матулю наша?

Пачастунак на стале, і песня грымнула жвава і весела:

12.

Ой, дбалі, дбалі,
Горыэлкі далі.
Слёзонькі котілісь 2 разы
Той пэрэсталі.

І хоць маладой няма яшчэ пры стале (яна занята апошняй падрыхтоўкай да высзду), вясельныя госці не забываюць на якой урачыстасці яны знаходзяцца. Іх песня напамінае яшчэ раз бацькам маладой, што чакае ў будучым іх роднае дзіця:

13.

Пілі людзі гарэліцу,
Белы гусі — воду.
— Накажэця, белы гусі,
Аж да маго роду.
Ні кажэця, белы гусі,
Што я тут гарую,

А скажэцця, белы гусі,
Што я тут балюю.
Як скажэцця, што гарую —
Буду наракаці, —
Бо ні будзе мой радочак
Сюды прыязджаці.
Вышчыкну я з ружы кветку
І пушчу на воду:
— Плыві, плыві з ружы кветка
Аж да маго роду.
Плыла, плыла тая кветка,
Пры беразе стала.
Вышла маці воду браці
Кветачку пазнала:
— Чы то мая дачуленька
Сем нідзель ляжала —
Бо што тая кветка
На вадзе завяла?
— Ні ляжала, мая мамка,
Ні дня, ні галзіны —
Папалася злому мужу
І ліхой дружыне.

Час не чакае... Вяселле набліжаецца да моманту развітання з бацькамі і выезду маладой:

14.

Ой, заржалі вороны коні на дворэ.
Ой, забрэнчалі чырвончыкі на столе.
Заплакала молодая (Марыся) ў коморы,
Прыклонівшы головку к столові.

І не выпадкова тут упамінаюцца «чырвончыкі на столе». Гэта водгулле старадаўняга звычаю выкупу маладым маладой у яе родзе. Не дзіва тады, што да гэтай пары мы не сустрэлі ніводнай песні, якая б гаварыла аб шчасці дзяўчыны, што выходзіць замуж за свайго каханага. Каханне не лічылася пры вясельным кантракце. Вось чаму суровы звычай асуджае маладую, калі яна не плача на сваім вяселлі.

15.

А ў полю жыто зазэленісло,
А ў (Марысі) сэрцэ закамэніело.
Музыка грае, вона нэ скачэ,
Дівкі співаюць, вона нэ плачэ.
Дайтэ цібулі натэрты вочы,
Нэхай поплачэ хоть до повночы.

У вясельных песнях беларусаў Беласточчыны захаваліся сляды колішняй веры славян у магічнае значэнне песні і слова:

16.

Села (Марыся) ў концы стола —
У Бога доленькі просіт:
Як добрая, доленька моя, —
Едь до шлюбу со мною;
Як ліхая, доленька моя, —
Плынь на морэ з водою.

Старым звычаем маладая развітваецца са сваімі роднымі:

17.

Стэлеіца зэлечко,
По-за горою ідучы.
Кланяйся (Марысю),
До шлюбу едучы.
Кланяйся малому — старому
Батэньку своёму,
Батэньку і матёньцы,
Братіку і сэстроньцы.

Тут матыў сцелючагася зеллечка не выпадковы. Ён мае зычыць вечнае здароўе і шчасце маладой у будучым жыцці.

Маладая ўжо на парозе. У развітальнай песні ж «дружкі - кампаначкі» напамінаюць ёй, каб яна не забрала з сабою іх шчасця, іх надзеі на хуткі выхад замуж:

18.

Ужэ (Манечка) од нас, од нас, —
Колі прыбудэш до нас до нас?
— Я в нэдіэлю ранком, ранком
Прышлю віночок сватком, сватком,
Прышлю віночок до дівочок,
До своіх верных кумпаночок,
Што я з імі походжала,
Міед-горэлочку попівала.
Тэпэр нэ буду походжаті,
Міед-горэлочку попіваті.

Беларускае вяселле на Беласточчыне выразна захавала сваю натуральную чысціню. Момант царкоўнага шлюбу адчуваецца ў ім як нешта другараднае. А калі аб ім і ўпамінаецца ў песнях дык толькі ў сэнсе пераноснага пажадання дзяўчатам хуткага выхаду замуж. Аб гэтым сведчыць песня, якую пяюць, калі маладая ўжо на возе:

19.

Хоть едтэ, нэ едтэ —
Нэма попа дома.
Поехав до Львова,
Забыў ключоў взяті
Цэрковую одмыкаті.

І адразу пасля гэтай песні следам ідзе дыялаг дружак з маладою:

— Дэ ключэ? — пытаюцца дружкі ў маладой.

— На горэ ў овсіе, выходьтэ замуж все, — адказвае ім маладая.

Наогул жа вясельныя песні, якія б гаварылі аб царкоўным шлюбе, зусім адсутнічаюць у песеннай творчасці беларусаў Беласточчыны.

Магло б здавацца, што вяселле на Беласточчыне — гэта баль, на якім цэнтральнае месца на стале займае «зелено віно» ці «гарэліца», што так часта ўпамінаецца ў песнях. На самай справе народ наш здаўна асудзіў п'янства і п'яніц, абясславіў тых, хто любіць часта «заглянуць у кілішак». А доля жонкі, якой муж п'е, з дасаднай дакладнасцю аяўляецца ў шматлікіх песнях. Вось адна з іх:

20.

Ой, зацвіла каліночка ў лузе.
Бедна моя головонька ў тузе.
Ой, зацвіла каліночка, зацвіла, —
Мэнэ маті за п'яніцу оддала.
Як прыехаў мой батэнько з города,
Пытаецца: «Чы п'яніца дома?»
— Потіхеньку, мой батэнько, говоры,
Ой, спіт мой п'янічэнько ў коморы,
Бо як тую п'янічэньку пробудіш,
То мою головоньку загубіш.
— Ой, прывыкай, мое дітя, прывыкай,
До суседа чэрэз окенко ўтікай.
— Ой, нэ могу, мой батэнько, нэ могу, —
Трымаецца п'янічэнька за ногу.
Ой, нэ могу, мой батэнько, утэчы, —
Трымаецца п'янічэнька за плечы.
— Што ж ты, мое дітя, думала,
Як на тую хібку кладку ступіла?
— Ой, думала, мой батэнько, утонуті,
Чым з тоею п'янічэнькой век жыті.

Сённяшні вясельны абрад на Беласточчыне ў многім зблытаў свой ад вякоў складзены парадак і чаргу. Але момант прыезду маладой пары ад шлюбу адзначаецца яшчэ і сёння пахвальнай песняй:

21.

Вышла з-за ліесу хмара, —
Сіела за столом пара:
Обое роўнюсенькі,
Обое гожусенькі,
Як ружовы квісті —
[redacted] на што пуоглядеті.

Едкая сатыра гучыць у прыпеўках, адрасаваных да вясельнай дружыны маладога.

22.

А ў старшого свата
Ложка, як лопата,
А ў ёго дружкі —
Ручкі, як подушкі.

Старшы сват, старшы сват,
Нэ ўмее ораті.
Он повінен старшу дружку
На руках трыматі.

Старшы сват, старшы сват
Нэ ўмее косіті.
Он повінен старшу дружку
На руках носіті.

Цяжка пералічыць усе песні, якія пяюцца вясельнікамі за багата застаўленым сталом. Часта яны не абмяжоўваюцца выключна да вясельных песень. На гэтай шматлюднай сямейнай урачыстасці гучаць і лірычныя і нават хрысцінныя песні. Усё часцей і часцей месца каларытных народных песень займаюць творы прафесіянальных песеннікаў. Але пры гэтым неабходна заўважыць, што сучасныя прафесіянальныя песні не патрапяць трывала ўмацавацца ў абрадах вёскі. Яны так жа хутка паяўляюцца, як і занікаюць, як толькі перастануць быць «моднымі». Не ўтрымліваюцца яны яшчэ і таму, што не адлюстроўваюць пабыту і зацікаўленняў сялянства. Народная песня ў гэтых адносінах праяўляе непараўнальна большую жыццяздольнасць. А гэта, відаць, таму, што яна цесна звязана з канкрэтнымі з'явамі і ролямі ў народным абрадзе. І так, напрыклад, нават свашка — старэйшая кабета, якая садзейнічала выхаду замуж маладой — у сваёй песні таксама заяўляе аб сваіх заслугах:

23.

Ой, матулю, чы [redacted] вам не свашка,
Не злапала пташка

З ручкамі, з ножкамі,
З сінэнькімі очкамі.

Вяселле збіраецца ў падарожжа да хаты маладога і на развітанне вясельнікі лішні раз напамінаюць маці маладой аб яе вялікай страце:

24.

Огледелася маті,
Што дочкі нэма ў хаті,
Горшчкі пуод лавою
Заростут травою.

Абрад змяняе месца дзеяння. Маладая прыязджае ў хату, дзе з часам мае стаць гаспадыняй. Але, цікава заўважыць, яе вітаюць не вельмі прыхільна на новым месцы.

25.

Выносъ, маті, дієжку
Прывіоз сын нэвієстку.
Нэ в ніє скрыні,
Нэ з еі госполыні.

Тут упамінанне аб дзежцы не выпадковае. Нявестка, зышоўшы з воза, прымае з рук свякрухі дзежку — сімвал поўнай і незалежнай гаспадыні ў сям'і — і нясе яе ў хату.

Нявесела адчувае сябе маладая на новым месцы, у новай сям'і. І таму матыў адзіноцтва і бездапаможнасці гучыць у песні:

26.

Ой, прывезлі (Марысю),
Стала ў куточку:
— Прымі мяне, мама,
За родную дочку.

І не пашкоюць яе вясельнікі маладога. У іх песнях на першы план ставяцца абавязкі і цяжар работы, які спадзе адразу на нявестку. Праўда, часам яны прыбраны ў гумарыстычную прыпеўку:

27.

Нэ журыся (Марыся),
Тут тобе добрэ будэ:
Сама ступа товчэ,
Самі жорна мелют,
З-под пэчы вода тэчэ,
Свекруха хлеба напэчэ.

Але гэта зусім не змяншае тых абавязкаў, якія спадаюць на маладыя нявестчыны рукі. І вясельнікі маладой гэта дасканала

ведаюць таму, каб задобрыць неяк новых бацькоў за сталом спяваюць ім пахвальную:

28.

А ў нашага свата
Вясёлая хата:
Бычкі іграют у смычкі,
Подтёлкі — у свістёлкі,
Бараны — у органы,
А коні — на гармоні.
А ў нашого свата
Светліца — не хата.
Печ его побеленая,
Чэсць его ўхваленая.

Прыходзіць чарга і на «прыданак» — старэйшых векам вясельнікаў маладой, — якія толькі цяпер прыязджаюць з пасагам на падворак маладога. У іх песні аб выкупе прыданага чуем зноў тхненне даўно мінуўшай рэчаіснасці — абавязак маладога заплаціць выкуп за маладую. Цяпер гэтая песня пераасэнсавалася, і ў ёй прыданкі напамінаюцца для сябе дадатковага пачастунку:

29.

За морамі бывалі,
Едвабаў-шоўкоў накуплялі
Для нашой молодой.
Хочэтэ — выкупляйтэ,
А ежэлі не — повэзэм додому.

Вясельны абрад блізіцца к канцу. І тут неабходна напомніць аб старажытным агульнаславянскім звычаі, які ўжо даволі даўно занік у вясельнай абраднасці беларусаў, а іменна: аб так званых пакладзінах. Калісьці момант фізічнага збліжэння маладога і маладой і сцверджанне маральнай чысціні маладой было неабходнай умовай для заключэння вясельнага кантракту. Гэтае звяно ў вясельным абрадзе даўно занікла, але песня захавала аб ім жывую памяць:

30.

Чорна хмара на небе стала.
Дэісь наша (Марыся) з (Іванком) спала.
Вона нэ спала, всё горовала.
Ёй сеta ночка рочэньком стала.

Развітваемся з багатым і надзвычай каларытным абрадам нашага насельніцтва — вяселлем. У ім, як у люстры, адбіліся і побыт беларусаў і іх нацыянальны характар.

Пажадаем жа ўсім маладым на іх новай дарозе шчасця і дабрабыту.

З запісаў студэнтаў Завочнай Настаўніцкай Студыі ў Беластоку і вучняў Педагагічнага і Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску выбраў і апрацаваў Мікалай Гайдук.

**Прыведзеныя вышэй песні запісаны на працягу 1958—1960 гадоў Усім інфарматарам і збіральнікам складаю шчырую падзяку.**

**Мікалай Гайдук**

---

Алесь Барскі

## ЛІСА КАЗЁЛ І МЯДЗВЕДЗЬ

(басня)

Казёл стварыў дзіцячы сад
і акружыў яго бяспекай:
прытульна, цёпла, лад
і добрая апека.
Не сад — а рай,
жыві і не ўмірай.
Шчаслівыя звяры
прыносяць малышоў,
а самі... мык дамоў!
Дзяцей штогоду прыбывала,
і цяжкавата казлу стала.
Пайшоў ён да мядзведзя - князя
ды і кажа:
— Работы маю вельмі многа,
дай, княжа, дапамогу.
І адказаў яму мядзведзь:
— Я знаў, казёл,
што прыдзеш ты сюды
ды вер, няма бяды:
даўно я кадры падгатовіў,
лісу табе прышлю.
Хай фарміруе дзецям душы,
хай цаліну ўзрушыць.
— А ці ліса не скрывадушщыць? —
спытаў казёл наіўна.
— Ты, што — не верыш
маладому пакаленню?

Ліса расла на слушных ідэалах,
свядомай стала, —
сказаў мядзведзь з запалам.
І гэтым засцярогі
ў душы казла развеяў.

* * *

Прышла ліса ў дзіцячы сад.
Язык яе памазан мёдам:
Хваліць казла і хваліць лад і згоду.
— Ну і парадак, ну і дом,
бытуем на свабодзе, —
ліса пяе і прад казлом
на задніх лапках ходзіць.
Ды ўрэшце ўбачыла ліса,
што у казла вялікая зарплата,
ды слава на дадатак.
Падумала яна:
«Дык гэта ж ненармальнасць,
тут справу трэба пераглядзець»
і, паімчала да мядзведзя.
— Ратуйце душы, князь!
Казёл псуе нам дзеці:
ён дрэнным прыкладам ім свеціць!
Мядзведзь здзівіўся дужа.
— Ты што у галаву ўзяла?
Чаго ты хочаш ад казла?
Ён за дзяцей стаіць гарой,
дом збудаваў...
На маю думку, ён — герой,
знаток дзіцячых спраў.
Ліса сядзела моўчкі,
пасля сказала цвёрда:
— Казёл герой, ды не станоўчы,
фаталістычны, у духі верыць,
у ведзьму, чорта, у кашчэя,
новых ідэй не разумее,
адкінуў дыялектыку на чыста
і дзецям даў дазвол на твісты,
не прызнае навукі афіцыйнай
ён — рэакцыйны!
Ідэаліст у сваіх марах.
Ён ужо дваццаць год таму

адкінуў вашу, князь, навуку,
ён палітычна блізарукі.
— Прабач, мой дружа малады, —
мядзведзь сказаў, —
тады яшчэ маёй навукі не было.
Дык як жа мог казёл ёй запярэчыць?
Ліса дала тут крок назад,
ды зноў адкрыла роцік:
— Ну... так, але калі б яна была
казёл напэўна быў бы процiў!
Мядзведзь устаў і зноўку сеў.
— Ну што ж, — сказаў лісе, —
папробуем спытаць дзяцей,
што яны скажуць пра казла.
— Нашто, — здзівілася ліса, —
малыя, як дурныя.
— Тады, — задумаўся мядзведзь, —
спытаемся старых звяроў.
— Нашто, — адрэзала ліса, —
старыя, як малыя.
Вы мне паверце, князь,
казла нам трэба зняць,
даю вам слова.
Ліса дамоў пайшла
ізноў прыйшла нанова,
ды лгала раз за разам,
Перак анала ўрэшце князя.
Знялі казла.
Лісу наставілі кіраўніком —
і пасмутнеў дзіцячы дом.
Год прайшоў у цішы.
Ліса зірнула вышай,
Пайшла да караля — ільва
Сказала:
што мядзведзь свіння,
што пустазвоны,
што шаблонны,
што дагматычны,
што склератычны,
што пагарджае каралём — ільвом,
што трэба яго ў шыю гнаць
і з княжага паста ізняць.

* * *

Далей гісторыі лісы слядзіць не будзем.
Няхай другія сочаць ды і судзяць.

Мне толькі думка ў галаву прышла
(Яе і майце на прыкмеце):
Ліса страляе у казла
і заадно ў мядзведзя меціць.



Аўтарская сустрэча з А. Барскім

---

Сакрат Яновіч

# ВОСЕНЬ

*ПРЫСВЯЧАЮ СВАЙМУ ПРЫЯЦЕЛЮ ДР. ГЕНРЫХУ РАЙКОЎСКАМУ*

*Аўтар*

Маці з бацькам старыя, ад зімы не бачылі цябе, сынок. Прысядзь на зэдліку ля печы гарачай ды паталкуй з імі аб свеце шырокім, сынок. Няхай сабе восень вые пазавуголлю, а ты не хадзі нікуды, адпачынь, сынок. Пасля свята зноў паедзеш на службу далёкую, дык дай нацешыцца табою, сынок. Каб уцехі гэтай хапіла ім на год цэлы.

Але ты не хочаш прыпечку, мілей табе вуліца гразкая і вецер з поля цяплейшы. Раздувае ён жар сатлелы. Дождж вымывае на верх былое, бы тая рэчка карэнні вярбовыя. Глохнеш і слепнеш абхапіўшы клён слізкі, як утопленнік, ратуючыся ад глыбіні ўспа-

мінаў мінулых. Ціхнеш пад соннымі шыбінамі суседавай хаты, дрантвееш ад жалю, надзеі, страху. Баішся бледнаты Кірынай усмешкі ў акне, бо няма ўжо яе тут. Няма. Выйшла замуж, і ты таксама жанаты з другою...

* * *

А маці табе вячэру ў вуголлі загарнула і шэпча ў покуце свае просьбы спрадвечныя.

---

## ДЗЯДЗЬКА

Вуліца слепіцца, стараецца пазнаць мяне, дзіця сваё непаслушнае, якое пакінула яе і дало драла ў свет белы дзесяць год таму назад. Цётка ў хустцы прыглядаецца і дзівіцца, як гэта вырас я ды спытае, ці не жанаты ўжо?

Ідзе Ала. Усміхнуўся і чуць не перапыніў словамі «што парабляеш у Вроцлаве?»

У пору стрымаўся. Гэта была яе сястра...

Вось, ля брамкі стаіць Пеця.

— Здароў! — кажу. Чуў, у Гданьску працуеш?

Але, што гэта такое?! Пеця скідае шапку і бубніць:

— Добры вечар, дзядзю. Я памятаю Вас, калі вы да Пеці нашага прыходзілі гуляць...

Я дзядзё — дзядзька. Пазнаюць або не пазнаюць ужо Пеця, Ала, Ірка, Шура, Вадзім, Віцька... не, не яны, а іхнія сёстры і браты.

Імёны — гэта мая наўторная маладосць. Ранкам зірну таемна на Шуру, што якраз выходзіць з хаты, але яна нават не пачырванее, шаноўна прашчабеча ўсяго «дзень добры». Сама Шура ў Лодзі.

Пагорак той, дзе на санках каталіся днямі зімовымі, цяпер выдаўся нізкім і як бы зусім да зямлі прыгорбленым. Хаты ў даліне пачарнелі, знікла задорнасць іх вокан...

Дзядзька разглядаецца навокал...

---

## ПРЫЕХАЎ

Глянь, маці, на сына. Ён сумны стаіць, бамбіза, і не ведае куды рукі падзець. Падымі, маці, вочы. Ён здалёку прыехаў наведаць гаспадарку. Запытай, маці, як жывецца яму. Ён даўно пакінуў цябе адну на загоне запушчаным. Прытуліся, маці, да пячакі. Ён не

асмеліцца пацалаваць руку тваю. Ен вялікі ўжо чалавек і жаніцца будзе.

А пра нявестку нашто табе ведаць, мамі? Ты ж у вёсцы свой век дажывеш.

## НІНКА

У руках Нінкі пахне язмін і кружыць галаву жар яе шчакі. Ты ідзеш з ёю побач і чырванееш перад знаёмымі, аж урэшце кажаш.

— Глянь, як упіўся Рыгор?

Смяецца са слоў мужчын ля гасподы.

— Учора Рыгор біў жонку і сына, — шэпча Ніна.

Ты радасны і зусім не разумееш, што гаворыць табе дзяўчына. Доўга блукаеш з Нінкаю ў цішы.

Над ранкам зароў Рыгор:

— Горка рэдзька ды ядуць, ух-ха!
Кепска замужам ды йдуць, ха-ха-ха!

На двары завішчаў Рыгораў сынок.

— Баюся, — сказала Нінка.

Ты захацеў прытуліць яе, але яна адвярнулася.

— Баюся, — сказала яшчэ раз.

А па хатах суседзі гавораць, што жаніцца будзеш і вяселле на Яна павінна быць.

## БЯРОЗКА ЛЯ АКНА

Адзінокая адна ты слухаеш спагады і сяброўства. Лістотаю маладою зазіраеш у акно, а ўвечары ветрыкам падвешаная шархнеш па шыбіне, аж гаспадар загледзіцца на хвіліну ў цемень вясеннюю. Яго вочы выцвіўшыя, пячульныя на твае трывожылісь перад ліўнем душным. Не спачувае ён і слязам дажджлівым. У электрычным бляску ўспыхнуць на табе кроплі нямой роспачы і ў адчаі хіснешся ты супроць буры нахабнай: ды лісце твае ўсё з надзеяй ліпне да акна, бачачы цішыню і спакой хаты, як бы просіць падмогі ў долі сірочай.

Бура скаліцца і вые, і драпежна дзярэ зямлю. Ты бялееш са страху і забыўшыся пра злосць наддоўшую на гаспадара, ізноў дамогашся ў акно звонам па шыбах перапалоханым голлем. Дарма

Гаспадар нахіліўся над работаю і не адгукаецца. Што яму да бяды твае!

## НАД МОРАМ

Цалуе далікатна мора
Пясчаны бераг хваляй пеннай.
Людзі ад вадзяных прастораў
Былі ў дзівосным захапленні.

Раптам знікае смех на тварах,
Сэрцы сціскаюцца балюча,
Ідзе на пляж, за парай пара,
Дзяцей грамадка невідучых.



Селі, і ў мора са здзіўленнем
Глядзяць аслепшымі вачыма.
Марскіх хваль чуюць шапаценне,
Аднак убачыць — немагчыма.

За ручкі ўзяўшыся, шнурочкам,
Пайшлі ізноў крутою сцежкай.
На тварыках і ў сляпых вочках
Я ўгледзеў весялосць, усмешку.

Дзяцей тых напаткала гора,
Іх лёсу нельга перайначыць.
Прыехалі здалёк над мора,
Каб мора гэтага не ўбачыць.

## ВЯТРАК

За вёскай, у полі, на ўзгорку,
Дзе ўецца гасцінец - бальшак,
Аб долі задумаўся горкай
Стары, спарахнелы вятрак.

Найбольш адзінокі на свеце,
Аджыў, як відаць, я свой век.
З мяне насміхаецца вецер,
Пакінуў мяне чалавек.

Не рвуцца ў палёт мае крылы,
Шчаслівых не ўбачыць ім дзён,
Не хопіць напэўна ім сілы,
Каб з месца крануць мой жарон.

## НАШЫЯ ПРЫГАЖУНІ

Валасы ільняныя,
Вочы васільковыя,
Тварыкі румяныя,
Ручанькі здаровыя.
У працы не лянівыя,
У хаце непаседлівы,
Для людзей зычлівыя
І надзвычай ветлівы.
Заўжды служаць радаю,
Шчырай дапамогаю.
Яны ніц не падаюць
Прад бурай-трывогаю,
Пад цяжкою ношаю,
Пад жыцця нагрузкаю.
Прыгажуні нашыя,
Кветкі беларускія.



Табе дзяўчына
хачу вясёлку ўплясці
у косы
вусны
памаляваць усмешкай
зарасадзіць у душы вяселле
у сэрцы спакой
каб магла прайсці
цярністыя шляхі
буду трымаць палец
на шчасце.





Ружамі
уквечваю ўспаміны
тку

з праменняў сонца
шэрых падзей
абмываю думкі
з жыцця галінамі
уплятаю
у пасмы часу
незабудкай
сэнс надзей.

* * *

Я хацеў бы сказаць
зімовым віхрам
завеі
усе сакрэты душы
выняць з-пад сэрца
надзеі
каб ляцелі ўдаль
змагацца
за сівізну галоў
за усмешку на твары
і жмутак сардэчных
мар.

Іван Чыквін

## ГАЙНАЎШЧЫНА

Ружамі пахнуць ветры падвячоркамі,
гнездзіцца ў гушчарах маўчанне горкае.

Арэшнік на вуха рабіну клоніць,
бяроза ўздыхае ў лёгкім паклоне.

Суседка ціхутка суседцы шапоча,
на пяску вецер свой астаўляе почырк...

Знаёмая дарога, лес, лугі, поле —
на Гайнаўшчыне адпачываецца ўволю.

І радасна ідзеш дамоў, лёгкі ногі,
калі знаеш — выглядаюць на дарогу.

## ВЯРТАННЕ

Вада
з крыніц
мацней
усялякіх він.
У люстэрка
нахіляюся
напіцца
сілы.
І лезе
цалавацца,
пропадам ты згінь,
чужы мне
чалавек,
стаўшы над магілай.

* * *

Дзяцінства
за мною
няспынна ідзе
у размалёванай
краскамі
сонца сукенцы.
Як
адно звяно
незабыўных падзей
у сугуччы
даўно
абяцанай надзеі.
За руку
не трымаў мяне
Асвенцім.
За руку
сястра вадзіла
на раку,
дзе чырвоных ракаў
злоўленых пякуць.

## ВЯЧЭРНІ ГОСЦЬ

Ходзіць за акном
мокры снег

па слядах,
што ўцякалі дадому.
Нанач
не хочацца
яго прыняць
нікому.
Усюды
у гэту пору
цеплыня
сіла і смех.
А такому госцю
адкрый сэрца,
упусці на парог
у момант
стане
ў горле косцю.
Бруднай лужынай
будзе ляшчыцца
ля тваіх ног.

---

Алесь Свісёк

* * *

Кветкі — галоўкі — нізка над партамі.
Ціша.
Толькі пер'і скрыпяць працавіта.
Хвіліна ўрачыстая!
Упарта
пішацца першая літара.
Між радамі парт —
садаўнік між градкамі,
настаўніца.
Маршчыны.
іней у валасах,
але ў вачах
цвіце маладосць, краса,
калі так крочыць,
наглядае за парадкам.





Мы адны сярод ніў без дарогі
прытуліўшыся моўчкі ідзём.
Сонца золатам сцеле пад ногі,
вецер лёгка кранае крылом.

Жыта ціха выструньвае штосьці,
І цымбаляць у такт жаўрукі,
І кланяецца ў ногі калоссе,
І смяюцца кукаль, васількі.

Так нам добра з табою бясконца!
Колькі ў сэрцы цяпла! Колькі ласкі!
Аб каханні гавораць нам сонца,
вецер, жыта і птушкі, і краскі.

Андрэй Баравы

# Вайна

(Гумарэска)

Вестка аб вайне разляцелася з быстрынёй маланкі. Андрэя Прыгуніца захапіла яна ў полі. Андрэй заблытаўшыся ў настронках, абрэзаў іх вострым нажом, ускочыў на кабылу і пакінуўшы ў полі плуг і воз паімчаў у вёску. Праносся ён галопам каля бярозавага гаіка, каля пахіленага крыжа і выскачыў на ўзгорак, на якім стаяў вятрак з абломаным крылом. Праз момант здавалася, што гэта Дон Кіхот атакуе крылатага ворага. Была гэта ілюзія. Андрэй праносся міма і, як вялікі фантастычны птах, уляцеў у вёску. Панавала там суматоха. Людзі беглі з агародаў, з поля, з аднаго і другога канца сяла. Многія з іх забягалі на момант у хаты, мігам выкочваліся адтуль і кіраваліся ў нейкі адзін, пакуль што не знаны, пункт.

Пунктам гэтым не былі грамадскія ўлады, не была ім таксама святая царква. Усе беглі ў вясковую краму. Паніка звязаная з весткай аб вайне выбухала тут прынамсі раз на паўгода, і жыхары масава беглі ў краму, каб пазбыцца грошай, якія прападуць у выпадку ваеннай катастрофы. Таксама было і гэтым разам. Людзі абляпілі краму, як пчолы вашчыну, падаваліся то ўзад, то ўперад. Заднія націскалі на пярэдніх уціскаючы іх усё глыбей у сярэдзіну.

— Кавалерыя! — крыкнуў нехта распачліва, пабачыўшы Андрэя і цэлы натоўп трывожна здрыгануўся.

Андрэй выкарыстаў момант спалоху, урэзаўся кабылай у гушчу, спрытна саскочыў і апынуўся такім чынам амаль пад дзвярыма крамы.

— Цьфу! Каб ты згарэў! — закрычалі людзі. — Думалі, што варожая конніца, а гэта свая халера. Гані яго назад, няхай у чаргу становіцца!

— Няма дурных, — крыкнуў Андрэй, — струсілі дык плаціць мусіце. Кажучы гэта схапіўся рукамі за вушак і яшчэ глыбей падаўся ў сенцы.

Тое, што там рабілася, сваёй яскравасцю перавышала славутую карціну Брулава «Апошні дзень Пампеі», а нават баталістычныя сцэны з фільма «Аляксандр Неўскі». Людзі ўтварылі тут шматпавярховую піраміду. Ніхто не крычаў, усе стагналі. На тварах мелі вялікую зацятасць, злосць і нянавісць. Сцёпа Малінкевіч, вынырнуўшы з гэтай кучы, папоўз убок прылаўка. Раптоўна аднак перакуліўся і грымнуў галавой у пустую бочку, якая стаяла на скрынях у кутку сенцаў. Бочка загрымела, як расколаты звон. Людзі здрыгануліся.

— А божачкі, — закрычала з другога кутка сяней Тамашыха, — гэта на нас атамную камбайну кінулі.

— Уміраааем, — праразліва заквічала другая.

— Калі атамную — дык бомбу, а не камбайну, — павучыў Андрэй, праціхаючыся наперад. — Па-другое, — цягнуў Прыгунец, — як хочаш уміраць дык, калі ласка, можаш канаць. І па-трэцяе, гэта не бомба, а проста Сцёпка цэбрам грымнуў у бочку.

Пасля гэтага некаторыя засмяяліся, але зараз зар'энтаваліся, што смяяцца ў ваеннай атмасферы няёмка. Усё ўспакоілася, і натоўп пачаў ізноў назойліва стагнаць.

Прадаўшчык крамы заліты потам знімаў з полак тавар, важыў, мераў, дзяліў і кідаў у рукі пакупнікам ссыпаючы памятыя грошы ў шуфляду. Тыя, хто купіў, узбіраліся на прылавак і праз акно валіліся на вуліцу. Перадавалі тавар дзецям, а самі пацёртыя, потныя, здушаныя, лягалі пад плотам, адпачывалі і павольна валакліся дадому.

У краме з кожнай мінутай рабілася свабадней. Чалавечая піраміда значна знізілася і стала аднапавярховай. Але адначасова значна паменшыўся запас тавараў.

Прадаўшчык нечакана крыкнуў: — Цукру не больш дзесяці кілаграмаў засталося.

Адна з жанчын кінулася рантам на падлогу, забілася, як рыба, забляяла, нібы авечка і заціхла.

— Памерла! — загаласіла суседка. — Дайце вады!

— Калі памерла дык навошта вада? — спытаўся нехта.

— Тут няма жартаў, — сурова сказаў Андрэй. — Ёй неабходна штучнае дыханне. Прапусціце, я санітарам у войску быў, зараз памагу. Гаворачы гэта праціснуўся да жанчыны, пераступіў праз яе і прапхнуўся да прылаўка. Апынуўся такім чынам пры самым прадаўцу.

— Не бойцеся, не памерла, — спакойна выясніў прадавец, — яна заўсёды стасуе гэты спосаб, калі тавару мала. Падайце ёй, калі ласка, кілаграм.

Памёршая прыціснула цукар да грудзей і прастагнала.

— Злітуйцеся, дайце яшчэ кілаграм.

— Каб цябе паляруш стрыножыў! — завішчала нейкая баба. — Дык ты такая хітрая, каб ты не ўстала.

— А вось і на тое самае ўстану, — прагаварыла нябожчыца. Кажучы гэта ўзнялася з падлогі, уручыла прадаўшчыку грошы і палезла ў акно.

Натоўп ашуканы хітрасцю жанчыны апрытомнеў. Раззлаваныя жанчыны кінуліся на Андрэя.

— Прыгунец, дзе тваё штучнае дыханне, чаго палез да прылаўка, адвалівай назад.

Андрэй не думаў адысці нават на крок і цвёрда трымаўся прылаўка.

— Не смей! — крычаў Прыгунец. — Я ў 1915 годзе ў Карпатах з Брусілавым размаўляў. Брусілаў абяцаў, што зробіць мяне беларускім прэзідэнтам. Я маю Георгія чацвёртай ступені, мошкі вы бясхвостыя!

Тут сталася нечаканае. Найсільнейшы чалавек вёскі Сяргей Дубовіч працягнуў доўгую, як палільня руку, схапіў Андрэя за каўнер, падняў уверх і шпурнуў далёка назад на галавы людзей. Андрэй, як верталёт паплыў у паветры. Мужчыны, якія стаялі ў сенцах кінулі Андрэя далей і за момант апынуўся ён каля сваёй кабылы, якая спакойна шчыпала пад плотам траву. Паляжаўшы хвіліну Прыгунец устаў, падышоў да кабылы і безнадзейна махнуўшы рукою прагаварыў: — Прайгралі мы з табою, буланая, вайну, прайгралі.

Тымчасам людскі струмень, які ліўся з акна крамы, значна паслабеў. Прайшло яшчэ паўгадзіны і людзі пачалі выходзіць дзвярыма. Апошняй выйшла Сцепаніха Канцавая. Несла перад сабою закручаную ў посцілку ношу.

— Што купіла? — спытаўся Андрэй.

— Дваццаць люстэрак, — адказала Сцепаніха. — Усё саранча выкупіла дачыста ўсенько. Нічога не пакінулі. Дык я люстэркі купіла, няхай будуць, гэта ж не мяса, не папсуецца. Усёроўна ж грошы прападуць. Вайна, сам ведаеш.

Народ разышоўся поўнасцю, а вайна ўсё не прыходзіла. Андрэй заглянуў у краму. Полкі былі зусім пустыя. На прылаўку ляжаў прадаўшчык. Рукі яго звісалі, як мёртвыя.

— Памажыце, дзядзька, устаць, — узмаліўся ён да Андрэя, — замучылі да смерці.

— А ты мне што-небудзь пакінуў, — спытаў Андрэй. — У мяне ж 200 злотых, шкада каб прапалі.

— Не пакінуў, — адказаў той спакойна.

— Дык які ж ты пасля гэтага сынавец, калі роднага дзядзьку крыўдзіш.

— Не скрыўдзіў я вас, дзядзька, бо вайны ніякай не было і не будзе.

— Як гэта не будзе?

— А вось так. У мяне ў краме назбіралася вельмі многа рознага барахла. Ніхто купляць не хацеў. Таму я і пусціў вестку аб вайне. Памятаеце паніку перад калядамі, як народ хватаў тавар? Тады таксама я прыдумаў. Вогуле ўсе гэтыя войны мы, прадаўшчыкі, робім. Гаворачы гэта Сцёпка дастаў спад прылаўка паўлітра манапалёўкі.

— Давайце вып'ем, дзядзька, за ўдачу. Добра я сёння зарабіў.

ой добра. Андрэй, як заварожаны стаяў і думаў. Урэшце адазваўся.

— Каб цябе халера ўзяла, Сцёпка, нікада што пастромкі парэзаў. Але чорт іх бяры. Добра, што грошы засталіся. Выпіўшы дзве шклянкі водкі Андрэй бадзёра вышаў з крамы, прыйшоў да кабылы і радасна крыкнуў:

— Выйгралі мы вайну, буланая, выйгралі!

---

Андрэй Баравы

# Вартавыя

(Гумарэска)

Ужо паўгода працуе Іван Макарчук у пункце скупу жалезнага лому. Кіраўнік і весаўшчык пункта Андрэй Дубровіч называе Івана — дзедам. Мянушка такая не можа крыўдзіць чалавека, якому паўзе па плячах восьмы крыжык. Паміж Макарчуком і Дубровічам пануюць прыязныя адносіны. Сядзяць яны ў зацішку на сонейку і вядуць філасофскія размовы.

— Як думаеш, — пытае Дубровіч, — што гэта такое сонца?

— Сонца? — перапытвае Макарчук, — вядома, метал, распалены метал.

— Метал кажаш, дык добра было б яго на злом дастаць.

— Чаму не, дастанем калі-небудзь, толькі навуку вышэй узнімем.

— А як думаеш, дзед, чаму ў зямлі метал знаходзім? — спытаўся Дубровіч.

— Ды яно зразумела, зоркі падаюць з неба, зарываюцца глыбока ў зямлю. Вось адтуль капаем жалеза. Зоркі, бачыце, таксама з металу.

— Як у цябе, дзед, — змяніў размову Дубровіч, — ці не здараюцца выпадкі пакражы лому?

— Барані бог, пільнуем, пільнуем і яшчэ раз пільнуем, — адказваў Іван і гэтым супакойваў кіраўніка.

— Я не пярэчу, — далікатна цягнуў Дубровіч, — ды толькі неяк метала не прыбывае. Пакрысе куплясм, куплясм, а куча неяк не расце.

— А халера яе ведае чаму яна не расце, — здзівіўся Макарчук. — Вялікі цяжар, можа ў зямлю падаецца, або проста ссядаецца. Тут трэба навукова глядзець, а не толькі павярхоўна.

— Ды яно вядома, я і не пярэчу так толькі спытаўся, — мірна адказаў Дубровіч.

Пастукалі ў браму і дзед пайшоў адкрываць. Аказалася, што

прыехаў найлепшы пастаўшчык метала, малады, здаровы дзяцюк Мішка Дубоўскі.

— Заязджай на вагу, — крыкнуў Дубровіч, і Мішка ўвалок свой возік.

— Сто кілаграмаў роўна, — сказаў Дубровіч і пачаў адлічваць новыя паперкі залатовак.

— Скажы, брат, — цягнуў кіраўнік, — адкуль ты метал валочыш кожны дзень дастаўляеш па сто кілаграм.

— Нічога тут дзіўнага, паночку, цэлы свет напоўнены металам. Стукні абухам па сасне — дык звоніць, значыць, нават дрэва па сутнасці жалезнае.

— Гаворыш, як дзед Макарчук. У таго сонца жалезнае, а ў цябе сосны з метала, усміхнуўся Дубровіч.

* * *

А трэцяй гадзіне пасля абеду Дубровіч, так як штодзённа, развітаўся з Макарчуком і адправіўся дамоў. Іван застаўся на цэланочнае старажаванне. Каля поўначы ціхусенька пастукалі ў вароты. Макарчук крэкчучы падняўся з саломы і падыйшоўшы да брамы спытаў:

— Хто там?

— Гэта я, дзядок, — адказаў голас з цемры.

Макарчук адкрыў браму і на пляц уехаў з ручным возікам Мішка Дуброўскі. Ён моўчкі пад'ехаў да кучы лому і пачаў складаць у свой возік кускі метала.

— Цішэй кладзі, — прыпомніў Макарчук, — а то ўвесь горад разбудзіш.

— Не бойся, дзядок, горад спіць, як пшаніцу прадаўшы.

— Ведаеш што, Мішка, — сказаў Макарчук, — ім і ў галаву не прыходзіць, што ты мой унук і што ўжо трыццаць раз прадаеш той самы метал.

— Ну, чорт пабяры, яшчэ ім сто разоў прадам няхай дзівуюцца, які я працавіты, можа ўзнагароду дадуць або медаль павесяць.

Возік за час размовы напоўніўся зусім і Мішка дастаў цігарэты частуючы імі дзеда.

— Курыце, дзядок, а што датычыцца грошай, дык належыцца вам 50 зл. Згодна з дагаворам на палавіну.

— Давай — працягнуў руку Іван і паперкі зашалясцелі ў змроку.

— Неяк жывем, — уздыхнуў Іван і ціхутка зацягнуў складзеную ім песню, якая пачыналася ад слоў: «Эх жыццё ты жалезнае...»

* * *

Ішлі дні. Мішка амаль штодзённа паяўляўся з сваім возікам перад брамай пункта скупу металалому і Дубровіч заўсёды хваліў яго за працавітасць.

Аднойчы прыехалі грузавікі, каб забраць сабранае ў пункце

жалеза і адвезлі ў Новую Гуту. Прыехала таксама некалькі чалавек камісіі. Рабочыя пачалі грузіць і важыць метал. І тут выйшла на яў нешта дзіўнае.

— Чаму ў вашых паперах сказана, што куплена сем тон метала, а вага паказвае толькі чатыры тоны? — спытаўся член камісіі ў Дубровіча.

— Не можа быць! — здзівіўся кіраўнік. — Можа вага сапсавалася.

Загадалі з'ехаць грузавікам, праверылі вагу і машыны зноў павольна ўехалі на платформу. Вага нязменна паказвала чатыры тоны.

— Ну што? — грозна запытаў старшыня камісіі ў Дубровіча.

— Не ведаю, панове, нічога не ведаю, я ні ў чым не вінаваты.

— Давай будзем кантраляваць усе прыёмныя кнігі, — загадаў старшыня.

Дубровіч прынёс кнігі і члены камісіі доўга правяралі рубрыкі, запісы, шыфры. Скончыўшы работу, старшыня камісіі заявіў:

— Кнігі вядуцца добра, усё ў парадку. Прычыну недахопаў трэба шукаць недзе ў другім месцы.

Усе доўга думалі, урэшце дайшлі да згоднага вываду, што вінаватым можа быць толькі сторож. Дубровіч паклікаў Івана Макарчука.

— Як пільнуеш? — грозна спытаў старшыня.

— Як пільную, так пільную, — спакойна адказаў Іван.

— Куды дзеўся метал? Бракуе чатырох тон!

— Увесь на машынах, таварыш начальнік.

— Не дурыся! — крыкнуў старшыня. — Адказвай, дзе дзеўся метал.

— Не ведаю, можа ссохся, вялікая, бачыце, жара ў гэтым годзе была, — спакойна адрэзаў Іван.

— Ці ён нармальны? — спытаўся старшыня ў Дубровіча.

— Думаю што не, бо даказвае, што ўсё жалеза бярэцца з зораў.

— Дык чаму прымалі такога на працу?

— Я не прымаў, яго прыслалі з акругі.

Члены камісіі паглядзелі на сябе і пачалі ціха разважаць.

— Калі яму 75 год ды яшчэ і ненармальны, дык яго і суд судзіць не будзе.

— Вядома, што не будзе.

— Трэба гнаць старога з працы ў шыю і кропка.

— Несумненна трэба гнаць, — згадзілася ўся камісія.

— Старшыня ўстаў і грозна заявіў:

— Як нездысцыплінаваны сторож ад сённяшняга дня будзеш звольнены з работы.

— Звольнены дык звольнены, — адказаў Макарчук, — выйшаўшы з канторы заспяваў:

«Эх жыццё ты жалезнае...»

Усе задумаліся, урэшце адазваўся старшыня:

— Звольніць стоража дык мы звольнілі, але адкуль нам узяць новага. Склад метала не можа быць без апекі.

— Ці не маеш якога-небудзь добрага кандыдата на месца Макарчука? — звярнуўся старшыня да Дубровіча.

Дубровіч задумаўся. У гэты час у браму ўехаў Мішка Дубоўскі з возікам напоўненым жалезам. Дубровіч заўважыўшы яго выскачыў з канторы.

— Мішка, ратуй сітуацыю! Патрэбен сторож да нашага пункта.

— Чаму гэта? — здзівіўся Мішка, — вы ж маеце стоража Івана Макарчука.

— Выгналі, братка, выгналі, бо пусціў недзе чатыры тоны метала.

— Ну, а суд будзе?

— Не, не будзе. Бачыш, ён стары, ды і не зусім нармальны.

— Ну дык як?

— Згаджаешся, Мішка, на старажоўства?

— Чаму не, можна.

Дубровіч кінуўся назад у кантору і пачаў камісіі прадстаўляць новага стоража, захваляючы яго праўдівасць і добрасумленнасць.

— Напішы яму рэкамендацыю. Без гэтага прыняць нельга, — сказаў старшыня.

Дубровіч сеў, зморшчыў лоб, заціснуў губы і пачаў пісаць:

«Міхал Дубоўскі — чалавек з прыгожым характарам. Паходзіць ён з добрай сям'і. Дзед яго змагаўся з паншчынай, а ён змагаецца за шчаслівую будучыню мірнымі сродкамі. Міхал мала думае пра сябе, а многа пра другіх. Праявілася гэта ў тым, што дастаўляе вялікую колькасць метала, так патрэбнага народу. Метал гэты зрошвае ён уласным потам, што ўзнімае яго вартасць. Міхал Дубоўскі — гэта чалавек з жалезным характарам і сталёвым сэрцам. Ён поўнасцю заслужыў, каб стаяць на стражы пункта скупу металічнага лому».

Кіраўнік Дубровіч.

Члены камісіі былі захоплены прыгажосцю напісанага. Старшыня пахваліў стыль Дубровіча, заахвочваючы яго да літаратурнай творчасці.

— З цябе, брат, можа Міцкевіч вырасці, а можа і нешта большае.

Дубровіч быў шчаслівы.

* * *

Вось такім чынам стаўся Мішка сторажам. Прайшоў тыдзень. У варотах пункта з'явіўся з маленькім возікам, напоўненым жалезным ломам, Іван Макарчук. Дубровіч быў страшэнна здзіўлены.

Здавалася яму, што ён бачыў недзе гэты возік, толькі ніяк не мог прыпомніць дзе. Макарчук зважыўшы метал скідаў у кучу і прыспеўваў любімую песню: «Эх жыццё ты жалезнае...» Калі ўжо збіраўся ён адʼязджаць, новы сторож Мішка прашаптаў:

— Па метал прыязджай не раней дванаццатай гадзіны і не забудзь прывезці палавіны заробленых сёння грошай.

Мой божа! Навошта ўнукі паўтараюць памылкі дзядоў?

---

Алесь Барскі

## ДЫЯЛАГІ 1946 ГОДА

Прыйшлі цёмнай ноччу асенняй
ціхутка пастукалі ў дзверы.
— Хто там? — спытаўся прыглушаны голас.
— Захварэў падарожны, ратуйце!
Скрыпнулі дзверы і выйшла белая постаць.
— Дзе ён? Давайце ў хату.
— Ляжыць на пругмені, змарыў нас,
не можам прынесці.
— Пойдзем ды разам прыцягнем.
Прайшлі дваццаць крокаў.
Святло батарэйкі ўпілося у твар селяніна
І голас прыпгольца урэзаўся ў сэрца:
— Гэта ты — Раманчук Аляксандар?
— Я... не свяціць, дзе хворы?
— Гэта ты — сакратар камячэйкі?
Аўтамат стукнуў дулам у грудзі.
— Хто вы?
— Мы людзі свабоды.
— Гэта ты — сакратар камячэйкі?
Усё стала ясным, бязвыхадным, простым.
— Я — Раманчук Аляксандр, сакратар Пэпээру.
Ноч разарвалі траскучыя стрэлы,
і ўпаў Раманчук Аляксандр
са сцягам крывавым
на белай кашулі.

---

# Гумар

## ЖОНКА ВІНАВАТА

Едзе селянін да млына з мяшкамі на возе. Прахожыя яму кажуць:

— У вас, дзядзька, мяшок развязаўся.

— Ды гэта ж чортава жонка завязала. Я ўжо тры разы перавязваў, а ён усё развязвасцца.

## ЗУБАСТАЯ БАБУЛЯ

Бабульцы сказалі, каб яна трымала язык за зубамі.

— Устаўце зубы, тады пагаворым, — адказала бабуля.

## ХІБА ГЭТА ПЛАЧ?

— Ты што, дружа, кідаеш жонку?

— Кідаю.

— Не рабі гэтага, паглядзі, як яна плача.

— Хіба гэта плач! Калі б ты пабачыў, як плакала тая, якую я пакінуў з трыма дзецьмі!

## РОЗНІЦА

Муж: — Ты знаеш, жонка, што вярблюд можа восем дзён рабіць і нічога не піць?

Жонка: — Э-э-э... Я знаю такога вярблюда, які восем дзён п'е і нічога не робіць.

## АДПЛАТА

Селянін выцягнуў з рэчкі зубнога ўрача, які пачаў тапіцца.

— Дарагі чалавеча, як жа табе аддзякаваць за тваю дабрату? Прыходзь да мяне, я табе ўсе зубы без чаргі павырываю.

## АДЗІНАЯ АКАЗІЯ

Малады чалавек да малога брата сваёй каханай:

— Скажы мне, ці часта падглядаеш праз дзірку ад ключа, калі я сам у пакоі з тваёй сястрой?

— Толькі тады, калі мама ці тата гэтага не робяць.

## НЕГАВАРКІ

На прыёме адна з жанчын пайшла ў заклад са знаёмымі, што змусіць аднаго з гасцей, вядомага негаваркога чалавека да таго, каб сказаў тры словы.

Пры стале звяртаецца да яго:

— Пайшла ў заклад з сяброўкамі, што на працягу сённяшняга вечара скажа пан да мяне хаця б тры словы.

— Прайграла пані.

## БАБУЛЯ І ЎНУК

Возячы свайго ўнука, сівая бабка змарылася, спыніла каляску і паглядзела, каб дзе прысесці.

— Бабулька, што ты мяне далей не вязеш, бензін кончыўся?

## ЛІЧУ

Малады муж звяртаецца да жонкі:

— Прызнайся, колькі мужчын кахала ты дагэтуль?

Жонка маўчыць.

Пасля паўгадзіннага маўчання муж закідваючы сабе брак такту пытае:

— Ці злуеш на мяне?

— Не, — адказвае жонка, — лічу.

## ЗДЫМАЦЬ БУДУЦЬ

— Мама, — кажа сынок, — нашага татку здымаць будуць, а чаго ён такі невясёлы. Помніш, калі нас з табою здымалі, дык мы ўвесь час смяяліся.

## НА ЎСЯКІ ВЫПАДАК

Заходзіць вясковы хлапец да доктара ды кажа:

— Калі ласка, пане доктар, прыпішыце мне такой масці, ад якой хутка зажываюць раны.

— А дзе ж у вас гэтыя раны?

— Ды яшчэ няма, але будзе вяселле, ды хто яго ведае як там будзе...

## ПАПЯРЭДЗІЎ

Аднойчы зайшоў сын да бацькі ды кажа:

— Тата, я хачу цябе папярэдзіць, што ад сёння ты павінен працаваць два разы больш...

— Чаму ж так? — здзівіўся бацька.

— А таму, — адказаў сын, — што я выраслаў ажаніцца і цяпер табе давядзецца гадаваць не толькі мяне, але і маю жонку.

## ЗНАЙШОЎСЯ

— Тата, купі мне трубу.

— Навошта?

— Трубіць хачу.

— Дык ты ж будзеш перашкаджаць мне працаваць!

— А я буду трубіць, калі ты спаць будзеш.

## ПАДЗЯКА

— Паважаны грамадзянін, вашая сабака ўкрала ў мяне цэлы кілаграм мяса.

— Дзякую, што вы мяне паведамілі. Я сёння не дам ёй есці.

---

## ДУМКІ ЎГОЛАС

Паказаў сваё сапраўднае аблічча і тады аказалася, што не мае твару.

*

Кожны грамадзянін мае права абняць ліхтар, аднак толькі п'яніца з гэтага права карыстае.

*

Найчасцей ля парога смерці ведаем ужо як маем жыць.

*

Мудрасць палягае на ўмелым выбары найменшай дурноты.

*

Калі не маеш цярплівасці чакаць на вынік, скарачі доследы.

*

Аптыміст, гэта такі чалавек, які маючы дзірку ў боце, цешыцца, што яшчэ цэлыя шкарпэткі.

*

Калі рука руку мые, абедзве становяцца бруднымі.

*

Не губляйце галавы. Другая можа не пасаваць.

*

Высока падняты нос галаву прыніжае.

*

Хто ляжыць, той не ўпадзе.

*

У жыцці так, як у тэатры. Сямейныя драмы ідуць без рэпетыцыі.

*

Не пі шмат за здароўе іншых: сваё страціш.

*

Калі шафёр верыць у бяссмерце, жыццё пасажыраў у небяспецы.

*

Нарадзіцца несумленным не сорамна, сорамна памерці несумленным.

*

Хабарнік быў такім чулым да наведвальнікаў, што нават прымаў на дробязі.

*

Тэлефонны слуп ганарыўся тым, што ён часта гудзе, хоць за ўвесь свой век ён не выказаў ніводнай уласнай думкі.

*

Цёмныя справы не давядуць да яснай будучыні.

*

Я не магу без цябе жыць, каханая мая, апошняя мая. Не гаварыў ён толькі адно: якая па ліку.

*

Што сказана ад сэрца, да сэрца трапіць.

*

Не хваліся, няхай цябе пахваляць.

*

Праца накорміць і навучыць.

*

Дом з добрай жонкай з'яўляецца раем.

*

Сілай прыгажосці не здабудзеш.

*

Ногі жанчыны найшчаслівейшыя ў магазіне з абуткам.

*

Дакранаючыся да балота, нельга не пабрудзіцца.

# Беларускі танец „Крыжачок"








Танец «Крыжачок» можа выконвацца давольнай колькасцю пар. Найменш танцаваць можа 4 пары. У сувязі з тым, што на вёсцы часта сустракаюцца цяжкія сцэнічныя ўмовы, танец гэты апрацоўваем на 4 пары. Танец апісаны проста і зразумела. Можа быць выкарыстаны гурткамі мастацкай самадзейнасці.

## Апісанне ўбораў

Дзяўчына апранае белую блузку з доўгімі шырокімі «буфястымі» рукавамі спягнутымі ў кісці. перад блузкі і рукавы вышытыя беларускім узорам. Спадніца з саматканкі, плісаваная або ў закладкі. На спадніцы фартушок упрыгожаны беларускім узорам. На блузку накладаецца аднакаляровую вышытую безрукаўку (сэрдак). На галаве каляровая хуста або вянок.



Хлопец апранае белую кашулю, каля шыі, ніз і рукавы вышытыя ўзорам.

Падпярэзваецца ўзорыстым поясам. Нагавіцы аднакаляровыя. Хлопцы абутыя ў чорныя чобаты. Дзяўчаты абуваюць чорныя чаравічкі.

### Палажэнне рук

1. Дзяўчына трымае левую руку над галавой, далонь адвернутая ўверх, правая рука перад сабой. Хлопец правую руку кладзе на левую руку дзяўчыны, левай рукой трымае правую руку дзяўчыны перад сабой у напрамку руху.

2. Правая рука ўзнімаецца над галавой, далонь адвернута ўверх. левая спачывае на клубе. (Можа быць наадварот, левая вынесена ўверх, правая на клубе).
3. Рукі зложаныя з пераду, утвараюць прамавугольнік, на ўзроўні грудзей. Правая рука на версе, далонь гэтай рукі на левым локці, правы локаць на далоні левай рукі.

## Танцавальны крок

**Тэмпы**

I «і» II «раз» III «і» IV «два» і г.д. Падаецца тэмпы (такты) на пробе такім спосабам «і раз», «і два», «і раз», «і два», «і раз» і г.д.

1. **Асноўны крок**

   На «і» падняць правую нагу пад прамым вуглом перад сабой з адначӑсовым падскокам на левай назе. Пальцы ступні скіраваныя ўніз. На «раз» паставіць правую нагу наперад, на «і» малы крок левай нагой, на «два» малы крок правай нагой. На «і» наступнага такта пачынаем ад пачатку крок ужо з левай нагі і т.д.

2. **Крок у бок (галопка)**

   На «і» крок з нагі правай управа, ступня стаіць паралельна да ступні нагі левай, накіраванай упсрад. На «раз» дастаўляем нагу левую, на «і» крок з нагі правай, на «два» дастаўляем нагу левую. (Крок можам выконваць улева, тады пачынаем левай нагой.)
3. **Прытупванне**
   Падскок на назе левай, тупнуць нагой правай. потым левай, зноў правай.
4. Крок з заношваннем нагі назад, з малым паваротам тулава. Палажэнне ног. Пяты разам злучаныя, пальцы крыху расшыраны. На «і» нязначны падскок на назе левай, правую нагу адарваць ад падлогі, «на раз» перанесці нагу правую назад і паставіць за леваю. Пераходнае прытупванне нагой правай потым левай.
   Наступны крок паўтараем з нагі левай.
5. Прысяды (выконваюць хлопцы).
   На «раз» глыбокі прысяд на абедзве ногі, калені злучаныя, на «і» устаць з прысяду з адначӑсовым падскокам на левай назе, правую нагу выпрамленую ў калені адводзім пад вуглом 45°

наперад. На «два» ставіць правую нагу на цэлую ступню. Наступна на «раз» глыбокі прысяд і т.д. Крок паўтараем толькі з нагі правай.

## Распрацоўка танца




### фігура I (выхад)

Дзяўчаты стаяць за левай кулісай, хлопцы за правай. Палажэнне рук (№ 3). Выходзім радком асноўным крокам (№ 1) на 4 такты (рыс. 1). На 4 такце прытуп крок (№ 3). Адначасова рукі кладзем на клубы.



рыс. 1.

Хлопцы адвернутыя плячыма да гледачоў, а дзяўчаты тварамі.



рыс. 2

Хлопцы пляскаюць у далоні з адначасовым прытупам правай нагой, на кожны такт. Дзяўчаты асноўным крокам набліжаюцца да хлопцаў, на 7 такт быццам бы затрымоўваюцца паміж хлопцамі і на 8 такт выскакваюць перад імі акцэнтуючы прытупам. Хлопцы на 8 такт робяць поўабарот управа з прытупам. Дзяўчаты ўтвараюць шарэнгу перад хлопцамі. Хлопцы другую за імі. Рукі падчас прытупу кладуцца на клубы.

Далей дзяўчаты пачынаюць крок (№ 4) улева, хлопцы ўправа. Дзяўчаты канчаюць поўным абаротам управа і затрымоўваюцца тварамі да гледачоў. Хлопцы канчаюць прытупам (рыс. 3).



рыс. 3.

### Фігура 2

Пары адначасова пачынаюць крок (№1), падаюць рукі (палажэнне № 1), робяць паварот улева і пасоўваюцца ў напрамку не згодным з рухам гадзіннікавай стрэлкі. Калі зробяць паўтара кола, адварочваюцца да гледачоў. Канчаюць прытупам, рукі здымаюць з клубаў (рыс. 4).



рыс. 4

### Фігура 3

Далей пачынаецца пераход. Дзяўчаты пачынаюць крок з нагі левай, хлопцы з правай. Дзяўчаты пераходзяць з пераду хлопцаў (бокам без дадатковых паваротаў). Твары звернутыя на партнёраў. (Крок № 1, рыс. 5 і 6).



рыс. 5



рыс. 6

На першы такт утвараецца адзін рад (рыс. 5), на другі такт дзяўчаты знаходзяцца на месцы хлопцаў, хлопцы на месцы дзяўчат. На 3 такт утвараюць зноў адзін рад, хлопцы наперадзе. На 4 такт кожны знаходзіцца на сваім месцы, канчаем прытупам (рыс. 4).

Далей дзяўчаты крокам у бок (№ 2) адыходзяць управа. На 7 такт абарот управа, далей паўтараем два крокі ў бок. На [illegible] такт абарот, на 10, 11 і 12 дзяўчаты робяць абароты на месцы (палажэнне рук № 2), на 12 такт прытуп, на прытуп адварочваюцца тварамі да хлопцаў. Хлопцы на 5 і 6 такт робяць прысяды (№ 5), робяць абарот праз левае плячо да дзяўчат і ў той час, калі дзяўчаты робяць абароты на месцы, хлопцы прысядамі вяртаюцца да дзяўчат і канчаюць разам з дзяўчатамі прытупам, адвернутыя да сябе (рыс. 7).

### Фігура 4

Злучаем рукі (№ 1), пары рухаюцца ў напрамку супрацьлеглым гадзіннікавай стрэлцы, крокам асноўным на задні план сцэны (рыс. 8).

На 8 такт хлопцы перакідаюць дзяўчат на другую сторану (ад публікі) хлопцы адвернутыя ў напрамку руху, дзяўчаты наадварот. Глядзім праз плячо на партнёра (рыс. 9).



рыс. 7



рыс. 8



рыс. [illegible]

На 9 такт крок аснаўны з аднвчасовым моцным пахілам (уклонам) наперад. На 10 такт левай нагой крок назад з аднвчасовым выпраставаннем, на 11 такт прытуп левай нагой, на 12 дзяўчаты робяць паўабарот улева з прытупам і затрымоўваюцца ў напрамку руху. Хлопцы прытупваюць на месцы (рыс. 8).

### Фігура 5

Крокам асноўным (палажэнне рук № 1) парамі рухаемся ў напрамку супрацьлеглым гадзіннікавай стрэлкі. Утвараем круг. На

12 такт прытуп. Дзяўчаты затрымоўваюцца з правага боку хлопцаў (рыс. 10).



рыс. 10



рыс. 11

Фігура 6

Дзяўчаты асноўным крокам уваходзяць на два такты ў сярэдзіну круга, тварамі звернутыя да сярэдзіны (рыс. 11). На другі такт прытуп.

Злучаюць левыя рукі, правымі адцягваюць спаднічкі, утвараюць звязду, звязда рухаецца ў напрамку супрацьлеглым гадзіннікавай стрэлкі (рыс. 12).

Хлопцы асноўным крокам абягаюць дзяўчат па крузе з адначасовым пляскаңнем правай рукой па калене правай нагі, левай рукой па калене левай нагі (згодна з крокам № 1 рыс. 12).



рыс. 12

На 8 такт дзяўчаты падбягаюць да хлопцаў (хлопцы затрымоўваюцца на 8 такт на сваіх месцах) і робяць перад хлопцамі абароты (крок № 1, рукі на клубах). Хлопцы ў гэты час робяць прыся-

ды на месцы (крок № 5). На 12 такт прытуп, дзяўчаты ўскокваюць у агульнае кола з абаротам управа. Парамі глядзяць у вочы (рыс. 13).



рыс. 13

Фігура 7

Дзяўчаты і хлопцы пачынаюць асноўны крок з нагі правай з адначасовым злучэннем рук у кручок. Хлопцы падаюць правыя рукі, левыя — пазіцыя нумар 2. Дзяўчаты злучаюць рукі ў кручок. Дзяўчаты робяць гэтае самае, таксама правай рукой. На 1 такт кожная пара злучаецца кручком (рыс. 14).



рыс. 14



рыс. 15

На 2 такт прытуп перад наступным танцорам або танцоўшчыцай. На 8 такт прытуп парамі на сваіх месцах і на 9, 10, 11, 12 тактах абароты. Адначасова ў абаротах пары 1 і 4 разыходзяцца ў паўкруг (рыс. 15).

Фігура 8

Пары 1 і 2 злучаюцца ў адну звязду, а пары 3 і 4 утвараюць другую. У першай хлопец заводзіць дзяўчыну, у другой заводзіць

хлопца дзяўчына. У першай звяздзе злучаем правыя рукі у другой левыя. Дзяўчаты маюць спаднічкі адцягнутыя, хлопцы рукі трымаюць на клубах (рыс. 16).

I звязда II звязда



рыс. 16

На 8 такт прытуп і звёзды пасоўваюцца ў адваротным напрамку. На 11 і 12 такце расходзімся на агульны круг, канчаем прытупам (рыс. 17).



рыс. 17

Фігура 9

Дзяўчаты кладуць рукі на плячах хлопцаў, хлопцы трымаюць дзяўчат у таліі і бакавым крокам (№ 2) рухаюцца ў сярэдзіну кола. На 3 такт хлопцы з адначасовым прытупам злучаюць левыя рукі ўтвараючы звязду. Правыя рукі падаюць дзяўчатам. Дзяўчаты левыя рукі падаюць хлопцам, правымі адцягваюць спадніцы (вялікая звязда) рыс. 18. Хлопцы пасоўваюцца крокам асноўным у напрамку супрацьлеглым гадзіннікавай стрэлкі, дзяўчаты на 1 такт робяць (крок № 1), на 2 такт абарот пад руку, акцэнтуючы тварам у бок хлопца і т. д. (рыс. 18).



рыс. 18

На 12 такт прытуп, рукі кладзем на клубы.

Фігура 12

Злучаем рукі (№ 1) крокам асноўным пара за парай, пасля аднаго круга выходзіць за кулісы.

Апрацаваў **Я. Крупа**



## ЗМЕСТ

**Аўтары здымкаў:**

| | | |
|---|---|---|
| **Рагазінскі Г.** | **стар.** | 5, 7, 9, 13, 27, 32, 52, 119, 122, 124, 128. |
| **Паўлючук Ул.** | **стар.** | 11, 15, 17, 19, 30, 34, 36, 57. |
| **Рудчык. В.** | **стар.** | 21, 29, 29, 30, 33, 35, 37, 38, 41, 47, 48, 55, 68, 71 |
| **Хмялеўскі М.** | **стар.** | 25, 36, 45, 75. |
| **Юзвюк Ул.** | **стар.** | 39, 45, 49. |
| **Пецюкевіч М.** | **стар.** | 23. |